Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання
Рэспублікі Беларусь

Установа адукацыі
«Гродзенскі дзяржаўны аграрны ўніверсітэт»

**Ганчарук Ігар Генадзьевіч**
**Ганчар Андрэй Іванавіч**

# РЫМСКА-КАТАЛІЦКІ КАСЦЁЛ У БЕЛАРУСІ (1772 – 1830 гг.)

**манаграфія**

**Гродна 2012**

УДК 272-9(476) «17/18»
ББК 86.375
Г 19

Рэцэнзенты: доктар гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры гісторыі Беларусі УА «ГрДУ імя Я. Купалы» Марозава С.В.;

кандыдат гістарычных навук, выкладчык кафедры гісторыі Беларусі УА «БДУ ім. А.С. Пушкіна» Марозька К.У.

Рэкамендавана Саветам УА «Гродзенскі дзяржаўны аграрны ўніверсітэт» 10.04.2012 г. (пратакол № 12).

Г 19 **Ганчарук І.Г., Ганчар А.І.** Рымска-Каталіцкі Касцёл у Беларусі (1772–1830 гг.) : манаграфія / І.Г. Ганчарук, А.І. Ганчар. – Гродна : ГДАУ, 2012. – 382 с.

**ISBN 978-985-537-004-9**

У манаграфіі высветлена прававое становішча Рымска-Каталіцкага Касцёла ў Беларусі ў перыяд 1772-1830 гг.; разглядаецца дыяцэзіяльная арганізацыя каталіцкіх манаскіх ордэнаў; праведзены аналіз дзейнасці фармацыйных дамоў (навіцыятаў, студый) і духоўных семінарый Рымска-Каталіцкага Касцёла, а таксама сярэдніх навучальных устаноў для свецкай моладзі і пачатковых (парафіяльных) школаў; раскрыта душпастырская праца і пазакультавая дзейнасць рымска-каталіцкага духавенства.

Манаграфія адрасавана спецыялістам у вобласці гісторыі Рымска-Каталіцкага Касцёла. Вынікі даследвання могуць быць выкарыстаны ў вучэбным працэсе, у рамках чытання вызначаных курсаў і спецкурсаў, пры падрыхтоўцы адпаведных вучэбных, навуковых і навукова-метадычных дапаможнікаў па гісторыі Беларусі і Расіі, айчыннай гістарыяграфіі, гісторыі канфесій.

**ISBN 978-985-537-004-9** УДК 272-9(476) «17/18»
ББК 86.375

*Прысвечана нашаму навуковаму кіраўніку*
*доктару гістарычных навук Святлане Яўгенаўне Сяльверставай*

## ЗМЕСТ

# УВОДЗІНЫ

Гісторыя Каталіцкага Касцёла ў Беларусі мае сваю перыядызацыю, абумоўленую гістарычнымі і культурнымі працэсамі, якія адбываліся на яе тэрыторыі. Важны этап гэтай перыядызацыі – 2-ая пал. XVIII – 1-ая трэць XIX ст. Гэта быў час страты дзяржаўнай незалежнасці Рэчы Паспалітай і прыстасавання дзейнасці Касцёла да новых палітычных умоў у Расійскай імперыі.

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) перад царскім урадам паўстала так званае “каталіцкае пытанне”, якое патрабавала канцэптуальнага і практычнага вырашэння. У перыяд да 1830 г. адбыліся кардынальныя змены ў арганізацыйнай структуры Касцёла, у адпаведнасці з расійскім заканадаўствам была распрацавана яго прававая база, якая ў галоўных рысах захавалася да 1917 г. Пачынаючы ад паўстання 1830-1831 гг. “касцёльная палітыка” ўрада набыла рэпрэсіўны курс, які ставіў за мэту памяншэнне ўплываў Касцёла на грамадства.

Даследаванне дадзенага пяцідзесяцігадовага перыяду гісторыі Касцёла пераклікаецца з сучаснасцю ў такіх падзеях і з’явах, як: аднаўленне дзейнасці дыяцэзіяльных структур, у прыватнасці Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі (1991 г.), наданне кардынальскай годнасці арцыбіскупу Казіміру Свёнтку (1994 г.), павелічэнне колькасці парафій, развіццё пэўных форм рэлігійнасці і душпастырства.

Цікаўнасць да праблем гісторыі канфесій сёння знаходзіцца ў цэнтры ўвагі даследчыкаў. Даследаванне Касцёла ў перыяд крызісных для яго сітуацый дазваляе з іншага боку асвятліць яго, вызначыць здольнасць да дзейнасці ў неспрыяльных для сябе ўмовах. Вывучэнне гісторыі Касцёла ў Беларусі мае значную колькасць недаследаваных праблем. У тым ліку гэта тычыцца перыяду, які ахоплівае час ад падзелаў Рэчы Паспалітай да паўстання 1830-1831 гг. Нераспрацаванасць ці дробнасць асвятлення ў беларускай гістарыяграфіі розных аспектаў становішча Касцёла ў даследуемы перыяд патрабуе спецыяльнага разгляду гэтай тэмы. Гэта тым больш важна, што асобныя яе пытанні закраналіся ў працах расійскіх і польскіх

даследчыкаў, якія падыходзілі да іх з уласных, часцей за ўсё, супрацьлеглых пазіцый. Ні хто не даследаваў арганізацыйную структуру Касцёла ў межах сучаснай Беларусі.

На працягу стагоддзяў Беларусь знаходзілася ў сферах палітычных і культурных уплываў Польшчы і Расіі, яе канфесіянальная гісторыя была тэмай даследавання ў гэтых краінах.

У дарэвалюцыйнай Расіі каталіцтва лічылася замежным веравызнаннем. Яго даследаванне, перапляталася з пытаннем канфесіянальнай і нацыянальнай палітыкі самадзяржаўя [40]. Першыя працы, у якіх закраналіся розныя аспекты дзейнасці Каталіцкага Касцёла ў Расійскай імперыі, з’явіліся ў другой палове XIX ст. Аўтары бачылі ў Касцёле перашкоду русіфікацыі беларускіх зямель, а беларускі народ не разглядалі ў якасці асобнага суб’екту гісторыі.

Адна з першых работ - кніга обер-пракурора Св. Сінода Д. Талстога “Римский католицизм в России”, якая адлюстроўвае афіцыйны пункт гледжання на праблему. У ёй аўтар разглядае асноўныя напрамкі дзейнасці Касцёла і ўхваляе ўрадавыя мерапрыемствы ў дачыненні да яго [129]. Праца М. Сакалова “Католическая пропаганда в России в царствование императора Павла I” больш аб’ектыўная ў даследаванні праблемы [123]. Аўтар акцэнтаваў увагу на прычынах актывізацыі дзейнасці каталіцкага духавенства ў канцы XVIII-пачатку XIX ст. Пры гэтым былі вылучаны акалічнасці не толькі суб’ектыўнага плану, але і аб’ектыўна існуючыя абставіны - спрыяльныя грамадскія настроі, неадукаванасць праваслаўнага прыходскага духавенства і інш.

Традыцыйна ўвагу расійскіх даследчыкаў звяртала пытанне захавання ордэна езуітаў у Расійскай імперыі. Акрамя вышэйзгаданых аўтараў гэта праблема была ў цэнтры ўвагі Ю. Самарына [109], М. Марошкіна [93], А. Папова [104], А. Сапунова [113] і інш. Яны звязвалі захаванне ў краіне езуітаў з імкненнем Кацярыны II, па-першае, выкарыстаць езуіцкае пытанне ў сваёй палітыцы з Рымам, і, па-другое, не абвастраць унутрыпалітычнае становішча на беларускіх землях. У гэтых працах выкрывалася дзейнасць езуітаў, якія, на думку аўтараў,

злоўжывалі сваім асаблівым становішчам і падрывалі падмуркі расійскай манархіі.

Некаторыя аспекты становішча Касцёла закраналіся ў работах, прысвечаных Уніяцкай Царкве. Прадметам разгляду былі акалічнасці пераводу уніятаў у праваслаўе і лацінскі абрад у канцы XVIII-пачатку XIX ст. [41,75,76]. Акрамя таго, у расійскай гістарыяграфіі падымаліся такія пытанні, як Каталіцкі Касцёл і Расійскае біблейскае таварыства [106, с.1-293], канфіскацыя касцёльнай зямельнай уласнасці [60]. П. Жуковіч звярнуў увагу на ролю Галоўнай духоўнай семінарыі ў справе навяртання уніятаў у Рускую Праваслаўную царкву, падкрэсліў праўрадавы характар гэтай установы і недабразычлівасць да яе з боку манаскіх ордэнаў [61].

Звесткі пра навучальныя ўстановы, якімі апекавалася каталіцкае духавенства, змешчаны ў працах, прысвечаных Віленскай навучальнай акрузе [15,16,77,101]. Аўтары гэтых работ асвятлялі ўрадавую палітыку ў галіне адукацыі, падкрэсліваючы, што школы, якія ўтрымлівала каталіцкае духавенства, не апраўдалі аказанага ім уладамі даверу.

Грамадска-палітычныя настроі каталіцкага духавенства разглядаліся расійскімі гісторыкамі пераважна ў кантэксце іх адносін да царскіх улад. Сярод лаяльных прадстаўнікоў духавенства вылучалася ў першую чаргу асоба мітрапаліта С. Сестранцэвіча [49,95]. Варожыя ўраду дзеянні святарства асвятляліся ў сувязі з адмовай некаторых прадстаўнікоў духавенства прымаць вернападданніцкую прысягу і з арганізацыяй у 1796-1797 гг. Віленскай асацыяцыі [52, с.741-743; 54, ч.1, с.100; 105, с.243]. Нешматлікія звесткі аб удзеле асобных ксяндзоў у масонскім руху змешчаны ў спецыяльных працах [55,56].

Пытанні становішча Каталіцкага Касцёла на беларускіх землях закраналі некаторыя сучасныя расійскія даследчыкі, такія як: І. К. Смоліч, А. Р. Андрэеў, У. Б. Лушпай, С. Якавенка. Найбольш грунтоўны характар носіць праца І. К. Смоліча, які даследаваў касцёл праз прызму адносін да яго царскага ўрада і праваслаўнай царквы ў перыяд з канца XVII ст. - да 1917 г. Вызначыўшы тэндэнцыі развіцця Каталіцкага Касцёла, аўтар

звярнуў увагу на спрыяльныя ўмовы, якія склаліся для яго ў часы Кацярыны ІІ, Паўла І і Аляксандра І [65].

А. Р. Андрэеў, У. Б. Лушпай і С. Якавенка аб’ектам увагі абралі дзейнасць ордэна езуітаў. Работа А. Андрэева носіць аглядна-фрагментарны характар. У ёй асвятляецца гісторыя езуітаў ад XVI да XIX ст. Звесткі аб іх дзейнасці ў Расійскай імперыі мінімальныя. Станоўчым бокам выдання з’яўляюцца шырокія дадаткі, сярод якіх дакументы, якія тычацца аднаўлення ордэна езуітаў у Расіі, полацкай езуіцкай Акадэміі, высылцы езуітаў з Расіі [5].

Сучасных расійскіх даследчыкаў цікавіць становішча, якое склалася ў выніку захавання ордэна езуітаў у Расійскай імперыі з пункту гледжання ўзаемаадносін езуітаў з папам. У. Б. Лушпай аналізуе ролю езуітаў у палітыцы Кацярыны ІІ і разглядае іх дзейнасць у святле пастановы папы пра забарону ордэна. Акцэнтаванне аўтарам увагі на пытанні “антыпапскай прапаганды беларускіх езуітаў” носіць некалькі штучны характар, які асабліва заўважаецца на фоне аднаўлення ордэна ў Расіі і іншых краінах [85,86].

С. Якавенка таксама не падтрымлівае такі пункт гледжання. Даследчык апублікаваў фрагмент кнігі ананімнага аўтара XVIII ст. пад назвай “Запіскі аб тым, як было захавана ў Беларусі Таварыства Ісуса” у перакладзе з лацінскай мовы [147]. Храналагічна фрагмент ахоплівае перыяд 1772-1773 гг., калі вырашаўся лёс езуітаў у Расійскай імперыі. З публікацыі вынікае, што Кацярына ІІ у 1772 г. захавала ордэн з мэтай “усяліць жыхарам упэўненасць у нязменным іх становішчы”. З іншага боку, езуіты атрымалі тайную падтрымку ад віленскага біскупа І. Масальскага і правінцыяла Мазавецкай правінцыі ордэна К. Сабалеўскага, якому падпарадкоўваліся беларускія калегіі. Нават сам папа не прадпрыняў рашучых дзеянняў у адносінах да беларускіх езуітаў.

Агляд расійскай гістарыяграфіі па тэме паказвае, што яна мае даволі сціплы характар. Гэту рысу заўважалі таксама як расійскія, так і беларускія даследчыкі [139,с.142-143;42]. У працах дарэвалюцыйных аўтараў Касцёл разглядаецца з афіцыйна-манархічных пазіцый, яго становішча даследуецца пераважна ў сувязі з унутранай і знешняй палітыкай царскіх

улад. Агульным для расійскіх гісторыкаў, як дарэвалюцыйных так і сучасных, з'яўляецца тое, што Касцёл у іх працах адлюстроўваецца як чужародны на расійскіх землях арганізм, які звязаны з польскім нацыянальным элементам. Сярод манаскіх ордэнаў увагу даследчыкаў звярнуў толькі ордэн езуітаў.

У беларускай савецкай гістарыяграфіі не існавала канфесіянальнай гісторыі як асобнай галіны гістарычных ведаў [68,с.3-4]. Аспекты расійскай палітыкі ў дачыненні да Касцёла былі разгледжаны ў невялікай працы заходнебеларускага даваеннага гісторыка М. Ільяшэвіча. Аўтар выкарыстаў багаты фактычны матэрыял і паказаў, што галоўнай задачай расійскай палітыкі ў дачыненні да Касцёла ў 1772-1801гг. было яго падпарадкаванне дзяржаўным структурам і пераўтварэне ў вернападданніцкі орган [63].

У савецкі перыяд вылучаліся работы Я. Н. Мараша, якія захавалі сваё значэнне да сённяшняга дня. На аснове шырокага кола дакументальных крыніц аўтар даследаваў эканамічнае становішча Касцёла і яго даходы, а таксама формы феадальнай эксплуатацыі сялян на касцёльных землях Віленскай дыяцэзіі ў XVI-XVIII ст. Даследчык паказаў павелічэнне колькасці парафій і кляштараў і рост зямельнай уласнасці Каталіцкага  Касцёла [89]. Я. Н. Мараш звярнуў увагу на некаторыя формы пастырскай і пазакасцёльнай дзейнасці духавенства (рэлігійныя брацтвы, адпусты, фэсты, удзел у дабрачыннасці і арганізацыі пачатковых школ), якія ён разглядаў у якасці "ідэалагічнага ўздзеяння Каталіцкага  Касцёла" [90]. Аднак становішча Касцёла на беларускіх землях у складзе Расійскай імперыі не з'яўлялася прадметам даследавання Я. Н. Мараша.

Не знайшоў адлюстравання даследуемы перыяд у калектыўнай працы аўтараў "Католицизм в Белоруссии: традиционализм и приспособление " [71].

Пытанне касцёльнай зямельнай маёмасці ў XVIII-першай палове XIX ст. было аб'ектам увагі П.Г. Казлоўскага, які пры дапамозе статыстычных апрацаванняў паказаў, што да 1830 г. каталіцкае духавенства ў адрозненне ад духавенства іншых канфесій заставалася найбуйнейшым зямельным уласнікам [74]. У. А. Сосна звярнуў увагу на канфіскацыю зямельных уладанняў Касцёла расійскімі ўладамі ў перыяд падзелаў Рэчы Паспалітай

[124]. Секвестру падлягалі землі тых уладальнікаў, якія заставаліся за межамі Расійскай імперыі. Асноўную частку канфіскаванай зямельнай маёмасці Касцёла склалі ўладанні віленскага біскупа і капітулы. Аўтар увёў у навуковы ўжытак новыя архіўныя матэрыялы.

М. М. Улашчык, А. М. Люты і іншыя даследчыкі звярнулі ўвагу на хуткі рост насельніцтва беларускіх зямель у канцы XVIII-першай чвэрці XIX ст. А. М. Люты у сваім даследаванні выкарыстаў багаты статыстычны матэрыял, у якім, у прыватнасці, паказаў дынаміку росту сацыяльнага і веравызнаўчага складу гарадскога насельніцтва. Аднак некаторыя звесткі статыстычных табліц не могуць не выклікаць пэўных пытанняў. Напрыклад, што тычыцца колькасці праваслаўных у гарадах Гродзенскай губерні ў канцы XVIII-пачатку XIX ст. (6447 ці 32,3% ад агульнай колькасці гарадскога насельніцтва губерні, якое складала 19952 жыхароў) [87,с.68,73]. Архіўныя матэрыялы канцылярыі Гродзенскага губернатара паказваюць, што ў 1829 г. на тэрыторыі губерні праваслаўных налічвалася некалькі больш за тысячу чалавек [98, фонд 1, воп.3, спр.422, а.140].

А. П. Грыцкевіч звярнуў увагу на палітыку расійскіх улад у адносінах да праваслаўнага і уніяцкага насельніцтва напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай [46].

Пачынаючы з 1990-х гадоў у беларускай гістарыяграфіі павялічылася колькасць даследаванняў, прысвечаных Каталіцкаму Касцёлу.

У артыкуле С. В. Таляронка ў тэзіснай форме паказаны некаторыя мерапрыемствы ўлад па ўстанаўленню кантролю над Касцёлам [128]. М. У. Смяховіч прадпрыняў спробу прааналізаваць узаемаадносіны расійскіх улад з Касцёлам на працягу 1772-1867 гг. На думку аўтара на працягу даследуемага ім перыяду аснову ўзаемаадносін расійскіх улад з Касцёлам складала ”барацьба” (за выключэннем часоў панавання Паўла I), у аснове якой было супрацьстаянне з мясцовай шляхтай за беларускага селяніна [121].

Аднак, як паказала А. М. Філатава, становішча Касцёла ў Расійскай імперыі ў 1772 г. і ў 1860 г. істотна адрознівалася. Даследчыца прааналізавала канфесіянальную палітыку, якую

праводзіў царскі ўрад на беларускіх землях у 1772-1860 гг. і адзначыла, што яе галоўнай рысай была ўніфікацыя царкоўнага кіравання і структур усіх канфесій у адпаведнасці з кіраваннем, якое склалася ў Расійскай імперыі ў выніку рэформ праваслаўнай царквы ў XVIII ст. А. М. Філатава прыйшла да высновы, што нягледзячы на цэлы шэраг мерапрыемстваў, якія павінны былі абмежаваць дзейнасць касцёла, апошняму ўдалося захаваць свае ўплывы [132].

Становішча Каталіцкага Касцёла знайшло адлюстраванне ў абагульняючай працы "Канфесіі на Беларусі". Гэта калектыўная работа аўтараў, у якой прадстаўлены падрыхтаваныя А. Філатавай раздзелы – "Уніяцкая Царква і Полацкі Сабор 1839 г." і "Адносіны царскага ўрада да каталіцтва" [68, с.5-31]. У іх даследуюцца пытанні канфесіянальнай палітыкі царскага ўрада і акалічнасці пераходу уніятаў у праваслаўе і лацінскі абрад. У вельмі сціслай форме ў працы акрэслены пытанні, якія тычацца адміністрацыйна-тэрытарыяльнай структуры Касцёла, ордэна езуітаў, дзейнасці Віленскай асацыяцыі і Расійскага біблейскага таварыства. Пераходы ўніятаў у лацінскі абрад і ў юрысдыкцыю Рускай Праваслаўнай Царквы закраналіся ў іншых працах А. М. Філатавай, а таксама С. В. Марозавай і У. А. Соснам [92,125,136,137].

Пэўныя звесткі, якія тычацца становішча Касцёла ва Ўсходняй Беларусі змешчаны ў некаторых працах Я.К. Анішчанкі, які даследуе расійскую палітыку на беларускіх землях у часы Кацярыны II [7,8]. У манаграфіі "Беларусь у часы Кацярыны II" становішча Касцёла закранаецца галоўным чынам праз яго ўзаемаадносіны з Уніяцкай Царквой. Аўтар адзначыў вядучую ролю дзяржаўнага апарата ў арганізацыі новых дыяцэзіяльных і епархіяльных структур Каталіцкага Касцёла і Уніяцкай Царквы, а таксама закрануў пытанне юрысдыкцыі гэтых цэркваў. У працы не разглядаюцца пытанні дыяцэзіяльнай рэарганізацыі Касцёла ў 1780-х-1790-х гадах і царская палітыка ў дачыненні да каталіцкіх манаскіх ордэнаў.

Сярод манаскіх ордэнаў, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі, увагу даследчыкаў звярнуў ордэн езуітаў. У савецкія часы дзейнасць езуітаў характарызавалася з негатыўнага боку. У

апошняе дзесяцігоддзе была зроблена спроба па-новаму асэнсаваць ролю ордэна ў гісторыі і культуры Беларусі. Сярод публікацый у перыядычным друку і навукова-папулярных выданнях вылучаліся артыкулы А. Жлуткі, які адзін з першых падкрэсліў станоўчую ролю езуітаў у развіцці адукацыі і асветы на беларускіх землях [59]. Шматлікія артыкулы Т. Б. Бліновай былі пакладзены ў аснову яе манаграфіі, у якой яна перагледзела свой пункт гледжання на ролю езуітаў у адукацыйна-выхаваўчым працэсе [18,19]. На думку даследчыцы дзейнасць езуітаў мела супярэчлівы характар. У пытанні школьнай адукацыі іх праца спрыяла распаўсюджванню адукацыйнага ўзроўню насельніцтва. Урэшце рэшт вынікі іх дзейнасці спрыялі замацаванню пазіцый касцёла. Часопіс полацкіх езуітаў "Miesęcznik Połocki" быў аб'ектам спецыяльнай увагі А. М. Філатавай [135].

Нешматлікія звесткі пра ўдзел прадстаўнікоў каталіцкага духавенства ў масонскіх ложах і ў Віленскай асацыяцыі змяшчаліся ў навуковых артыкулах [6,38,127,143], але прац спецыяльна прысвечаных гэтаму пытанню ў беларускай гістарыяграфіі не існуе.

Сярод персаналіяў увагу даследчыкаў прыцягнулі асобы С. Сестранцэвіча і прэлата С. Шантыра. А. М. Філатава і А. Л. Кіштымаў падкрэслілі ў сваіх працах ролю ў гісторыі даследуемага перыяду мітрапаліта С. Сестранцэвіча, дзякуючы якому становішча Касцёла ў Расійскай імперыі заставалася стабільным да яго смерці ў 1826 г. А. Л. Кіштымаў адлюстраваў дзейнасць С. Сестранцэвіча ў сувязі з унутранай і знешняй палітыкай расійскіх улад [73]. А. М. Філатава адзначыла канцэнтрацыю ў руках С. Сестранцэвіча вялікай духоўнай улады, а таксама паказала дзейнасць мітрапаліта ў галіне навукі і літаратуры [134,138]. Н. Каленік звярнула ўвагу на ролю ў гісторыі мясцовага касцёла прэлата С. Шантыра, які пакінуў пасля сябе працу аб становішчы касцёла ў Расійскай імперыі [313]. Яна адзначыла актыўную рэлігійную, грамадскую і дабрачынную дзейнасць, якую праводзіў ксёндз С. Шантыр [67].

С. Я. Куль-Сяльверстава, якая даследавала фарміраванне культуры Новага часу на беларускіх землях у другой палове XVIII ст. - 1820-х гадах, спецыяльна вылучыла ў сваёй працы

каталіцкае духавенства. [80]. Даследчыца звярнула ўвагу на аб'ектыўны працэс секулярызацыі, які адбываўся ў розных сферах навукі і культуры. У той жа час, мясцовая спецыфіка і палітычная сітуацыя спрыялі захаванню ўплываў на культуру беларускіх зямель каталіцкага духавенства, якое па свайму сацыяльнаму паходжанню было ў большасці шляхецкім і вылучалася ў параўнанні з духавенствам іншых канфесій большай адукаванасцю. Сярод абставінаў, якія спрыялі выгнанню ордэна езуітаў з Расійскай імперыі С. Я. Куль-Сяльверстава называе канкрэтныя палітычныя прычыны, але заўважае, што ў той час, калі ў Расійскай імперыі адбывалася ўзмацненне палітыкі ўніфікацыі, такая аўтаномная структура ў дзяржаве як ордэн езуітаў была непатрэбная і небяспечная [80, с.134,135]. У працы змешчана таксама інфармацыя пра каталіцкія друкарні на беларускіх землях.

С. В. Марозава надала ўвагу распрацоўцы канфесіянальнай гістарыяграфіі айчыннай гісторыі [91, с.156-158]. Важны ўклад у развіццё канфесіянальнай праблематыкі ўнеслі беларускія мастацтвазнаўцы, археолагі і гісторыкі культуры [1, 2, 3, 22, 23, 50, 51, 53, 58, 66, 69, 81, 82, 83, 84, 88, 94, 107,119, 120,148]. У іх працах прадстаўлены матэрыялы, якія тычацца дзейнасці духавенства і культавага будаўніцтва. У некаторых культаралагічных даследаваннях закранаецца пытанне сацыякультурных уплываў каталіцкага духавенства на грамадства беларускіх зямель.

Найбольш значная па тэме польская гістарыяграфія, у якой разглядаецца становішча Касцёла на гістарычных землях Рэчы Паспалітай. Сучасны беларускі фактар у даследаваннях польскіх аўтараў, як правіла, не ўлічваецца. Тэрмін "Беларусь" лакалізуецца ў дачыненні да пэўнай тэрыторыі – зямель, якія пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай адышлі ў склад Расіі і на якіх Кацярына II арганізавала Беларускую дыяцэзію.

У польскай гістарыяграфіі становішча і дзейнасць Каталіцкага Касцёла аналізуецца ў розных напрамках – палітычным, грамадскім, адміністрацыйна-тэрытарыяльным. Аўтары даследуюць формы пастырскай дзейнасці духавенства, распаўсюджванне пэўных культаў, спецыфіку манаскіх ордэнаў, рэлігійнасць мас і іншыя пытанні. Вылучаюцца калектыўныя

работы, у якіх паказаны розныя напрамкі дзейнасці духавенства ў цеснай сувязі з сацыяльна-культурным развіццём грамадства [219,240,243,245,267]. З гістарыяграфічных распрацовак найважнейшай застаецца праца Т. Крахеля, якая прысвечана гістарыяграфіі Віленскай архідыяцэзіі [247]. У ёй разгледжаны практычна ўсе польскія працы па тэме (да 1979 г.). Аднак іх аналіз розніцца, адны работы характарызуюцца змястоўна, другія – павярхоўна.

Найбольш падрабязна ў польскай гістарыяграфіі паказана адміністрацыйна-тэрытарыяльная структура Касцёла ў Расійскай імперыі, яго прававое становішча і канфесіянальная палітыка расійскага ўрада. Сярод прац XIX – пачатку XX ст., якія не страцілі сваёй актуальнасці, трэба вылучыць работы С. Шантыра [313], В. Пшыалгоўскага [296], А. Ельскага [226] і Я. Курчэўскага [259,260]. Праца прэлата С. Шантыра месцамі нагадвае дзённік. Аўтар быў сучаснікам і ўдзельнікам многіх падзей, якія апісаў. Работа суб’ектыўная, але перадае асаблівасці эпохі і змяшчае багаты фактычны матэрыял. Нарыс А. Ельскага з’яўляецца адной з нешматлікіх прац, прысвечаных Мінскай дыяцэзіі. У работах Я. Курчэўскага па гісторыі Віленскага біскупства ўтрымліваецца матэрыял, які ахоплівае пастырскую, дабрачынную і адукацыйную дзейнасць духавенства. На сённяшні дзень гістарыяграфія Віленскай дыяцэзіі дапоўнена новымі працамі.

Сярод іншых работ XIX - пачатку XX ст. трэба вылучыць манаграфію Я. Івашкевіча, у якой змешчаны звесткі аб становішчы Касцёла ў часы французскай акупацыі ў 1812 г. [220]. Бібліяграфічнай рэдкасцю з’яўляюцца “Статыстычныя звесткі Магілёўскай архідыяцэзіі”, якія з’явіліся ў 1823 г. і ніколі не былі ў продажы [328]. Звесткі носяць характар навуковага апрацавання па шырокіх аспектах становішча архідыяцэзіі на пачатку 1820-х гг. Сярод ранніх прац вылучаецца таксама статыстычнае апрацаванне Гродзенскай губерні І. Ляхніцкага, у якім прадстаўлены матэрыял па каталіцкіх парафіях і навучальных установах [262]. Акалічнасці пераводу уніятаў у рымскі абрад на пачатку XIX ст. закрануты ў вядомай працы Э. Лікоўскага [265, s.241-272]. Мерапрыемствы па ўзвышэнню статуса Каталіцкага  Касцёла ў канцы XVIII- пачатку XIX ст. і

асоба мітрапаліта С. Сестранцэвіча былі ў цэнтры ўвагі прафесара Пецярбургскай Рымска-Каталіцкай духоўнай акадэміі М. Гадлеўскага [212].

Царскую палітыку ў галіне школьнай адукацыі, а таксама гісторыю асобных навучальных устаноў закраналі В. Студніцкі [311] і П. Хмелёўскі [169]. Звесткі аб дабрачыннай дзейнасці духавенства змешчаны ў “Запісках” Ф. Гедройча і ў часопісе “Гісторыя дабрачыннасці”, у якім прадстаўлены матэрыялы пра дзейнасць марыявітак, рохітаў, баніфратаў [178,197]. Адным з першых хто падаў абагульняючыя звесткі пра каталіцкія кляштары ў XIX ст. быў Я. Тышкевіч [321,322], аднак сёння яго працы з’яўляюцца састарэлымі.

Новы імпульс развіццю польскай гістарыяграфіі Касцёла быў нададзены ў XX ст., калі Польшча атрымала дзяржаўную незалежнасць. Больш падрабязна пачало разглядацца прававое становішча касцёла ў XIX ст. Найбольш значнымі ў гэтай галіне сталі працы А. Петрані [289], Б. Кумара [255,258], Т. Крахеля [249] і інш. А. Петрані падрабязна разглядзеў асаблівасці адміністрацыйнага падпарадкавання Касцёла ў Расіі, функцыі мітрапаліта С. Сестранцэвіча і Рымска-Каталіцкай духоўнай калегіі, нормы падачы апеляцый і іншыя пытанні. Прадметам даследаванняў Б. Кумара былі дыяцэзіяльныя структуры, у тым ліку духоўныя семінарыі. Значную ўвагу ён надаў пытанню кананічнасці паўнамоцтваў С. Сестранцэвіча і Рымска-Каталіцкай духоўнай калегіі. У цэнтры ўвагі Т. Крахеля - адміністрацыйныя структуры Віленскай дыяцэзіі. Абагульняючай працай, у якой былі ўлічаны ўсе папярэднія даследаванні, з’яўляецца юбілейны зборнік, падрыхтаваны калектывам аўтараў да 600-годдзя Віленскай архідыяцэзіі [312]. Значны прабел у даследаванні гісторыі Мінскай дыяцэзіі быў ліквідаваны выданнем у 1998 г. рукапіса Яна Барэйкі Ходзькі, у якім разглядаюцца дыяцэзіяльныя і ордэнскія структуры дыяцэзіі каля 1830 г.[170]. Каштоўнай крыніцай для параўнальнага аналізу з’яўляецца апрацаванне С. Літака, у якім пададзены адміністрацыйныя структуры Касцёла ў Рэчы Паспалітай каля 1772 г. [267]. Гісторыі Смаленскай дыяцэзіі прысвечана праца Т. Длугаша [172]. Адзінай спецыяльнай працай аб вышэйшым духавенстве цэнтральных і ўсходніх

зямель Беларусі застаецца апрацаванне Я. Васілеўскага ў дачыненні да Магілёўскай архідыяцэзіі [327]. Пытанне ўзвышэння Віленскага біскупства шляхам надання яму мітрапаліцкага статуса падымаў М. Будзярэк [168]. Т. Крахель паказаў, якую вялікую ролю ў даследаванні Касцёла маюць схематызмы – штогадовыя спісы дыяцэзіяльнага духавенства і ўсіх дыяцэзіяльных стуктур [248].

Канфесіянальная палітыка царызму ў дачыненні да Каталіцкага Касцёла аналізуецца ў тых ці іншых аспектах у пераважнай большасці прац па гісторыі касцёла. Спецыяльна гэта пытанне разглядалі М. Лёрэт [268-272], Л. Жытковіч [344], В. Урбан [323] і іншыя. Л. Жытковіч прыводзіць малавядомыя факты ў перыяд рэарганізацыі касцёла ў часы Кацярыны ІІ пасля другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай. М. Лёрэт характарызуе палітыку Рыма ў дачыненні да Расіі як неспрыяльную для польскага вызваленчага руху [272]. У гістарыяграфіі сацыялістычнай Польшчы падкрэслівалася рэзка негатыўная роля палітыкі папства, яднанне яго з рэакцыйнымі ахоўніцкімі сіламі Еўропы, у тым ліку па пытанню адраджэння польскай дзяржавы [151]. Пытанні канфесіянальнай палітыкі царызму асвятляюцца ў працах М. Радвана, які займаецца гісторыяй Уніяцкай Царквы ў Расійскай імперыі [297-299]. У 1928 г. на польскай мове была выдадзена манаграфія французскага даследчыка А. Буду, прысвечаная дыпламатычным сувязям Расіі з Рымам у XIX ст. [166]. Звесткі, якія тычацца пазіцыі царскага ўрада ў галіне касцёльнага будаўніцтва, змешчаны ў артыкуле В. Баберскага [162].

У польскай гістарыяграфіі Касцёла дастаткова падрабязна асветлена дзейнасць манаскіх ордэнаў. Існуе багатая літаратура, у якой разглядаюцца як абагульняючыя пытанні, так і вузка спецыяльныя. У працах закранаюцца аспекты, якія тычацца арганізацыі манаскіх ордэнаў, царскай палітыкі ў дачыненні да іх, а таксама асноўныя напрамкі дзейнасці манаства. У той жа час, заўважаецца вялікая дыспрапорцыя ў ступені даследавання гісторыі асобных ордэнаў у даследуемы перыяд. Адсутнічаюць ці прадстаўлены фрагментарна матэрыялы аб манаскіх ордэнах: аўгусцінцаў, камуністаў, рохітаў, канонікаў рэгулярных ад пакуты, баніфратаў,

трынітарыяў, кармелітаў абутых, духоўна-рыцарскаму ордэну мальтыйцаў [324,251,301,208,264]. Некалькі лепш асветлена дзейнасць картэзіянцаў, цыстэрцыянцаў і канонікаў рэгулярных латэранскіх [295,330,234,218,202,171]. Ёсць спецыяльныя даследаванні, прысвечаныя бенедыкцінцам [230,231,233,234,337]. Найбольш прац прысвечана тым манаскім ордэнам, кляштары якіх колькасна пераважалі. З групы жабрацкіх ордэнаў гэта францысканцы [316,195,161,307,187,155,224], бернардзінцы [234,238,235,236,216], дамініканцы [173,310,206,207], кармеліты босыя [246,325,326]. З групы клерыкаў рэгулярных знайшлі адлюстраванне некаторыя аспекты дзейнасці марыянаў [275,280], місіянераў [174,211,252,305], піяраў [149,201,300], езуітаў [271,203,290,339,340,159,167]. Сярод абагульняючых прац вылучаецца даследаванне П.П.Гаха, якое ахоплівае перыяд 1773-1914 гг. [194]. У працы прааналізаваны арганізацыйныя структуры манаскіх ордэнаў і іх пастырская дзейнасць, акрамя таго змешчаны грунтоўны статыстычны матэрыял. У іншых работах аўтар разглядае ліквідацыю кляштараў на гістарычных землях Рэчы Паспалітай ў XIX ст. [191,192,193].

Пастырскую дзейнасць ордэнскага духавенства разглядае Е. Фляга [183,184,185,186]. Манаскім ордэнам, якія ўзніклі на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, прысвечана работа Я. Бара [152]. Становішчу мужчынскіх манаскіх ордэнаў у Рэчы Паспалітай і ў Расійскай дзяржаве прысвечаны работы Е. Клачоўскага [241,242].

У дачыненні да гісторыі жаночых ордэнаў бібліяграфічныя пазіцыі дастаткова сціплыя. Звесткі інфармацыйнага плану змешчаны ў абагульняючых працах [259,170,312,267,238]. Спецыяльныя даследаванні прысвечаны некаторым аспектам дзейнасці марыявітак [213,261,229] і шарытак [302,304]. Акалічнасці манаскай клаўзуры гродзенскіх брыгітак змешчаны ў артыкуле У. Талочкі [319].

Значнае месца ў польскай гістарыяграфіі Касцёла займаюць працы, прысвечаныя рэлігійнаму культу, асабліва культу Маці Божай [163,225,281]. Спецыяльныя работы прысвечаны каранаваным і цудадзейным абразам Маці Божай [153,188,282,336]. Актуальным застаецца артыкул Ч.

Фалькоўскага аб святкаванні Юбілейнага 1825 г., у якім паказана актыўная дзейнасць дамініканскіх місій на ўсходзе Беларусі [182]. Пытанню штодзённага рэлігійнага жыцця надаў увагу І. Ляхніцкі, які пісаў пра побыт сялян Гродзенскага павета на пачатку XIX ст. [263]. Рэлігійная самасвядомасць у XIX ст. з'яўляецца прыярытэтнай тэмай даследаванняў Д. Альшэўскага, які паказаў асаблівасці народнай рэлігійнай свядомасці [283,285]. Даследчык заўважыў, што тэма рэлігійнасці XIX ст. мае актуальнае значэнне не толькі для польскай навукі, але і для беларускай, таму што ў гэты час адбыліся змены ў ментальнасці абодвух народаў [284, s.2].

Польскія гісторыкі надаюць важнае значэнне даследаванню дачынення каталіцкага духавенства да патрыятычных рухаў і арганізацый у канцы XVIII-першай трэці XIX ст. Адзначаюцца розныя падыходы ў пытанні ролі духавенства ў паўстанні 1794 г. На думку Я. Тазбіра і Г. Дылёнговай у асяроддзі духавенства існаваў раскол. Большасць духавенства не падтрымала паўстанне. Вышэйшы клір выказаў пакорлівасць расійскім уладам, а ніжэйшаму духавенству была не зразумела ідэя паўстання. Я. Зюлак і П. П. Гах разглядзелі формы супрацоўніцтва асобных ксяндзоў і манахаў з паўстанцамі і на гэтай аснове зрабілі выснову аб падтрымцы паўстання духавенствам, якое ”было разам з народам” [177, s.26,36-38; 318, s.186-187; 343, s.125-143; 196, s.154-169]. Г. Дылёнгова адзначыла, што ў сваёй большасці каталіцкі клір да 1830 г. захоўваў лаяльнасць да расійскіх улад і не ўдзельнічаў, за выключэннем асобных выпадкаў, у канспірацыйных арганізацыях [177,s.36-39,69,84]. Дзейнасць Віленскай асацыяцыі аналізавалася ў працах даваенных і пасляваенных даследчыкаў [160,278,254]. У работах С. Малахоўскага-Лямпіцкага, С. Пігоня і Л. Гааса змешчаны звесткі аб удзеле некаторых ксяндзоў у масонскіх ложах [217,274,292].

Шмат даследаванняў прысвечана навучальным установам, якімі апекаваўся Каталіцкі Касцёл. Найбольш значнымі з іх з'яўляюцца работы Л. Заштаўта [342] і Д. Бавуа (у перакладзе з французскай мовы) [157]. У апошняга школьная адукацыя ва Ўсходняй Беларусі ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі асветлена некалькі фрагментарна. Звесткі пра школы Віленскай

навучальнай акругі падаюцца ў працы М. Амбраса [150]. Школы Мінскай губерні ў 1819 г. разглядаюцца ў матэрыялах візітацыі Я. Твардоўскага [320]. Асобныя аспекты дзейнасці школ закранаюцца ў працах Я. Гіжыцкага [200,205], Ю. Ядкоўскага [228], К. Бартніцкай [156], А. Вайткоўскага [332]. Школьная адукацыя часоў адукацыйнай камісіі ў Вялікім княстве Літоўскім разгледжана І. Шыбяк [314].

Польская гістарыяграфія падымае такія пытанні, як культаралагічны аспект дзейнасці Касцёла, яго роля ў фарміраванні нацыянальнай (польскай) самасвядомсці. У гэтых працах Касцёл і пэўныя праявы рэлігійнага жыцця (патрыятычныя набажэнствы, рэлігійная сімволіка, некаторыя формы культу) разглядаюцца як формы легальнай апазіцыі русіфікатарскай палітыкі царызму [179,222,239,287,294], падкрэсліваецца роля рэлігійнага выхавання і кляштараў, як асяродкаў польскай культуры. Становішча Касцёла ў канцы XVIII - першай трэці XX ст. закранаецца ў польскіх энцыклапедычных выданнях [180,181,293].

У 1964 г. на рускай мове была надрукавана праца нямецкага даследчыка Э. Вінтэра “Папство и царизм”, у якой асвятлюцца мерапрыемствы царскага ўрада ў адносінах да Касцёла ў сувязі з расійскай знешняй палітыкай [20].

Абсалютная большасць надрукаваных па тэме крыніц была выдадзена ў часы Расійскай імперыі. Гэта галоўным чынам зборы заканадаўчых матэрыялаў, якія рэгулявалі прававое становішча Касцёла ў Расійскай дзяржаве. Часам у іх змяшчаліся найбольш важныя распараджэнні вышэйшай духоўнай улады. Гэтыя выданні, рознай змястоўнасці і накіраванасці, выдаваліся на працягу канца XVIII-пачатку XX ст.

У 1780-х гадах былі надрукаваны імянныя ўказы Кацярыны II у дачыненні да Каталіцкага Касцёла [64]. У зборнік увайшоў Рэгламент 1769 г. і дакументы аб арганізацыі Беларускай дыяцэзіі. У 1816 г. у друку з’явіліся пастановы, якія тычыліся акалічнасцей выдалення езуітаў з Санкт-Пецярбурга і Масквы [122]. Больш багаты матэрыял, які змяшчаў касцёльныя дакументы, у тым ліку акты нунцыяў Аркецці, Літты, папскія булы, а таксама пастановы свецкай улады, быў выдадзены ў 1849г. [4]. Асаблівасці становішча Каталіцкага Касцёла ў

Расійскай імперыі закрануты ў ананімнай брашуры афіцыйнага зместу, якая была апублікавана ў 1867г. [131]. Звесткі пра апазіцыйна настроеных піяраў, зямельныя страты віленскага біскупа і капітулы змешчаны ў дакументальным зборніку, які прысвечаны адміністрацыйнаму ўладкаванню беларуска-літоўскіх зямель у 1792-1796 гг. [114]. Найбольш значным друкаваным зборам матэрыялаў, які цалкам прысвечаны каталіцкай праблематыцы, з’яўляецца зборнік актаў і дакументаў, якія сабраў І. Белаголаў [17]. У гэтым выданні змешчаны практычна ўсе найбольш важныя дзяржаўныя дакументы, якія тычацца прававога становішча Касцёла, а таксама матэрыялы аб распачатай на пачатку XIX ст. кампаніі па пераводу уніятаў у каталіцтва. Дакументы па гэтай акцыі прадстаўлены таксама ў архіве заходнерускіх уніяцкіх мітрапалітаў [100]. Шматлікія матэрыялы па гісторыі навучальных устаноў змешчаны ў спецыяльных зборніках [115,116]. Практычна ўсе дакументы ўрадавага зместу адлюстраваны ў Зборы законаў Расійскай імперыі [102,103].

Дастаткова поўна апублікаваны дакументы, якія тычацца дыяцэзіяльнай рэарганізацыі Касцёла і правілаў яго зносін з Рымам. У той жа час дакументы касцёльных органаў кіравання прадстаўлены даволі сціпла. Слаба адлюстравана дзейнасць каталіцкіх манаскіх ордэнаў, акрамя езуіцкага.

Важнай крыніцай з’яўляецца дыпламатычная перапіска міністэрства замежных спраў Расіі з расійскімі пасланнікамі ў Рыме, якая была надрукавана ў савецкія часы ў зборніку дакументаў “Внешняя политика России XIX и начала XX в.“ [21]. Інструкцыі расійскім пасланнікам, якія змешчаны ў гэтым зборніку, адлюстроўваюць кола пытанняў для абмеркавання з прадстаўнікамі Апостальскай Сталіцы і асноўныя задачы царскай палітыкі ў дачыненні да Каталіцкага Касцёла.

Уяўляюць цікавасць дзённікі арцыбіскупа С. Сестранцэвіча [54], якія адлюстроўваюць ролю мітрапаліта ў рэлігійным і грамадскім жыцці Расійскій імперыі і дзённікі візітатара дамініканскіх кляштараў за 1821-1832 гг. [10], цікавыя з пункту гледжання захавання ўплываў Касцёла ў 1820-х гг.

Адносна невялікая частка друкаваных крыніц па тэме была выдадзена ў розныя часы на польскай мове. Сярод іх

вылучаецца зборнік дакументаў, падрыхтаваны Г. Масціцкім [279], які змяшчае матэрыялы аб Віленскай асацыяцыі 1796-1797 гг. Некаторыя булы надрукаваны ў зборніку, які прысвечаны папскай палітыцы ў дачыненні да польскіх зямель [286]. Інструкцыя для генеральнай візітацыі Віленскай дыяцэзіі ў 1828 г. утрымлівае інфармацыю аб дыяцэзіяльнай структуры і рэлігійнай практыцы вернікаў [331]. Малавядомыя звесткі аб школьнай дзейнасці дамініканцаў утрымліваюцца ў лістах Я. Завадскага, вядомага віленскага кнігавыдаўца [276]. У адным з лістоў Я. Завадскага ад 12 кастрычніка 1809 г. да князя А. Чартарыйскага даецца характарыстыка эпохі ў дачыненні да польскай асветы і адукацыі, як “калі не залатой, дык срэбнай, напэўна” [276, s.25].

У працы выкарыстаныі матэрыялы айчынных і замежных архіваў. Гэта фонды дыяцэзіяльных структур Мінскай дыяцэзіі і Магілёўскай архідыяцэзіі гістарычнага архіва ў Мінску і Віленскай дыяцэзіі гістарычнага архіва ў Гродне. Акрамя таго, выкарыстаны крыніцы фонда дэпартамента духоўных спраў замежных веравызнанняў Расійскага дзяржаўнага гістарычнагага архіва ў Пецярбургу.

Гэта галоўным чынам дакументы дыяцэзіяльных структур, якія ніколі не друкаваліся. Яны паходзяць з дыяцэзіяльных кансісторый, дэканатаў і парафій. У іх уваходзяць распараджэнні вышэйшых органаў кіравання касцёлам, пастырскія лісты біскупаў, акты візітацый, распараджэнні і справаздачы дэканаў, інвентары касцёлаў, у якіх утрымліваюцца звесткі аб маёмасным стане парафій, рэлігійных брацтвах, шпіталях, парафіяльных школах, мясцовым кульце святых і інш. Дакументы гэтай групы дазваляюць уявіць, як праходзіў працэс прыстасавання Касцёла да палітычных рэалій Расійскай імперыі, якія ў сувязі з гэтым распрацоўваліся мерапрыемствы і як выконваліся царскія ўказы. У крыніцах адлюстраваны асноўныя формы дзейнасці духавенства, якія рэгламентаваліся расійскім заканадаўствам.

Іншую групу дакументаў складаюць матэрыялы канцылярый грамадзянскіх губернатараў. У іх знаходзяцца шматлікія матэрыялы, якія адлюстроўваюць камунікатыўную сувязь дзяржаўных структур з дыяцэзіяльным кіраўніцтвам і

ўтрымліваюць звесткі аб маёмасным становішчы Касцёла, культавых пабудовах, колькасці і складзе вернікаў, наяўнасці шпіталяў і школ, дабрачыннай і іншай дзейнасці духавенства.

Галоўнай айчыннай крыніцай па даследаванню Мінскай дыяцэзіі з’яўляецца фонд Мінскай духоўнай кансісторыі [99,ф. 937]. Найбольш поўна ў ім прадстаўлены дакументы агульнакасцёльнага і агульнадыяцэзіяльнага характару. Гэта шматлікія ўказы і распараджэнні духоўнай і свецкай улады, вынікі візітацыі дыяцэзіі ў 1810 г. біскупам Я. Дэдэркам, а таксама дакументы перыяду вайны 1812 г. - адозвы і распараджэнні французскіх улад, якія чыталіся ў касцёлах, дакументы аб набажэнствах у гонар Напалеона і інш.

Найбольш значным айчынным фондам па тэме даследавання з’яўляецца фонд Магілёўскай духоўнай кансісторыі [99,ф.1781]. Ён стаў асновай для характарыстыкі становішча кляштараў і іх унутранага распарадку. Значэнне маюць спісы кляштараў 20-х гадоў XIX ст. [99, ф. 1781, воп.28, спр.20,26,32], звесткі аб зменах, якія адбыліся ў парафіяльнай сетцы Касцёла пасля выгнання езуітаў [99,ф.1781, воп.28, спр.26,215], інфармацыя аб парафіяльных школах.

Матэрыялы гістарычнага архіва ў Гродне з’яўляюцца адзінай айчыннай крыніцай па даследаванню Віленскай дыяцэзіі. У першую чаргу гэта фонды Гродзенскага дэканата [98,ф.886], гродзенскага фарнага [98,ф.259] і некаторых іншых касцёлаў [98,ф.486,ф.1721,ф.1810], якія ўтрымліваюць распараджэнні вышэйшых улад, пастырскія лісты, візітацыі, статыстычныя апрацаванні, звесткі аб мясцовых культах, змаганні духавенства з язычніцкімі звычаямі вернікаў і інш. Фонд Гродзенскага дэканата дазваляе адлюстраваць камунікатыўную сувязь з віленскай духоўнай кансісторыяй з 1798 г. да 1830 г. (за выключэннем некалькіх гадоў).

Багаты статыстычны матэрыял змешчаны ў фондзе канцылярыі гродзенскага грамадзянскага губернатара [98,ф.1]. Гэта падрабязныя звесткі аб колькасці ў Гродзенскай губерні касцёлаў, кляштараў, духавенства, вернікаў, навучальных устаноў, шпіталяў. Іншыя дакументы фонду адлюстроўваюць шырокае кола пытанняў, якія падлягалі ўрэгуляванню з Касцёлам праз грамадзянскае заканадаўства (будаўніцтва

касцёлаў, фінансавыя спрэчкі, правілы выезду ў Царства Польскае, дзейнасці замежных ксяндзоў і інш.).

У Гродзенскім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі змяшчаецца нязначная колькасць крыніц па тэме даследавання. У асноўным гэта выпадковыя разрозненыя дакументы, якія, аднак,ніколі не былі ў цэнтры ўвагі даследчыкаў. [14, кп 15758].

Багаты дакументальны матэрыял (папскія булы, царскія ўказы, статыстычныя матэрыялы) захоўваецца ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу [108]. У фондах прадстаўлены дакументы, прысвечаныя С. Сестранцэвічу, у прыватнасці, дазвол на выкарыстанне знакаў кардынальскай годнасці без правоў, якія выцякаюць з гэтага тытулу (1798 г.). Матэрыялы архіва адлюстроўваюць становішча Касцёла ва ўсёй архідыяцэзіі, таму патрабуюць уважлівага разгляду ў тых пытаннях, якія тычацца тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Архіўныя крыніцы асвятляюць тэму ў розных аспектах, удакладняюць і верыфікуюць фактычны матэрыял, адлюстроўваюць арганізацыйную структуру Касцёла і дзейнасць духавенства. Упершыню па даследуему перыяду апрацаваны і прадстаўлены ў табліцах статыстычныя звесткі, якія тычацца становішча Рымска-Каталіцкага Касцёла на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Падрыхтоўка выдання стала магчымай у выніку падтрымцы ідэі Саветам універсітэта УА «Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага ўніверсітэта». Дадзеная манаграфія павінна стаць працягам раней апублікаваных прац Ганчара А.І. і Папова М.А., прысвечаных становішчу Рымска-Каталіцкага Касцёла ў Беларусі ў складзе Расійскай імперыі. Даследаванне падрыхтавана намеснікам дырэктара па навуковай рабоце Гродзенскага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі, канд. гіст. навук Ганчаруком І.Г., дадаткі – канд. гіст. навук, заг. кафедры эканамічнай тэорыі УА «Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага ўніверсітэта» Ганчаром А.І.

# ГЛАВА 1. ПРАВАВОЕ СТАНОВІШЧА КАТАЛІЦКАГА КАСЦЁЛА

Пасля далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі статус Каталіцкага Касцёла ў дзяржаве змяніўся кардынальным чынам. У Рэчы Паспалітай каталіцтва было пануючым веравызнаннем. Сеймавыя канстытуцыі 1717 г. і 1733 г. заканадаўча замацавалі абмежаванне правоў іншаверцаў. У 1768 г. дысыдэнты пры падтрымцы Расіі і Прусіі дамагліся ўраўноўвання правоў з католікамі, як у справах культу, так і доступу да дзяржаўных структур. У 1775 г. дысыдэнты былі пазбаўлены права быць сенатарамі і працаваць ва ўрадавых установах. Падчас працы Чатырохгадовага сейма былі прадпрыняты захады па стварэнню аўтакефальнай праваслаўнай царквы, аднак у выніку падзелаў краіны гэтыя планы не былі здзейснены.

Прывілеяванае становішча Касцёла было замацавана Канстытуцыяй 3 мая 1791 г., у якой каталіцкая вера “з усімі яе правамі” была абвешчана нацыянальнай (“народнай”) і “пануючай рэлігіяй”. Пераход католікаў у іншае веравызнанне забараняўся. Артыкул 3 пастановы Гродзенскага сейма 1793 г. абвясціў “святую каталіцкую рымскую веру абодвух абрадаў” дзяржаўнай рэлігіяй [219, s.98]. Главой Каталіцкага Касцёла ў Рэчы Паспалітай быў прымас, абавязкі якога выконваў арцыбіскуп мітрапаліт Гнезна. Беларускія землі ўваходзілі ў склад Віленскай дыяцэзіі Гнезненскай мітраполіі, Луцкай і Кіеўскай дыяцэзій Львоўскай мітраполіі.

Пад уплывам ідэй Асветніцтва ў Рэчы Паспалітай узмацніліся тэндэнцыі пашырэння аўтаноміі мясцовага Касцёла ад Рыма. Каб менш быць залежным ад папскага нунцыя, кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў 1768 г. прызначыў у Рыме свайго прадстаўніка. Для падпарадкавання касцёльнай адміністрацыі дзяржаве рашэннем Чатырохгадовага сейма дыяцэзіяльныя біскупы пераводзіліся на дзяржаўнае ўтрыманне, іх сталовыя маёнткі пераходзілі ў дзяржаўны фундуш. Праўда, некалькі пазней гэта рашэнне было адменена Гродзенскім сеймам 1793 г.

У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай да Расіі адышлі этнічныя беларускія, літоўскія і украінскія землі агульнай плошчай 460 тыс.км² (62% ад тэрыторыі ўсёй Рэчы Паспалітай у межах 1772 г.) з насельніцтвам 6,9 млн. чалавек (45% ад колькасці насельніцтва ў 1772 г.). Дамінавалі праваслаўныя (2,8 млн.), рыма-каталікі (2,1млн.) і уніяты (1,6 млн.) [266, s.454-457]. Праваслаўныя жылі, галоўным чынам, на ўкраінскіх землях і ўсходзе Беларусі. На беларуска-літоўскіх землях пераважалі каталікі і уніяты. У Вялікім княстве Літоўскім уніяты складалі 39%, каталікі 38%, праваслаўныя 6,5% [68, с.5]. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай расійскімі падданнымі сталі каля 800 тыс. уніятаў, 300 тыс. праваслаўных і 100 тыс. каталікаў [268, s.V,1].

У Расіі праваслаўная вера была пануючай, а Праваслаўная Царквападпарадкавана дзяржаўнай юрысдыкцыі. Каталіцтва вызнавалі галоўным чынам перасяленцы з Заходняй Еўропы. Каталіцкія абшчыны не мелі дыяцэзіяльнай арганізацыі. Іх прававое становішча вызначалася Рэгламентам 1769 г., які прадугледжваў вырашэнне спраў непасрэдна, абыходзячы Рым [102, т.XVIII, с.833-840]. З 1766 г. справы каталіцкіх абшчын знаходзіліся ў кампетэнцыі Юстыц-калегіі. Місіянерская дзейнасць каталіцкага духавенства забаранялася, ролю духоўных пастыраў павінны былі выконваць францысканцы і капуцыны, якіх запрашала Юстыц-калегія [102, т.XVIII, с.833-840]. Такім чынам, прынцыпы прававога становішча Каталіцкага  Касцёла ў Расіі былі закладзены яшчэ да падзелаў Рэчы Паспалітай.

З далучэннем заходніх зямель да расійскай дзяржавы ў сферы зносін з Касцёлам паўсталі новыя задачы. У Рэчы Паспалітай існавала развітая сетка парафій, дыяцэзіяльныя стуктуры, свабодна здзяйснялася асветніцкая, дабрачынная і місіянерская праца каталіцкага духавенства. Таму царскі ўрад зацікаўлены быў у тэрміновай кадыфікацыі прававых норм дзейнасці Касцёла ў адпаведнасці з Рэгламентам 1769 г. і расійскім заканадаўствам. Акрамя таго, прававое становішча Касцёла ў дзяржаве павінна было адпавядаць палітыцы па замацаванню новых зямель у складзе імперыі.

Важнай часткай гэтай палітыкі было прававое абгрунтаванне набыцця беларуска-літоўскіх зямель. У перыяд падзелаў Рэчы Паспалітай у царскіх маніфестах і ўказах яно згадваецца не аднойчы, але найбольш разгорнутую форму прымае ў маніфесце Кацярыны II ад 13 красавіка 1793 г. У ім яскрава вылучаюцца два аспекты. Па-першае, набытыя Расіяй землі не з'яўляюцца чужымі, а ў смутныя часы адабраныя і зараз вернутыя і, па-другое, гэта пазбаўленне насельніцтва ад анархіі, якая нібыта ўсталявалася ў краі, і забеспячэння спакою ў ім [102, т.XXIII, с.419-420].

У рэчышчы гэтай палітыкі трэба разглядаць абавязкі, якія брала Расія па ахове веравызнання каталіцкіх вернікаў (пры ўмове прыняцця апошнімі вернападданніцкай прысягі). Гэтыя абавязкі паўтараюцца ў міжнародных трактатах (ад 5 жніўня 1772 г., 18 верасня 1773 г., 13 кастрычніка 1795 г.), царскіх указах і маніфестах (ад 16 жніўня 1772 г., 12 мая 1774 г., 8 снежня 1792 г., 14 снежня 1795 г.), распараджэннях генерал-губернатараў (ад 5 верасня 1772 г., 13 ліпеня 1779 г., 27 сакавіка 1793 г., 30 кастрычніка 1794 г.) і іншых дакументах. Напрыклад, у трактаце па выніках другога падзелу Рэчы Паспалітай ад 11 ліпеня 1793 г. сама Кацярына II урачыста "за сябе, спадчыннікаў і прыемнікаў сваіх" абяцала, што не будзе выкарыстоўваць самадзяржаўнае права супраць рыма-католікаў абодвух абрадаў і пакіне іх на вечныя часы пры спакойнай прыналежнасці пераваг, уласнасці і касцёлаў, пры свабодным адпраўленні набажэнстваў і касцёльнага парадку [102,т.XXIII, с.446]. Дэкларацыі Кацярыны II павінны былі заспакоіць мясцовае насельніцтва і прадухіліць выезды ў Рэч Паспалітую.

Першым буйным мерапрыемствам Кацярыны II у дачынкенні да Каталіцкага Касцёла была поўная рэарганізацыя яго адміністрацыйных структур. Прычынай гэтага кроку было, з аднаго боку, значнае павелічэнне колькасці каталіцкага насельніцтва ў краіне, а, з другога, - імкненне прыпыніць кананічныя сувязі духавенства і вернікаў беларускіх зямель з віленскім біскупам. У выніку шэрагам указаў (Сенату 14 снежня 1772 г., Беларускаму генерал-губернатару З.Чарнышову 22 лістапада 1773 г.) і спецыяльнай дароўчай граматай ад 12 мая

1774 г. Кацярына ІІ самаўладна стварыла асобную для ўсёй імперыі дыяцэзію пад назвай “Белорусская”, заснавала пасаду біскупа з тытулам “Епископ Белорусский католических церквей” і рэзідэнцыю ў Магілёве. На пасаду першаіерарха быў прызначаны Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч – віленскі канонік, генеральны вікарый той часткі Віленскай дыяцэзіі, якая адышла да Расіі і тытулярны біскуп Малло. Цікава, што пасаду вікарыя і сан біскупа С. Сестранцэвіч атрымаў праз пасрэдніцтва віленскага біскупа І. Масальскага ўжо ў часе падрыхтоўкі на новую пасаду ў Расіі ў 1772-1773 гг. Толькі атрымаўшы такім чынам біскупа Кацярына ІІ прыняла канчатковае рашэнне аб заснаванні каталіцкай дыяцэзіі.

У сваю чаргу папа рымскі бачыў у асобе С. Сестранцэвіча не дыяцэзіяльнага біскупа, а генеральнага вікарыя і таму дазволіў апошняму кіраваць не інакш, як ад імя віленскага першаіерарха і без стварэння асобнай адміністрацыйнай адзінкі Каталіцкага  Касцёла. Прычынай такога рашэння было адмоўнае стаўленне Рыма да Рэгламента 1769 г., якім абавязаны быў кіравацца С. Сестранцэвіч, і тым, што апеляцыйнай інстанцыяй для католікаў былі свецкія ўстановы – Юстыц-калегія і Сенат. Аднак не жадаючы абвастраць адносіны з царскім урадам і страціць сувязь з Касцёлам у Расіі, папа 20 лютага 1774 г. прызнаў паўнамоцтвы С. Сестранцэвіча ў якасці тытулярнага біскупа для зямель, што адышлі да Расіі пасля падзелу Рэчы Паспалітай, не заўважаючы, аднак, існавання асобнай Беларускай дыяцэзіі [20, с.154].

Наступным крокам у арганізацыі касцёльных структур у Расіі быў указ Кацярыны ІІ ад 17 студзеня 1782 г. аб заснаванні архідыяцэзіі з кансісторыяй у Магілёве [108, ф.821, воп.149, спр.3, арк.1-4]. Гэты дакумент ігнараваў прэрагатывы папы ў справе ўстанаўлення дыяцэзіяльных адзінак і вызначэння іх межаў. Дакумент складаўся з 18 пунктаў і ўключаў шырокае кола пытанняў прававога становішча Каталіцкага  Касцёла: адносін з Рымам і з замежжам (пункты 10, 11, 13), прызначэння настаяцеляў кляштараў (п.8), выбрання кансісторыі (п.5.), і інш. Але найбольш важнымі артыкуламі ўказа былі адміністрацыйныя. Так, першы пункт распаўсюдзіў межы

архідыяцэзіі на ўсю імперыю, другі зацвярджаў С. Сестранцэвіча арцыбіскупам, трэці – яго намесніка, чацвёрты – памеры жалавання і г.д. Юстыц-калегія пазбаўлялася права апеляцыйнай інстанцыі на карысць Сената. Царскі ўказ ад 17 студзеня адлюстроўваў пошук урадам прымальных для сябе форм кіравання Касцёлам.

Дзеянні Кацярыны II і яе ўрада прымусілі Рым пайсці на саступкі і выслаць у Пецярбург з надзвычайнымі паўнамоцтвамі варшаўскага нунцыя Я. Аркецці. У выніку перамоў у 1784 г. Кацярына II прыняла папскія булы аб заснаванні Магілёўскай архідыяцэзіі [108, ф.821, воп.149, спр.4, арк.1]. Була папы ад 15 красавіка 1783 г. падымала статус Магілёўскай архідыяцэзіі да ўзроўню мітраполіі. Спецыяльныя дакументы зацвердзілі ўладу мітрапаліта над манаскімі ордэнамі [102, т. XXII, с.106-133].

Магілёўская архідыяцэзія (адначасова мітраполія) была самай вялікай у свеце, у той жа час арганізацыйна яна не была звязана з ніякімі дыяцэзіямі, што не з’яўлялася тыпічным для касцёльнай практыкі. Звычайна архідыяцэзія разам з суседнімі дыяцэзіямі ўтварае адзіную касцёльную мітраполію (правінцыю). Такое становішча Касцёла ў Расіі стала магчымым у выніку яго складвання не “знізу ўверх”, што было натуральным, а “зверху ўніз”, па загаду свецкіх улад. Відавочна, што ў арганізацыі адміністрацыйных структур Каталіцкага Касцёла ў Расійскай імперыі каталіцкае духавенства не адыгрывала самастойнай ролі.

Пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай у Расіі адбылася далейшая арганізацыя дыяцэзіяльных структур. У дачыненні да беларускіх зямель гэта была рэарганізацыя, якая разбурала старую адміністрацыйна-тэрытарыяльную структуру Касцёла і стварала новую. Былі створаны новыя дыяцэзіі: Інфлянцкая з рэзідэнцыяй біскупа ў Вільні (замест Віленскай і Інфлянцкай дыяцэзій), Пінская (замест Луцкай дыяцэзіі), Латычоўская (замест Кіеўскай і Камянецкай дыяцэзій). Адпаведна былі прызначаны біскупамі: Ю. Касакоўскі, К. Цецішэўскі і М. Серакоўскі. Жмудскім біскупам застаўся Я. Гедройц, а біскупы Луцкі і Камянецкі засталіся за межамі Расіі. Усе новаўтвораныя дыяцэзіі Кацярына II падпарадкавала магілёўскаму арцыбіскупу.

Рэакцыя Рыма на новую адміністрацыйна-тэрытарыяльную структуру Касцёла ў Расіі была рэзка адмоўнай. Для ўрэгулявання спраў Каталіцкага Касцёла папа падрыхтаваў спецыяльную місію на чале з апошнім нунцыем у Варшаве Л.Літтам, але неўзабаве ў канцы 1796 г. памерла Кацярына II і папскі пасол атрымаў новую задачу – прадстаўляць Рым на цырымоніі каранавання імператара Паўла І.

Мерапрыемствы царскіх улад у дачыненні да Касцёла патрабавалі кананічных санкцый папы. У палітыцы з Рымам Кацярына II дзейнічала шляхам ультыматумаў. Яна самастойна прымала рашэнні і ставіла папу перад здзейсненым фактам. Узяўшы за аснову зносін з Рымам Рэгламент 1769 г. Кацярына II забараніла ўказамі ад 14 снежня 1772 г., 26 студзеня 1782 г., 6 верасня 1795 г. абвяшчаць у краіне папскія булы без папярэдняга прагляду (т.з.”placet”). Акрамя таго, указамі ад 3 ліпеня 1779 г., 9 студзеня 1780 г., 28 лютага 1784 г., 26 студзеня 1782 г. і 6 верасня 1795 г. яна абмежавала, а потым забараніла сувязі дыяцэзіяльнага і ордэнскага духавенства з замежжам і наказала прымаць яму распараджэнні толькі ад двара і Сената.

Пры Кацярыне II крыніцай утрымання беларускага біскупа і магілёўскага арцыбіскупа былі вызначаны не зямельныя ўладанні, а грашовае забеспячэнне сумай 10 тысяч рублёў штогод [102, т.XIX, с.865; т.XXI, с.383]. Пасля першага і другога падзелаў Рэчы Паспалітай былі ўзяты ў секвестр і аддадзены розным асобам землі віленскай капітулы і сталовыя зямельныя ўладанні віленскага біскупа, а таксама землі некаторых кляштараў, якія знаходзіліся за межамі Расійскай імперыі. У 1795 г. было раздадзена 16 тыс. душ, якія належалі, галоўным чынам, віленскаму біскупу і капітуле [102, т.XXII, с.695-696]. Прававой падставай такіх дзеянняў урада былі ўказы Кацярыны II ад 14 снежня 1772 г. і 8 снежня 1792 г. аб канфіскацыі тых маёнткаў, уладальнікі якіх заставаліся за мяжой Расіі ці не прынялі вернападданніцкай прысягі [102, т. XIX, с.508; т. XXIII, с. 388 – 391].

Аднак у цэлым Касцёл захаваў свае зямельныя ўладанні. Трэба сказаць, што артыкул 5 пагаднення ад 18 верасня 1773 г. прадугледжваў поўнае захаванне in status quo касцёлаў і

касцёльнай маёмасці [102, т.XIX, с.831]. Гэта было канстатавана і ў грамаце аб заснаванні Беларускай дыяцэзіі ад 12 мая 1774 г., у якой асаблівы акцэнт рабіўся на ўласнасці манаскіх ордэнаў: "… усе ордэны з усімі іх школамі, вучылішчамі, кляштарамі, рухомай і нерухомай маёмасцю павінны быць недатыкальнымі ў імперыі нашай" [102, т.XIX, с.913]. Гарантыі захавання касцёльнай уласнасці абвяшчаліся і ў трактаце, які быў заключаны ў Гродне 11 ліпеня 1793 г. [102, т.XXXIII, с.446]. З іншага боку, царызм не быў зацікаўлены ў пашырэнні зямельных уладанняў Касцёла, бо гэта магло спрыяць захаванню яго ўплываў. Указ Сената ад 26 лютага 1785 г. забараняў кляштарам, касцёлам і духоўным асобам набываць нерухомую маёмасць [102, т.XXII, с.538]. У 1787 г. Сенат з гэтага правіла зрабіў выключэнне і даў дазвол набываць землі прадстаўнікам дыяцэзіяльнага духавенства шляхецкага паходжання (каб не ўшчамляць іх сацыяльны статус), аднак пасля іх смерці набытыя маёнткі павінны былі пераходзіць не ў касцёльны фонд, а іх спадчыннікам [102, т.XXII, с.1024].

У часы Кацярыны II распрацоўваліся асновы царскай палітыкі ў дачыненні да каталіцкіх кляштараў. Іх цесныя сувязі з цэнтрамі, якія знаходзіліся ў Заходняй Еўропе і праз якія ў краіну маглі пранікаць непажаданыя для правячых колаў уплывы, былі непрымальнымі для улад. У выніку кляштары ўсіх манаскіх ордэнаў у Расіі былі падпарадкаваны дыяцэзіяльнаму біскупу, які ў сваёй дзейнасці павінен быў кіравацца Рэгламентам 1769 г. (указ Сенату ад 14 снежня 1772г.) [102, т.XIX, с.688-689]. Указ аб заснаванні Магілёўскага арцыбікупства ад 17 студзеня 1782 г. узмацніў уладу С. Сестранцэвіча над кляштарамі. З гэтага часу былі забаронены візітацыі кляштараў замежнымі візітатарамі і прыём навіцыяў з-за мяжы. Арцыбіскупу было пацверджана права прызначаць па пасады настаяцеляў кляштараў.

У 1795 г. Кацярына II распаўсюдзіла ўладу біскупаў на кляштары, якія знаходзіліся на тэрыторыі іх дыяцэзій. Прынцып падпарадкавання кляштараў дыяцэзіяльнай уладзе знайшоў адлюстраванне ва ўказах урада ад 12 мая 1774 г., 26 ліпеня 1779 г., 8 верасня 1795 г. У 1778 г. тэрмінам на тры гады, які потым

быў працягнуты, папа прызнаў кананічныя паўнамоцтвы біскупа С. Сестранцэвіча ў адносінах да кляштараў у Расіі. Паводле іх апошні атрымаў права ўносіць змены ў манаскія правілы, рэфармаваць ці ліквідаваць у краіне асобныя ордэны.

Кацярына II праводзіла палітыку пратэкцыянізму ў адносінах да ордэна езуітаў. У гістарыяграфіі гэта з'ява тлумачыцца шэрагам прычын, у тым ліку палітычнай лаяльнасцю езуітаў, іх аўтарытэтам, а таксама імкненнем Кацярыны II выкарыстаць "езуіцкае пытанне" у знешняй і ўнутранай палітыцы. Ю. Самарын лічыў, што выкарыстанне патэнцыялу ордэна езуітаў уваходзіла ў планы кацярынінскай сістэмы адносін з Касцёлам і павінна было падрыхтаваць "крок адасаблення ад папізма" [109, с.244]. Э. Вінтер вылучыў іншыя прычыны – захаванне ордэна ў мэтах барацьбы з ідэямі Асветніцтва і французскай рэвалюцыі [20, с.158-159]. Пытанне захавання ордэна езуітаў у Расіі вызначалася палітычнымі абставінамі. У зносінах з Рымам яно выкарыстоўвалася ў якасці аднаго са сродкаў для дасягнення саступак. Ва ўнутранай палітыцы паслухмянасць ордэна спрыяла захаванню стабільнага становішча на беларускіх землях.

У часы Кацярыны II езуіты выкарысталі палітычную кан'юнктуру і замацавалі сваё становішча ў Расіі. У 1779 г. яны дамагліся прыняцця рашэння аб адкрыцці навіцыяту ў Полацку. У адрозненне ад іншых ордэнаў езуіты захавалі самастойнасць ад дыяцэзіяльнай улады. У 1780 г. была заснавана Беларуская езуіцкая правінцыя, а ў 1782 г. выбраны на пасаду генеральнага вікарыя (віцэ-генерала) ордэна рэктар полацкай езуіцкай калегіі С. Чарневіч [102, т.XXI, с.610]. З гэтага часу назіраецца наплыў у Расію езуітаў з розных краін свету. Многія з іх валодалі грунтоўнымі ведамі і аб'ектыўна спрыялі развіццю школьнай адукацыі на Беларусі, дзе яны выкладалі ў калегіях. Адным з найвядомых асоб з'яўляўся аўстрыец славенскага паходжання Г. Грубер, будучы генерал ордэна ў Расіі. Колькасць езуітаў у Расіі павялічылася па розных крыніцах са 172-179 членаў у 1785 г. да 196 - у 1788 г. Пазней, у 1820 г., езуітаў налічвалася 358 чалавек [20, с.180;340, s.213].

У выніку пад кантролем царскага ўрада аказаўся ўплывовы каталіцкі ордэн. Езуітам былі пакінуты навучальныя ўстановы, выкладчыцкі склад, усе правы і маёмасць. С. Сестранцэвічу было загадана не прыціскаць езуітаў. У 1782 г. Кацярына ІІ выдала ўказ, у якім, у прыватнасці, было сказана, каб “правілы ордэна ў цэлым і без усякага да іх дакранання захоўваліся, таму што яны адпавядаюць грамадзянскім нашым пастановам” [102,т.XXI,с.610].

Акрамя езуітаў Кацярына ІІ у сваёй палітыцы спецыяльна не вылучала іншыя манаскія ордэны. Асноўнай задачай яна лічыла распрацоўку прававога становішча кляштараў, хоць у духу эпохі Асветніцтва аддавала перавагу тым з іх, якія займаліся выхаваннем, навучаннем, дапамогай хворым. Ва ўказе ад 17 студзеня 1782 г. аб прызначэнні С. Сестранцэвіча магілёўскім арцыбіскупам, яна загадала апошняму зрабіць спіс кляштараў “богапажаданых і карысных для грамадства і тых, якія знаходзяцца ў бяздзейнасці і самоце без усякай дапамогі блізкім і жывуць на ласку свету” [102, т.XXI, с.383]. Аднак ніякіх наступстваў пасля гэтага распараджэння не адбылося. Аналагічная сітуацыя назіралася ў 1792 г., калі Кацярына ІІ загадала генерал-губернатару М.М. Крачэтнікаву зрабіць “асобы перапіс” піярам [102, т.XXIII, с.388-391]. У той жа час далей распараджэнняў, каб усе піяры вярнуліся ў свае кляштары і не пакідалі іх, улады не пайшлі [114, с.XLVII,270,284].

У касцёльнай палітыцы Кацярыны ІІ важнае месца надавалася Уніяцкай Царкве, якая была падпарадкавана папе рымскаму і культ якой разглядаўся ў якасці асобнага абраду Каталіцкага Касцёла. Для расійскага грамадства уніяцтва было малавядомым. Да 1780 г. пецярбургскія ўлады не распачыналі рашучых дзеянняў у дачыненні да уніятаў. У дзеяннях урада асноўная ўвага надавалася Рымска-каталіцкаму касцёлу. Ва ўказах 1773-1774 гг., якія вызначалі арганізацыю касцёльных структур у Расіі, Кацярына ІІ выразна не акрэсліла сваю пазіцыю ў адносінах да Уніяцкай Царквы. Яна пакінула яе “пры сваіх догматах і правілах” пад уладай уніяцкага полацкага архіепіскапа Я. Смагаржэўскага “да далейшага распараджэння”

[268, s.108]. Пазіцыя чакання тлумачылася таксама жаданнем абаперціся на каталіцкую шляхту беларускіх зямель. Выпрацоўка ўладамі адносін да уніяцкага пытання ўскладнялася існаваннем мноства супярэчлівых праектаў, якія тычыліся далейшага існавання Уніяцкай Царквы. Праваслаўны магілёўскі епіскап Г. Каніскі выступаў за далучэнне уніятаў да Рускай Праваслаўнай Царквы. Біскуп С. Сестранцэвіч не бачыў перспектывы для развіцця уніяцтва ў імперыі, жадаў падпарадкаваць царкву сваёй уладзе і далучыць уніятаў да рымскага абраду [268, s.327; 65, с.328-329].

Паваротным пунктам у адносінах урада да Уніяцкай Царквы быў 1780 г., калі архіепіскапа Я. Смагаржэўскага абралі мітрапалітам у Рэчы Паспалітай. Кацярына ІІ указам ад 2 ліпеня 1780 г. звольніла Я. Смагаржэўскага з пасады, стварыла спецыяльную кансісторыю для кіравання справамі Царквы і дазволіла уніятам пераходзіць у праваслаўе. У выніку да 1784 г. унію пакінула каля 117.000 душ [65, с.329]. Кацярына ІІ пачала актыўна выкарыстоўваць уніяцкае пытанне ў перамовах з Рымам. Яна давала зразумець, што ў выніку адсутнасці кананічнай санкцыі адносна новай арганізацыі Касцёла, уніяты могуць быць далучаны да праваслаўя. У 1784 г. пасаду уніяцкага архіепіскапа заняў І. Лісоўскі. Некаторы час пасля гэтай падзеі ва уніяцкіх справах назіралася пэўнае зацішша. 22 красавіка 1794 г. быў прыняты ўказ аб ліквідацыі ўсялякіх перашкод для вяртання уніятаў у праваслаўную веру. У часы другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай адышло да праваслаўя больш 1.572.000 вернікаў, галоўным чынам, украінскіх. На Беларусі адышло каля 107.685 чалавек [65, с.331]. Тут Уніяцкая Царква была больш арганізаванай і актыўнай. Да пачатку 1796 г. другая хваля вяртання уніятаў у праваслаўе прыпынілася.

Такім чынам, у часы Кацярыны ІІ  акрэсліліся асноўныя задачы ўлад у дачыненні да Касцёла. Гэта: парадак зносін духавенства з Рымам, падпарадкаванне Касцёла дзяржаўнай юрысдыкцыі, грашовае ўтрыманне дыцэзіяльных біскупаў, падпарадкаванне кляштараў дыяцэзіяльнаму кіраўніцтву. У палітыцы з Рымам Кацярына ІІ выкарыстоўвала уніяцкае пытанне, якое яна пагражала вырашыць на карысць

Праваслаўнай Царквы. Разам з тым, імператрыца не ўмешвалася ў рэлігійнае жыццё Касцёла.

Пры пераемніках Кацярыны II адбылося далейшае прыстасаванне касцёльных структур да сістэмы расійскага самадзяржаўнага ладу. У 1798 г. Павел I правёў чарговую рэарганізацыю каталіцкіх дыяцэзій і прыстасаваў іх межы да губернскіх. Фактычна ён аднавіў былыя дыяцэзіі (акрамя Інфлянцкай) і кананічна ўрэгуляваў гэта пытанне з Рымам. Указам Паўла I ад 26 лютага 1797 г. пры Юстыц-калегіі быў створаны спецыяльны дэпартамент па справах Рымска-Каталіцкага Касцёла. 26 студзеня 1798 г. гэты дэпартамент вылучаны ў асобную ўстанову на чале з арцыбіскупам С. Сестранцэвічам. У Рэгламенце Касцёлу ад 3 лістапада 1798 г. дэпартамент зноў названы ў складзе Юстыц-калегіі [102, т.XXIV, с.493; т.XXV, с.49,436]. У ноце Рыму ад 17 сакавіка 1799 г. падкрэслівалася, што прынцыпы зносін з Касцёлам унутры краіны застаюцца без змен: яго справы разглядаюцца ў адпаведнасці з дзяржаўным заканадаўствам; вяршынства папы прызнаецца ў духоўнай сферы, што тычыцца догматаў і абрадаў; булы павінны тычыцца толькі рэлігійных пытанняў [166, s.27].

Да 1800 г. адбывалася ўзмацненне асабістай улады С. Сестранцэвіча, што вынікала не з паўнамоцтваў мітрапаліцкай пасады, а з набліжанасці яго да імператара і з таго, што ён узначальваў дэпартамент па справах Рымска-Каталіцкага Касцёла. Расійскія ўлады дамагаліся ад папы большых кананічных паўнамоцтваў для С. Сестранцэвіча (пасады легата, кардынальскай годнасці). Найбольшым поспехам расійскай дыпламатыі ў гэтым накірунку трэба лічыць дазвол папы ў 1798 г. карыстацца С. Сестранцэвічу і яго пераемнікам пурпуравымі шатамі на ўзор кардынальскіх, але без спецыяльных правоў і ўлады, якія вынікалі з кардынальскай годнасці [108,ф.821, воп.149,спр.7, арк.1].

У 1798 г. у інтарэсах С. Сестранцэвіча быў распрацаваны і зацверджаны “Рэгламент для цэркваў і кляштараў Рымска-Каталіцкага вызнання ў Расійскай Імперыі” [102, т.XXV, с.436-438]. Новы дакумент значна абмяжоўваў самакіраванне кляштараў на карысць дыяцэзіяльных біскупаў, якія зацвярджалі

правінцыялаў і прызначалі настаяцеляў, атрымалі права візітаваць кляштары. Без дазволу біскупа манахам забаранялася пакідаць кляштар. Ад кляштараў сузіральніцкага тыпу патрабавалася дапамагаць матэрыяльна навучальным і дабрачынным установам ці аказваць духоўныя паслугі вернікам. Жаночым кляштарам прадпісвалася займацца выхаваннем дзяўчынак са збяднелай шляхты ці апекавацца хворымі і беднымі. Адзін з артыкулаў рэгламента забараняў манахам друкаваць сачыненні на палітычныя тэмы, асабліва якія датычыліся “айчыннага праўлення”.

Рэгламент 1798 г. выклікаў вялікую занепакоенасць у каталіцкага манаства і асабліва ў езуітаў, якім ён пагражаў расфарміраваннем. У выніку энергічных захадаў апошніх, якія выкарысталі ўплыў на Паўла І Г. Грубера, адбылася кардынальная змена становішча. У 1800 г. С. Сестранцэвіч быў высланы ў мястэчка Маляцічы пад Магілёвам. Рэгламент быў заменены новым дакументам - “Пунктамі аб упраўленні Рымска-Каталіцкага Духавенства ў Расіі” [102, т.XXVI, с.433-437]. У гісторыі Расіі гэта быў самы спрыяльны для кляштараў дакумент. “Пункты” дазволілі самакіраванне ў кляштарах, забаранілі біскупам умешвацца ў выбары настаяцеляў, а справу ад’ездаў манахаў паставілі ў залежнасць ад правінцыяла. Дыяцэзіяльныя біскупы захавалі ўладу над жаночымі кляштарамі і права візітацыі. Забойства Паўла І перашкодзіла рэалізацыі “Пунктаў”.

Спецыфічнай рысай паўлаўскіх часоў была актывізацыя дзейнасці каталіцкага духавенства, якая ў працах расійскіх дарэвалюцыйных аўтараў была ахарактызавана як “каталіцкая прапаганда”. Пад гэтай з’явай разумелася перш за ўсё пераварочванне ў каталіцтва уніятаў і актыўная дзейнасць духавенства ў асяроддзі вышэйшага расійскага дваранства, а таксама стварэнне новых каталіцкіх дыяцэзій і аднаўленне уніяцкіх епархій (Брэсцкай і Луцкай) [123,с.224-266]. Галоўным правадніком актывізацыі Касцёла лічылася французская эміграцыя, а таксама ордэны мальтыйцаў і езуітаў, якія дзейнічалі, перш за ўсё, праз асабістыя кантакты і сувязі. Вялікай папулярнасцю ў расійскага дваранства карысталася

езуіцкая калегія ў Пецярбургу, а таксама казанні ў езуіцкім касцёле паўночнай сталіцы (касцёле святой Кацярыны). Ва уніяцкім пытанні адбыліся змены на карысць каталіцкага духавенства. Уніяцкая Царква была падпарадкавана дэпартаменту па справах Рымска-Каталіцкага Касцёла. У дэпартаменце уніяты не мелі нават сваіх прадстаўнікоў. Арцыбіскуп С. Сестранцэвіч праводзіў захады ў накірунку далучэння уніятаў да Касцёла [65,с.232].

Актывізацыя дзейнасці каталіцкага духавенства, якая мела месца перш за ўсё ў Пецярбургу, не была выклікана экспансіяй Касцёла, а стала магчымай у выніку негалоснага дазволу на яе з боку ўлады. Уплывалі на сітуацыю акалічнасці як суб’ектыўнага парадку, так і ўнутры і знешнепалітычныя прычыны. Сярод аб’ектыўных прычын - страх самадзяржаўя і дваранства перад наступствамі французскай рэвалюцыі, які ўдала на сваю карысць выкарысталі езуіты, актывізацыя знешніх сувязей Пецярбурга з Рымам. У 1798 г. Павел I прапанаваў папе Пію VI, з якім быў асабіста знаёмы з 1782 г., палітычны прытулак у Расіі. У 1799 г. у Рым увайшлі рускія войскі. У 1798-1799 гг. з дазволу імператара на беларускіх землях знайшлі прытулак трапісты і трапісткі з Францыі. У 1801 г. Павел I был прызнаны пратэктарам духоўна-рыцарскага ордэна мальтыйцаў і ўсяго Каталіцкага Касцёла.

Павел I, як і Кацярына II, самаўладна прымаў рашэнні, якія мелі дачыненне да Касцёла. Ён стварыў дэпартамент па справах Рымска-Каталіцкага Касцёла, правёў новую дыяцэзіяльную арганізацыю і паставіў кляштары ў незалежнае ад дыяцэзіяльнай улады становішча. У адрозненне ад кацярыненскіх часоў пры Паўле I палепшыліся стасункі з Рымам, каталіцкае духавенства набыло ўплыў у колах расійскай арыстакратыі. Павел I імкнуўся выкарыстаць каталіцкі фактар і крызісную сітуацыю, у якой апынуўся Рым, для ўзмацнення міжнародных пазіцый Расіі. У дыпламатычных сувязях з Рымам ён адмовіўся ад выкарыстання “езуіцкай карты” і спрыяў легалізацыі ордэна ў свеце. Пазіцыі езуітаў пры Паўле I асабліва ўзмацніліся, калі абавязкі С. Сестранцэвіча ў дэпартаменце па справах Рымска-Каталіцкага Касцёла выконваў яго намеснік,

былы езуіт, біскуп Ян Беніслаўскі. Яшчэ ў адным важным пытанні курс Паўла І адрозніваўся ад пазіцыі Кацярыны ІІ, імператар не прыціскаў уніятаў, хоць і не бачыў іх у якасці прадстаўнікоў асобнай царквы, а толькі адгалінаваннем каталіцтва ці праваслаўя.

У часы праўлення Аляксандра І (1801-1825 гг.) пазіцыя ўрада ў пытанні падпарадкавання касцёльнай адміністрацыі дзяржаўным структурам не змянілася. Інструкцыя цара пасланніку Д. Бутурліну ў Рым у 1803 г. нагадвала пра неабходнасць зносін каталіцкага епіскапату з папам праз пасрэдніцтва міністэрства замежных спраў [20, с.229]. У тым жа годзе з’явіўся імператарскі ўказ С. Сестранцэвічу, які паўтараў усе ранейшыя забароны Кацярыны ІІ і Паўла І у справе непасрэдных кантактаў з Апостальскай Сталіцай.

У 1801 г. Аляксандр І стварыў Рымска-Каталіцкую духоўную калегію. Гэта была вышэйшая адміністрацыйная ўстанова Каталіцкага Касцёла ў Расіі да 1918 г. У яе склад уваходзілі: старшыня – магілёўскі арцыбіскуп, два члены і 6 засядацеляў – па адным з дыяцэзіі. У 1804 г. у склад калегіі былі ўведзены уніяцкі епіскап і тры засядацелі ад Уніяцкай Царквы. У 1805 г. калегія была падзелена на два дэпартаменты: для Рымска-Каталіцкіх і уніяцкіх спраў. У кампетэнцыю Рымска-Каталіцкай духоўнай калегіі ўваходзілі такія справы, як збор статыстычных і іншых звестак аб касцёлах, кляштарах, духавенстве, маёмасці і інш.; нагляд за дзейнасцю дыяцэзіяльных кансісторый; унясенне прапаноў ад імя дыяцэзіяльных структур ва ўрадавыя інстанцыі; кантроль над дзейнасцю кляштараў; распараджэнне фінансавымі сродкамі і інш. Калегія прымала апеляцыі на рашэнні дыяцэзіяльных судоў. Яна абмежавала ўладу магілёўскага мітрапаліта, аднак апошні працягваў захоўваць свае ўплывы ў якасці старшыні гэтай калегіі. Рым лічыў Рымска-Каталіцкую духоўную калегію некананічным інстытутам і ніколі яе не прызнаў.

Рымска-Каталіцкая калегія, па сутнасці, выконвала функцыі генеральнай (мітрапаліцкай) кансісторыі і стаяла над дыяцэзіяльнымі кансісторыямі. Гэта была вышэйшая судовая інстанцыя, якая разглядала духоўныя і касцёльныя справы. У

асобных выпадках, у пытаннях маёмасці, прэтэнзій да біскупаў, дапускаліся апеляцыі ў Сенат.

Неабходнасць у далейшай цэнтралізацыі справамі неправаслаўных рэлігійных арганізацый у Расіі прывяла ў 1810 г. да стварэння на правах міністэрства галоўнага ўпраўлення духоўных спраў замежных веравызнанняў, якое займалася таксама справамі Каталіцкага Касцёла. Гэта была адміністрацыйная ўстанова, якая выконвала пасрэдніцкія функцыі паміж Рымска-Каталіцкай духоўнай калегіяй і ўрадам. Яна павінна была займацца арганізацыйнымі пытаннямі (рабіць прадстаўленні аб кандыдатах на біскупскія пасады, аб настаяцелях кляштараў, кантраляваць прызначэнні бенефіцыяў, адпраўляць візітатараў), разглядаць скаргі на біскупаў і ахоўваць права здзяйснення касцёльных абрадаў [102, т.XXXI, с.279-280]. Як адзначае Д. Талстой, галоўнае ўпраўленне не спраўлялася самастойна са сваімі абавязкамі і часта звярталася за кансультацыямі ў духоўную калегію [129, с.166]. У 1817 г. яно ўвайшло ў склад дэпартамента духоўных спраў міністэрства духоўных спраў і народнай асветы.

Кампетэнцыя міністэрства была даволі шырокай. Акрамя кадравых спраў, яно займалася пытаннем зносін з Рымам, давала дазвол на будаўніцтва касцёлаў, разглядала скаргі, збірала статыстычныя справаздачы, наглядала за навучальнымі ўстановамі і інш. Заканадаўствам быў вызначаны парадак зносін Рымска-Каталіцкай калегіі з міністэрствам. Апошняе разглядала справаздачы і прапановы калегіі, а потым уносіла сваё заключэнне і адпраўляла іх у Сенат. Усе біскупы, іх намеснікі, прэлаты і канонікі, а таксама настаяцелі кляштараў павінны былі быць зацверджаны адпаведнымі ўказамі [102, т.XXXIV, с.814-818]. У 1824 г. галоўнае ўпраўленне ўвайшло ў склад міністэрства народнай асветы. У 1832 г. з гэтага міністэрства дэпартамент духоўных спраў замежных веравызнанняў быў перанесены ў ведамства міністэрства ўнутраных спраў, у якім ён праіснаваў да жніўня 1917 г., калі яго далучылі да створанага тады міністэрства вызнанняў, закрытага пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Эпоха Аляксандра I адрознівалася рэлігійнай цярпімасцю [65, с.307]. Шмат у чым гэтаму спрыяла спецыфіка міжнароднага становішча, а таксама атмасфера духоўна-рэлігійных пошукаў царскага атачэння і некаторых прадстаўнікоў расійскага дваранства. Напалеонаўскія войны і замежныя аперацыі расійскага войска спрыялі больш блізкаму азнаямленню з каталіцтвам. Вялікім поспехам пры двары Аляксандра I карыстаўся (да 1817 г., калі быў выдалены з Расіі) Ж.дэ Мэстр, вядомы ідэолаг папізму, які выступаў за прыярытэт папскай улады над свецкай [20, с.236-241]. Ён дабіваўся адкрыцця ў Расіі нунцыятуры і быў прыхільнікам яднання старых еўрапейскіх рэжымаў на платформе каталіцкай ідэалогіі. Разрыў Аляксандра I з дэ Мэстрам адбыўся з прычыны супрацьлеглых пазіцый у разуменні паслянапалеонаўскага ўладкавання Еўропы. Ідэалагічным падмуркам Рэстаўрацыі на думку цара павінен быў быць нейкі сінтэз каталіцтва, праваслаўя і лютэранства.

Бачным увасабленнем намераў Аляксандра I быў створаны па яго ініцыятыве Свяшчэнны саюз (1815 г.). У гэтым рэчышчы трэба разглядаць і заснаванне ў 1814 г. Расійскага біблейскага таварыства, якое ўзначаліў обер-пракурор Св. Сінода і міністр духоўных спраў і народнай асветы князь А.М. Галіцын. Папа не прыняў прапаноў далучыцца да дзяржаў Свяшчэннага Саюза, а дзейнасць Біблейскага таварыства рэзка асудзіў і патрабаваў ад расійскіх вернікаў не ўдзельнічаць у ім. У гэты час Аляксандра I зацікавілі погляды прадстаўніка рэфармаванага каталіцтва Ф.фон Баадэра. Апошні не патрабаваў падпарадкавання ўсіх хрысціянскіх канфесій папе, а ў праваслаўі бачыў паўнапраўную арганізацыю, якая захавала святасць першахрысціянскіх часоў. Погляды Ф.фон Баадэра мелі вялікае значэнне для ідэалагічнага абгрунтавання дзейнасці Свяшчэннага Саюза [20, с.233-234]. Яны адпавядалі пазіцыі Аляксандра I, які бачыў у хрысціянстве сродак, які можа стрымаць рэвалюцыйны рух у Еўропе. Аднак у цэлым палітыка Аляксандра I была непаслядоўнай. У ідэалагічным выбары сродкаў ён хістаўся ад афіцыйнага да рэфармаванага каталіцтва, з якім таксама парваў на пачатку 20-х гг. XIX ст. У той жа час, з

1815 г. імператар спрабаваў абаперціся на артадаксальнае праваслаўе. Выразнікам гэтага напрамку быў камергер цара Стурдза, які абгрунтаваў сусветнае значэнне праваслаўя і прапанаваў яго ў якасці ідэалогіі для Свяшчэннага саюза. Напрыканцы жыцця Аляксандр І зноў прадпрыняў захады да збліжэння з папам. У чарговы раз ажыла ідэя уніі Рускай Праваслаўнай Царквы з Каталіцкім Касцёлам. У віншавальным пасланні папе Льву XII у 1823 г. цар абяцаў "атачыць католікаў у Расіі дабратворным і брацкім клопатам" [20, с.252].

Шматлікія рашэнні царскіх улад, якія тычыліся адміністрацыйнага падпарадкавання Касцёла дзяржаўным органам, а таксама пастановы, якія забаранялі духавенству мець прамыя зносіны з Рымам былі незаконнымі з пункту гледжання касцёльнай практыкі і не мелі кананічнай сілы. Менавіта таму расійскім бокам пастаянна падымалася пытанне пра павелічэнне кананічных паўнамоцтваў для мітрапаліта С. Сестранцэвіча. У 1816 г. у чарговы раз падымалася пытанне аб наданні магілёўскаму мітрапаліту кардынальскай годнасці. У 1803, 1804, 1806, 1816 гг. паўтараліся захады аб атрыманні для С. Сестранцэвіча пасады прымаса і тытула прыроджанага легата для ўсіх яго пераемнікаў. Не прайшла таксама прапанова пра перанос сталіцы мітраполіі ў Вільню (пытанне разглядалася ў 1814 г. і ў 1815-1834 гг.). Ураду нават не ўдалося атрымаць ад Рыма сталых правоў для С. Сестранцэвіча на самастойнае (без узгадненне з папам) пасвячэнне ў сан біскупаў, вызваленне ад манаскіх зарокаў, аб'яднанне касцёльных бенефіцыяў, мець апошні голас у шлюбаразводных справах, а таксама права на поўную юрысдыкцыю над манаскімі ордэнамі і ўвогуле на пашырэнне на ўсю тэрыторыю дыяцэзіяльных адзінак тых правоў, якімі мітрапаліт карыстаўся ў сваёй архідыяцэзіі [258, s.21].

С. Сестранцэвічу даводзілася кіраваць на аснове спецыяльных папскіх паўнамоцтваў, так званых facultates, якімі ён надзяляўся на пэўны час у залежнасці ад становішча ў дадзены момант расійска-рымскіх адносін. Такія правы С. Сестранцэвіч атрымліваў у 1774 г., 1775 г., 1778 г. (на тры гады), 1783 г., 1786 г. (на дзесяць год), 1798 г. (на пяць год), у

абмежаваным выглядзе ў 1803 г. (на пяць год), у 1812 г. Напрыклад, у 1786 г. Апостальская Сталіца ўпаўнаважыла яго разглядаць шлюбаразводныя справы, надала пэўныя літургічныя прывілеі, дазволіла ўносіць змены ў пост, дараваць ці накладваць царкоўныя спагнанні, прызначаць настаяцеляў, рабіць візітацыі, прызначаць сабе пераемнікаў і г.д. [102, т.XXII, с.827-830]. На працягу першай чвэрці XIX ст. царскі ўрад актыўна дамагаўся для С. Сестранцэвіча дазволу весці інфармацыйны працэс (выпрабаванні кандыдатаў у біскупскі сан) [103, т. I, с. 1000-1002]. Аднак папы, прывілегію якіх складала гэта права, так і не дазволілі стала карыстацца ім, а толькі ў асобных выпадках у выглядзе дэлегаваных паўнамоцтваў у 1808 г., 1812 г., 1823 г., 1826 г. і ў іншыя гады. Каб вернікі не заставаліся ў духоўных патрэбах без задавальнення, і для захавання максімальнай незалежнасці ад Рыма імператар Аляксандр I сваім указам ад 10 жніўня 1804 г. загадаў мітрапаліту С. Сестранцэвічу карыстацца і надалей тымі правамі і прывілеямі, якія ён атрымаў ад папы Пія VI [102, т.XXVIII, с.473].

Аляксандр I прыхільна ставіўся да С. Сестранцэвіча, якога ён вызваў у Пецярбург з Маляцічаў. Паслухмянасць і адданасць мітрапаліта царскай уладзе адпавядала палітыцы, якую праводзілі расійскія манархі. У сваю чаргу сам С. Сестранцэвіч выступаў за поўнае арганізацыйнае падпарадкаванне Касцёла сваёй уладзе з правам уводзіць у сан біскупаў без узгаднення з папам. Падставай такога імкнення было ўяўленне С. Сестранцэвіча аб тым, што мітрапаліт у мітраполіі валодае той жа ўладай як і папа, таму ўсе рашэнні арганізацыйнага характару ён можа прымаць без кансультацый з Рымам [313, s.249-250,285].

С. Сестранцэвіч падтрымаў дзейнасць Расійскага біблейскага таварыства. Яшчэ ў 1812 г. ён быў у ліку ініцыятараў па стварэнню Пецярбургскага біблейскага таварыства. Камітэт таварыства збіраў сродкі на выданне і распаўсюджванне Бібліі на тэрыторыі Расіі. Князь А.М. Галіцын у 1813 г. накіраваў лісты біскупам каталіцкіх дыяцэзій аб неабходнасці іх удзелу ў таварыстве. Такія лісты атрымалі ў

1813 г. мінскі біскуп Я. Дэдэрка і адміністратар Віленскай дыяцэзіі Е. Страйноўскі. Біскупу Я. Дэдэрцы паведамлялася, што ён унесены ў члены таварыства [99, ф.937, воп.2, спр.51, арк.116 (адв.) ]. Віленскі адміністратар накіраваў духавенству ліст з заклікам да збору грашовых сродкаў на выданне кніг Біблейскім таварыствам [98, ф.886, воп.1, спр.6, арк.33]. У 1816-1817 гг. аддзяленні Расійскага біблейскага таварыства былі адкрыты ў Магілёве, Віцебску, Мінску, Гродне. У Магілёве і Гродне ў склад яго членаў (віцэ-прэзідэнтамі) былі абраны каталіцкія ксяндзы. Аднак у цэлым каталіцкае духавенства байкатавала дзейнасць гэтай арганізацыі. У 1816 г. папа Пій VII выказаў рэзкі пратэст у адрас таварыства. На імя С. Сестранцэвіча ён накіраваў зварот, у якім асудзіў дзеянні мітрапаліта па распаўсюджванню Бібліі на нацыянальных мовах. Пасланне папы не атрымала імператарскай экзекватуры (допуску ў Расію).

Роля С. Сестранцэвіча ў гісторыі Касцёла супярэчлівая. З аднаго боку, яго востра крытыкавалі ў папскіх колах за імкненне адасобіцца ад Рыма (негатыўныя характарыстыкі аб ім дасылалі ў Апостальскую Сталіцу папскія пасланнікі і Ж. дэ Мэстр). Не знайшла ўхвалення дзейнасць мітрапаліта ў працах польскіх аўтараў, якія крытыкуюць яго за супрацоўніцтва з царызмам. У той жа час С. Сестранцэвіч – цэнтральная і найважнейшая фігура у Касцёле на тэрыторыі Расіі ў разглядаемы перыяд. Ён кіраваў Касцёлам у вельмі складаных палітычных умовах 53 гады (1773-1826 гг.). У сваёй дзейнасці імкнуўся задаволіць рэлігійныя патрэбы католікаў розных нацыянальнасцяў – не толькі палякаў, але і немцаў, літоўцаў, беларусаў, латышоў, эстонцаў. У магілёўскай друкарні ён меў намер друкаваць падручнікі “у розных дыялектах”. У 1794 г. арцыбіскуп загадаў духавенству сваёй архідыяцэзіі прамаўляць казанні на зразумелай “народнай” мове. У зносінах з Рымам ён прызнаваў аўтарытэт папы ў пытаннях веры і догматаў і адкрыта ніколі не парываў з пантыфікам.

Памкненню С. Сестранцэвіча падпарадкаваць кляштары сваёй уладзе галоўнай перашкодай былі энергічныя захады езуітаў, якія мелі ўплывы пры царскім двары. У 1801 г. сітуацыя

змянілася на карысць С. Сестранцэвіча. 13 лістапада Аляксандр I падпісаў "Палажэнне аб упраўленні Рымска-Каталіцкай царквы" [102, т.XXVI, с.827-828]. Дыяцэзіяльным біскупам было вернута права нагляду за кляштарамі. Яны павінны былі ведаць аб усіх зменах, якія адбываліся ў іх і маглі прымаць скаргі ад манахаў на сваіх настаяцеляў. Выбары правінцыялаў павінны былі праводзіцца са згоды Рымска-Каталіцкай духоўнай калегіі. 13 чэрвеня 1803 г. пачала дзейнічаць урадавая пастанова, паводле якой на ўсе кляштарныя пасады павінны прызначацца толькі тыя асобы, якія скончылі Галоўную семінарыю ў Вільні ці тыя, якія былі праэкзаменаваны ў ёй [102, т.XXVII, с.783].

Дзяржаўныя дакументы, якія тычацца прававога становішча манаскіх ордэнаў і кляштараў, не дазваляюць прасачыць палітыку царскага ўрада ў дачыненні да асобных манаскіх груп. Верагодна, ўлады не ў дастатковай ступені арыентаваліся ў спецыфіцы кожнага манаскага ордэна. У гэтай сувязі цікавае назіранне зрабіў польскі даследчык П.П. Гах. У 1817 г. урад, каб мець уяўленне аб стане кляштараў, арганізаваў рэгулярны збор звестак аб іх. Дзеля гэтай мэты была выкарыстана існаваўшая практыка біскупскіх візітацый, якія да гэтага часу праводзіліся фармальна і нерэгулярна. 13 сакавіка 1817 г. быў выдадзены ўказ, які абавязваў дыяцэзіяльных біскупаў ці іх дэлегатаў штогод рабіць візітацыі ў кляштары і складаць падрабязныя справаздачы ў адпаведнасці з прапанаванай формай. Асаблівая ўвага надавалася параўнальнаму аналізу з вынікамі папярэдняй візітацыі. Атрыманая інфармацыя пераканала ўлады, што кляштары з'яўляюцца вельмі дынамічнымі супольнасцямі, якія з цяжкасцю паддаюцца кантролю [191, s.61].

7 сакавіка 1801 г. папа афіцыйна дазволіў дзейнасць ордэна езуітаў у Расіі. У 1802 г. папская була была абвешчана і атрымала моц. У часы Аляксандра I езуіты пасылаліся на пастырскую працу на Каўказ і ў Сібір. Акрамя таго, яны працягвалі займацца адукацыйна-выхаваўчай дзейнасцю ў калегіях і ў полацкай акадэміі (з 1812 г.). У далейшым, аднак, дзейнасць ордэна была прыпынена. У 1815 г. яны былі высланы з Масквы і Пецярбурга, а ў 1820 г. - за межы Расійскай імперыі.

Фармальнай падставай такога рашэння паслужылі абвінавачванні ў наварочванні ў каталіцкую веру праваслаўных, уніятаў, пратэстантаў і яўрэяў. У рапарце міністра духоўных спраў і народнай асветы А. Галіцына ад 13 сакавіка 1820 г. указваліся канкрэтныя выпадкі місіянерскай дзейнасці езуітаў сярод вучняў магілёўскай калегіі і салдат віцебскага шпіталя [102, т.XXXVII, с.113-119]. Акрамя таго, ордэн абвінавачваўся ў неабгрунтаваным павелічэнні колькасці членаў, якія праводзілі каталіцкую прапаганду ў сваіх школах, у непадпарадкаванні мітрапаліту С. Сестранцэвічу, нядбайных адносінах да сваіх сялян, у няўдзячнасці да Расіі, якая ў свой час дала прытулак езуітам і апекавалася імі. Уся зямельная ўласнасць ордэна перайшла ў дзяржаўнаю казну.

У часы Аляксандра I урад пачаў страчваць кантроль над езуітамі. У 1814 г. гэты ордэн быў адноўлены ва ўсім свеце, а калі памёр яго генерал Т. Бжазоўскі (4 лютага 1820 г.) у Рыме быў абраны новы генерал, і цэнтр кіраўніцтва езуітаў перамясціўся за межы Расійскай імперыі. З 1810-х гг. езуіты былі праваднікамі папскай палітыкі ў Расіі, знаходзіліся ў канфрантацыі з мітрапалітам С. Сестранцэвічам і не падтрымлівалі створанае ўрадам Расійскае біблейскае таварыства. Выгнанне езуітаў з Расіі ў 1820 г. не прывяло да перагляду ўрадавай палітыкі ў дачыненні да іншых манаскіх ордэнаў.

Каталіцкі Касцёл у часы Аляксандра I захоўваў пэўную свабоду дзеянняў і таму, што працягваў захоўваць значную зямельную ўласнасць, якая з’яўлялася асновай існавання ў феадальным грамадстве. Зямельную ўласнасць захоўвалі капітулы, члены кансісторый і іншых касцёльных установ, кляштары, парафіяльныя ксяндзы. Духоўная маёмасць на тэрыторыі Беларусі была, галоўным чынам, касцёльнай. Яна займала трэцяе месца пасля прыватнай і дзяржаўнай уласнасці. У цэнтры і на захадзе Беларусі ў апошняй чвэрці XVIII ст. яна складала 11,8% ад усіх дымаў (прыватная 65,5%, дзяржаўная 20,7%). Па дадзеных В.І. Мялешкі, на якія ў сваёй працы спасылаецца П.Г. Казлоўскі, на ўсходзе Беларусі на долю Каталіцкага Касцёла прыпадала 81,5% агульнай колькасці

духоўных сялян (на захадзе і ў цэнтры, па дадзеных П.Г. Казлоўскага - 86,0%) [74, с.70-72,107].

Парафіяльныя землі складалі забеспячэнне ніжэйшага духавенства. Яны былі раздроблены на мноства парафій, сярод якіх былі размеркаваны нераўнамерна. Каталіцкі Касцёл не меў права адчужаць свае зямельныя ўладанні, а толькі ахоўваць іх і прымнажаць. Расійскае заканадаўства як пры Паўле I, так і пры Аляксандры I ахоўвала касцёльны зямельны фонд ад раздраблення і продажу [102, т.XXV, с.436-437; т.XXVI, с.823-829]. На месцах ахова зямельнай уласнасці даручалася дыяцэзіяльнаму біскупу. Забаранялася без ведама вышэйшага кіраўніцтва (духоўнага і свецкага) па свайму меркаванню распараджацца грашовым капіталам і касцёльнымі будынкамі. Пытанне аховы касцёльнай маёмасці падымалася ў пастырскіх лістах і распараджэннях дыяцэзіяльных біскупаў [98, ф.886, воп.1, спр.3, арк.14].

На пачатку панавання Аляксандра I матэрыяльная база Каталіцкага Касцёла выглядала наступным чынам. У Магілёўскай архідыяцэзіі капіталы дыяцэзіяльнага духавентсва складалі 133.409 руб. з прыбыткам 20.980 руб. штогод, падданых налічвалася 3.470. У ордэнскага духавенства адпаведна капіталы складалі 213.623 руб. з прыбыткам 52.969 руб. штогод, а падданых было 20.635. У Віленскай дыяцэзіі капіталы дыяцэзіяльнага духавенства складалі 229.605 руб. са штогадовым прыбыткам 103.619 руб., падданых налічвалася 17.364. У ордэнскага духавенства капіталы складалі 373.805 руб. з прыбыткам 112.132 руб., а падданых налічвалася 10.106. У Мінскай дыяцэзіі капіталы дыяцэзіяльнага духавенства складалі 41.104 руб. з даходам 23 тыс. руб., падданых было 7.220. Ордэнскае духавенства мела 193.120 руб. з даходам 61.544 руб. і 8.866 падданых [335, s.208]. Такога матэрыяльнага становішча не мела ў Расіі ніводная царкоўная арганізацыя.

У 1820 г. па ініцыятыве С. Сестранцэвіча імператар выдаў указ Рымска-Каталіцкай духоўнай калегіі аб стварэнні так званага дапаможнага капіталу, сродкі ад якога павінны былі ісці на ўтрыманне, рамонт і будаўніцтва тым касцёлам і кляштарам, якім не хапала на гэта сродкаў. Гэты фонд ствараўся шляхам

штогадовых узносаў, якія з 1823 г. складалі 5.575 руб. срэбрам з усіх дыяцэзій. Грашовыя адлічэнні насілі абавязковы характар і браліся толькі з дыяцэзіяльнага духавенства, бо кляштары ўжо пераводзілі 10.000 руб. срэбрам на ўтрыманне Галоўнай семінарыі ў Вільні. Збор па дыяцэзіях размяркоўваўся наступным чынам – 300 руб. для Магілёўскай архідыяцэзіі, 1000 руб. для Віленскай дыяцэзіі, 600 руб. для Жмудскай дыяцэзіі, 450 руб. для Луцкай дыяцэзіі, 112 руб. 50 кап. для Кіеўскай дыяцэзіі, столькі ж для Мінскай дыяцэзіі і 3.000 руб. з алтарыі віленскага кафедральнага касцёла. У 1829 г. дапаможны капітал складаў каля 148.000 руб. У тым жа годзе цар Мікалай І дадаў да яго яшчэ 10.000 руб. У далейшым гэты капітал павялічыўся. Аднак карыстацца ім духавенства магло толькі за лік працэнтаў, па спецыяльнаму дазволу і ў выпадках пажараў, стыхійных бедстваў, пагашэнняў даўгоў і інш. Дапаможны капітал знаходзіўся пад кантролем Рымска-Каталіцкай духоўнай калегіі і галоўнага ўпраўлення спраў замежных веравызнанняў. Усе просьбы атрымаць сродкі з фонду павінны былі разглядацца дыяцэзіяльнымі біскупамі і губернскімі ўладамі [14, кп 12147].

У часы Аляксандра І назіралася актывізацыя дзейнасці прадстаўнікоў каталіцкага духавенства ў колах расійскай арыстакратыі. Каталіцтва прыняла Аляксандра Галіцына, а таксама Растапчына, Пратасава, Васільчыкава, Шувалава, Галавіна, Талстая, Свечына і іншыя [123, с.429-430].

Адбываліся выпадкі пераварочвання не толькі праваслаўных, у тым ліку праз рознаканфесійныя шлюбы, калі паводле закону хлопчыкі выхоўваліся ў бацькоўскай веры, а дзяўчынкі ў матчынай, але і пратэстантаў. Расійскае заканадаўства забараняла прымаць у каталіцкую веру не толькі праваслаўных, але хрысціян іншых канфесій. З гэтай мэтай быў прыняты шэраг дзяржаўных указаў (Сенацкі ад 12 студзеня 1799 г. і іншыя) і распараджэнняў духоўных улад. У 1823 г. у Віленскай дыяцэзіі па ўсіх дэканатах быў разасланы дакумент з дыяцэзіяльнай кансісторыі пра забарону хрысціць і вянчаць евангелікаў [98, ф.886, воп.1, спр.7, арк.70 (адв.) ]. Навяртанні адбываліся і сярод яўрэйскага насельніцтва. Яшчэ ў часы Паўла І толькі езуіты ў перыяд з 1797 г. па 1799 г. пахрысцілі 22

іудзеяў [191, s.48]. Актыўнымі місіянерамі былі бернардзінцы. У 1787-1790 гг. яны прынялі ў каталіцтва каля 100 іудзеяў і пратэстантаў. Большасць кляштараў, якія займаліся гэтай працай, знаходзілася на тэрыторыі Беларусі (у Друі, Мазыры, Будславе, Слоніме, Глуску, Слуцку, Мінску) [334, s.110]. У распараджэнні віленскай кансісторыі дэканам у 1818 г. нагадвалася, што наварочванне яўрэяў магчыма толькі пасля таго, як яны здадуць экзамены ў паліцыі і атрымаюць адтуль пісьмовы дазвол [98, ф.886, воп.1, спр.7, арк. 45]. Спецыфікай жаночага манаскага ордэна марыявітак было навяртанне жанчын іудзеяк, але ва ўмовах Расійскай імперыі яны вымушаны былі абмежаваць сваю дзейнасць выхаваннем дзяўчынак са збяднелай шляхты.

У полі ўвагі каталіцкіх місіянераў заставаліся і уніяты. Упершыню змена уніяцкага абраду на лацінскі адбылася ў 1796 г., калі уніяцкі архіепіскап І. Лісоўскі дазволіў прадстаўнікам белага і чорнага уніяцкага духавенства, якія аказаліся без прыхода, пераходзіць у юрысдыкцыю Луцкага біскупа. У 1801 г. з’явіўся ліст прэлата С. Шантыра з магілёўскай духоўнай кансісторыі, у якім ён трактаваў на карысць Каталіцкага Касцёла пункты царскага ўказа ад 29 снежня 1800 г. аб тым, што уніяты не існуюць самі па сабе, а з’яўяюцца далучанымі ці да Праваслаўнай Царквы, ці да Каталіцкага Касцёла [298, s.60].

Наступным крокам, які фарсіраваў справу, была рэзалюцыя ад 15 сакавіка 1801 г. старшыні Рымска-Каталіцкай духоўнай калегіі Яна Беніслаўскага, які выконваў свае функцыі ў перыяд высылцы С. Сестранцэвіча ў Маляцічы. Ён давёў да ведама магілёўскай духоўнай кансісторыі, што свецкія уніяты не патрабуюць дазволу Апостальскай Сталіцы, каб перайсці ў лацінскі абрад. У гэты час у магілёўскай духоўнай кансісторыі з’явіўся ліст нунцыя Літты, у якім ён паведамляў пра магчымасць змены абраду не толькі свецкім, але і духоўным асобам Уніяцкай Царквы. Спасылаючыся на адпаведныя дакументы, магілёўская кансісторыя 24 сакавіка 1802 г. прыняла рашэнне пра далучэнне да Каталіцкага Касцёла уніяцкай парафіі Юрцэва (Юрчэва) на чале са святаром Каліноўскім [17, с.340-341]. Узнік прэцэдэнт, які паклаў пачатак чуткам пра ліквідацыю

уніі і масавым просьбам пераходу ў лацінскі абрад. Гэтыя чуткі падтрымлівалі на месцах прадстаўнікі каталіцкага і уніяцкага духавенства. Рапарты уніяцкіх дэканаў Мінска, Дзісны і Лепеля сведчаць аб шматлікіх выпадках у 1802 г. каталіцкай агітацыі сярод уніятаў і пераходзе значнай іх часткі ў лацінскі абрад [100, с.508-607]. Абвінавачванні ў пераварочванні уніятаў былі прад'яўлены каталіцкім кляштарам місіянераў у Асвеі, францысканцаў у Дзісне, дамініканцаў і бернардзінцаў у Друі [17, с.172,343].

Апагей масавых пераварочванняў назіраўся ў 1802 г. У каталіцкую магілёўскую кансісторыю паступіла тады 41 заява з просьбай аб прыняцці уніяцкіх прыходаў у лона Рымска-Каталіцкага Касцёла. Акрамя таго, на гэты момант ўжо існавалі злацінізаваныя парафіі ў Мінскай і Магілёўскай дыяцэзіях [298, s.61]. Выяўленыя дакументы не дазваляюць з дакладнасцю вызначыць колькасць уніяцкіх прыходаў, якія перайшлі ў падпарадкаванне да каталіцкіх біскупаў і якія мелі намер перайсці. М. Радван спасылаецца на І. Сямашку, які лічыў, што ў яго літоўскай дыяцэзіі да 1810 г. было лацінізавана каля 20000 уніятаў [298, s.61]. Э. Лікоўскі гаворыць пра 100000 уніятаў, якія толькі на працягу аднаго месяца змянілі абрад, і пра 200000 уніятаў, якія прынялі рымскі абрад на працягу першых гадоў царавання Аляксандра І [265, s.17]. Маштабы лацінізацыі уніятаў выклікалі занепакой у колах уніяцкай і праваслаўнай іерархіі, а таксама ў дзяржаўных структурах. У 1806 г. паміж мітрапалітам С. Сестранцэвічам і І. Лісоўскім было заключана пагадненне аб тым, што злацінізаваныя да 1798 г. уніяты павінны вярнуцца ў юрысдыкцыю Уніяцкай Царквы [17, с.299]. Справай вяртання уніятаў у лона сваёй царквы занялася адпаведная верыфікацыйная камісія, дзейнасць якой у 1810 г. зайшла ў тупік. 8 жніўня 1810 г. паследаваў указ Сената, які наклаў абавязак вяртання толькі на святароў. Нягледзячы на пэўную трываласць становішча, каталіцкаму духавенству так і не ўдалося перамагчы ў барацьбе за уніяцкіх вернікаў пануючую Праваслаўную Царкву.

Такім чынам, у часы Аляксандра І працягваўся працэс падпарадкавання Касцёла дзяржаве. Быў канчаткова

сфарміраваны дзяржаўны механізм кантролю за дзейнасцю каталіцкага духавенства. Акрамя таго, прыняты захады кананічна ўзвысіць статус Каталіцкага Касцёла з мэтай надання яму большых правоў у прыняцці самастойных ад Рыма рашэнняў. Адбылася змена стаўлення да езуітаў, якія былі выдалены з краіны. Дыяцэзіяльным біскупам вернута права візітацыі кляштараў. Каталіцкае духавенства мела ўплывы ў арыстакратычных колах. Яно таксама імкнулася перацягнуць уніятаў у рымскі абрад, але сустрэла ў гэтым пытанні моцны адпор з боку царскіх улад.

У часы Мікалая І (1825-1855 гг.) у Расіі праводзіўся рэакцыйны ўнутрыпалітычны курс, мэтай якога была кансервацыя існуючага ладу. Пасля падаўлення паўстання 1830-1831 гг. царскі ўрад унёс істотныя карэктывы ў касцёльную палітыку. Аднак, асновы яе распрацоўваліся яшчэ ў 1825-1830 гг. У гэты час Мікалай І прыняў рашэнне аб паступовым далучэнні вернікаў Уніяцкай Царквы да праваслаўя [65, с.334-335; 298, s.159]. Захады ўлад у адносінах да Касцёла, грунтаваліся, між іншым, на думках магілёўскага грамадзянскага губернатара М. Мураўёва, які прапанаваў сістэму мерапрыемстваў для выкаранення "каталіцкага фанатызму" на Беларусі [299, s.197-240].

Мікалай І, як і яго папярэднікі, праводзіў незалежную ад Рыма канфесіянальную палітыку. У інструкцыі ад 15 верасня 1826 г. пасланніку ў Рыме Італінскаму міністр замежных спраў К.В. Нессельродэ падкрэсліваў, каб у зносінах з папскім дваром не падымаць прынцыповых пытанняў, настойваць на пралангацыі ўсіх атрыманых раней для Касцёла правоў і не дапускаць ніякіх дыскусій па пытаннях, якія тычацца паслушэнства цару яго падданых [166, s.163-164].

На пачатку царавання Мікалая І (у 1825-1830 гг.) адбылася кадыфікацыя рускага заканадаўства. Усе царскія і ўрадавыя пастановы былі апублікаваны ў "Поўным зборы законаў Расійскай імперыі". У ім была сфармуліравана пазіцыя расійскага самадзяржаўя адносна буйнейшых хрысціянскіх веравызнанняў. Праваслаўная Царквабыла прызнана пануючай, а Рымска-Каталіцкі Касцёл і Евангеліцка-Лютэранская Царква –

толькі “цярпімымі” і тымі, якім аказваюць заступніцтва (“покровительственными”) [103, т.V, ч.2, с.27-28; 65, с.297].

Нягледзячы на заканадаўчую забарону місіянерскай дзейнасці каталіцкага духавенства ў асяроддзі вернікаў іншых канфесій ў 1825-1830 гг. працягваліся выпадкі пераварочванняў праваслаўных, уніятаў і пратэстантаў у лона Касцёла. Як сведчыць рапарт сапраўднага тайнага саветніка М.М. Навасільцава Вялікаму князю Канстанціну, у 1827 г. чатыры вучні (тры уніяты і адзін лютэранін) гродзенскай дамініканскай гімназіі былі схілены манахамі да каталіцкай веры [98, ф.6, воп.1, спр.276, арк.1].

Аналагічныя выпадкі па пераварочванню уніятаў і праваслаўных у пінскай павятовай школе і іншых месцах паслужылі падставай для выдання ўказаў урада і Сената ад 1 лютага 1830 г., 10 чэрвеня 1830 г., 10 верасня 1830 г. [103, т.5, ч.1., с.510; т.5, ч.2, с.27-28; т.5, ч.1, с.110-111]. Гэтыя ўказы забаранялі праваслаўным і уніятам наймацца на працу ў каталіцкія кляштары, прымаць рэлігійныя паслугі ад каталіцкага духавенства, патрабавалі, каб вучням школ была дадзена магчымасць навучацца асновам рэлігіі ў праваслаўных святароў і каб вучні некаталіцкай веры не ўдзельнічалі ў набажэнствах у касцёлах. За парушэнні пастаноў прадугледжваліся такія пакаранні, як выдаленне ксяндзоў з парафій, звальненне настаяцеляў кляштараў ад сваіх пасад, поўная забарона пастырскай і навучальнай дзейнасці духавенства [103, т.5, ч.2, с.27-28]. Аднак пераварочванні, як сведчаць дакументы, працягваліся. Так, пратаіерэй гродзенскага сабора 27 жніўня 1831 г. паведамляў адміністратару гродзенскага фарнага касцёла аб пераходзе ў каталіцкую веру жонкі супрацоўніка скарбовай палаты Ірыны Сезанеўскай [98, ф.886, воп.1, спр.30, арк.1].

27 сакавіка 1829 г. імператарам была зацверджана прапанова Дзяржаўнага Савета аб манаскіх зароках [103, т.4, с.200-201]. У ёй прадугледжвалася, што кандыдаты ў манаскі стан павінны атрымаць дазвол у галоўным упраўленні духоўных спраў у Пецярбургу, мець скончаных 22 гады і знаходзіцца ў навіцыяце 3 гады. Гэта было прамое ўмяшальніцтва ва ўнутрыманаскае жыццё, ставіла пад пагрозу далейшае існаванне

манаскіх ордэнаў у краіне. У тым жа рэчышчы было закрыццё ў 1830 г. полацкага піярскага вучылішча. У сувязі з будаўніцтвам Брэсцкай крэпасці амаль усе брэсцкія касцёлы і кляштары былі ліквідаваны, а іх будынкі выкарыстаны для войска [191, s.154].

У 1820-х гадах расійскія ўлады ўзмацнілі кантроль над касцёльным будаўніцтвам. Сенацкі ўказ ад 19 кастрычніка 1828 г. паўтарыў забарону (Імператарскі ўказ ад 1795 г. Беларускаму генерал-губернатару П.Б.Пасеку, Сенацкі ўказ ад 31 мая 1819 г. Рымска-Каталіцкай духоўнай калегіі) самавольна будаваць касцёлы і уніяцкія цэрквы, а таксама будаваць іх зблізку ад праваслаўных храмаў і рэгламентаваў колькасць двароў на адну парафію (не менш за 100) [103, т.3, с.917-919]. Указ ад 19 кастрычніка 1828 г. распаўсюдзіў гэтыя правілы на будаўніцтва капліц, у якіх праводзіліся набажэнствы. Усе просьбы на дазвол касцёльнага будаўніцтва павінны былі падавацца ў губернскае праўленне і ісці па адпаведных дзяржаўных інстанцыях у духоўнае ўпраўленне спраў замежных вызнанняў. Аднак, як сведчыць сенацкі ўказ ад 5 лістапада 1831 г., самавольнае будаўніцтва касцёльных будынкаў працягвалася [103, т.4, с.116-118]. Будаваліся не толькі парафіяльныя касцёлы, але і філіяльныя (дазвол у 1826 г. на будаўніцтва філіяльнага касцёла ў Вярэйках Гродзенскай губерні) [98, ф.886, воп.1, спр.7, арк.84 (адв.) ].

Умяшальніцтва ўрада ў сферу рэлігійнага культа ў 1820-х гадах адлюстравалася ў забароне некаторых знешніх яго праяў. Так, дыяцэзіяльныя ўлады ўлічвалі пажаданні ўрада не праводзіць на гарадскіх вуліцах працэсій, улічваліся пажаданні, каб працэсіі крыжовай дарогі не былі масавымі і без выкарыстання званоў і харугваў [98, ф.886, воп.1, спр.15, арк.20-21]. У 1826 г. былі забаронены ўрачыстыя жалобныя набажэнствы за прыватных асоб (акрамя казанняў, паніхід і памінанняў) [103, т.1, с.1273].

Урадавыя пастановы 1826-1830 гг. кардынальна не паўплывалі на змену становішча Касцёла ў дзяржаве, хоць яны больш яскрава акрэслілі тэндэнцыі далейшай палітыкі ўрада, асабліва ў дачыненні да манаскіх одэнаў. Паўстанне 1830-1831

гг. толькі падштурхнула расійскія ўлады да запланаваных дзеянняў.

Такім чынам, становішча Касцёла на беларускіх землях у 1772-1820-х гадах характарызуецца зменай яго прававога статуса. З Касцёла пануючага ў Рэчы Паспалітай ён ператварыўся ў "цярпімы". Дзейнасць духавенства падлягала кантролю з боку адпаведных дзяржаўных устаноў. Прамыя кантакты Касцёла з Рымам забараняліся, усе сувязі магчымы былі толькі праз пасрэдніцтва міністэрскіх структур. Заснаванне дыяцэзій здзяйснялася царскімі ўладамі без папярэдняга ўзгаднення пытання з папам. Вышэйшыя іерархі атрымлівалі грашовае ўтрыманне, што ставіла іх у пэўную залежнасць ад дзяржавы. Разам з тым, Касцёл захаваў зямельную ўласнасць і кляштары. Каталіцкае духавенства мела свабоду ў здзяйсненні рэлігійнай абраднасці. На пачатку XIX ст. яно рабіла актыўныя захады па далучэнню ў рымскі абрад уніятаў, не прыпыняліся выпадкі пераварочванняў у лацінскі абрад вернікаў іншых канфесій.

# ГЛАВА 2. АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ КАТАЛІЦКАГА КАСЦЁЛА

## 2.1. Дыяцэзіяльная арганізацыя

Першай кананічна створанай дыяцэзіяльнай адзінкай Рымска-Каталіцкага Касцёла у Расійскай імперыі было Магілёўскае арцыбіскупства. Біскуп С. Сестранцэвіч быў узведзены ў сан арцыбіскупа, атрымаў у Магілёве архікафедру і капітулу. Біскупскія кансісторыя і курыя былі ператвораны ў арцыбіскупскія. Арцыбіскуп атрымаў права мецць каад'ютара (біскупа з правам наследавання ўлады). Паводле ўказа Паўла І ад 28 красавіка 1798 г. і дэкрэта апостальскага дэлегата нунцыя Літты ад 7 жніўня 1798 г., Магілёўскае арцыбіскупства ахоплівала Беларускую губерню (з 1802 г. Магілёўскую і Віцебскую), Кіеўскую і ўсе астатнія ў Расійскай імперыі. Яе тэрыторыя ў межах былой Рэчы Паспалітай складала 148.000 км². [308, s.120].

Арцыбіскупская курыя выконвала функцыі канцылярыі. У яе склад уваходзілі 2-3 духоўныя асобы (сакратар па духоўных справах, сакратар па грамадзянскіх правах і ад'юнкт). Пры арцыбіскупе С. Сестранцэвічу знаходзілася камісія экзаменатараў для кандыдатаў у духоўны сан і на кантрольныя бенефіцыі.

Пачатак каталіцкай духоўнай кансісторыі ў Расіі паклаў царскі ўказ ад 14 снежня 1772 г. У 1773 г. для кансісіторыі і біскупа было вызначана дзяржаўнае ўтрыманне па 10.000 руб. штогод [102, т.XIX,с.864]. Адной з функцый кансісторыі быў разгляд судовых спраў і таму яна з'яўлялася адначасова судом біскупа. Склад кансісторыі ў XVIII ст. не быў сталы. У першай чвэрці XIX ст. у яе ўваходзілі старшыня (афіцыял і адначасова генеральны вікарый) і члены: віцэ-афіцыял (сурагат), 3 асэсары (суддзі), 2 сакратары і ніжэйшыя кіраўнікі (супрацоўнікі канцылярыі, перакладчык, пратакаліст і інш.) [258, s.31]. Інтарэсы свецкіх асоб у кансісторыі прадстаўлялі свецкія дэпутаты. Ад часу стварэння магілёўскай капітулы (у 1783 г.) члены кансісторыі выбіраліся з яе ліку. Кансісіторыя разглядала справы духавенства і вернікаў, шлюбаразводныя працэсы,

справы даўжнікоў, свецкага патранату і інш. Кансісторыя павінна была выконваць дарадчую і выканаўчую функцыю пры арцыбіскупе, ствараць умовы для арганізацыі пастырскай дзейнасці.

Уладкаванне магілёўскай капітулы вызначалася актамі нунцыя Аркецці ад 15 снежня 1783 г. [102, т.XXII, с.106-133]. Архікафедральным касцёлам прызначаўся кармеліцкі касцёл Унебаўзяцця Маці Божай. Манахі кармеліты перасяляліся ў іншыя кляштары свайго ордэна. Тры манахі ў якасці прэфекта, прапаведніка і спаведніка пакідаліся пры кафедры. Склад капітулы вызначаўся з 12 членаў – 4 прэлатаў (прэпазіта, архідыякана, кусташа, схаластыка), 4 канонікаў і 4 звольненых ад сталай прысутнасці пры архікафедры канонікаў (ганаровых), якія не мелі права голасу ў агульным сходзе. Прэпазіт капітулы з’яўляўся пробашчам кафедральнага касцёла, архідыякан выконваў функцыі намесніка арцыбіскупа, кусташ адказваў за рызніцу касцёла, а схаластык – за навучальныя ўстановы арцыбіскупства.

Утрыманне капітулы складалася з багата забяспечаных парафій: магілёўскай, мсціслаўскай, невельскай, себежскай, осунскай, люцынскай, дынабургскай, марыенгаузскай, пробашчы якіх прызначаліся прэлатамі і канонікамі капітулы. Прэпазітам прызначаўся магілёўскі пробашч, архідыяканам – осунскі, кусташам – невельскі, схаластыкам – люцынскі, канонікам–тэолагам – дынабургскі, канонікам-пенітэнцыярыям – марыенгаузскі, яшчэ двума канонікамі – мсціслаўскі і себежскі пробашчы. Члены капітулы (акрамя ганаровых) страчвалі прывілей на валоданне парафіяльнымі месцамі і ўтрымліваліся з часткі даходаў вышэй пералічаных парафій. Даходы гэтых парафій павінны былі дзяліцца на дзьве часткі. Адна з іх ішла на ўтрыманне пробашча і парафіі, а другая – для капітулы. Дзьве часткі даходаў, якія прызначаліся для капітулы, ішлі для фундуша членаў капітулы, а 3-я частка служыла для яе штодзённых патрэб. Каноніцтвы без права голасу аўтаматычна звязваліся з парафіямі ў Пецярбургу, Маскве, Херсоне і Крычаве. У дапамогу архікафедральнай капітуле стваралася калегія мансіянарыяў (вікарыяў), якая складалася з 6 ксяндзоў. На іх утрыманне прызначалася рэшта даходаў з вёсак Вядзец і

Заходы абольскай і аршанскай парафій. Частка даходаў з гомельскай парафіі павінна была ісці на арганізацыю музыкі ў архікафедральным касцёле.

Абавязкі членаў капітулы рэгламентаваліся актам аб заснаванні капітулы. Так, кожныя тры месяцы пры архікафедры павінны былі па чарзе прысутнічаць 2 прэлаты і 2 канонікі. Яны адпраўлялі імшу і бралі ўдзел у працы духоўнай кансісторыі. На пасяджэннях капітулы разглядаліся пытанні, якія тычыліся інтарэсаў капітулы, архікафедры, адукацыі і выхавання ў навучальных установах. Усе дысцыплінарныя справы ўваходзілі ў кампетэнцыю магілёўскага арцыбіскупа, які ўзначальваў капітулу. Акт аб заснаванні капітулы патрабаваў, каб яе члены былі шляхецкага паходжання.

Пасля 1783 г. арцыбіскуп павялічыў колькасць членаў капітулы да 5 прэлатаў і 6 канонікаў. У такім складзе яна пратрымалася да 1843 г. На ўтрыманне аднаго прэлата (архідыякана беларускага) прызначалася палова даходаў з былога беларускага архідыяканата Віленскай дыяцэзіі, а для двух новых канонікаў – частка даходаў з трох вёсак парафій Люцын і Вядзец. Новая змена ў арганізацыі магілёўскай капітулы адбылася ў 1798 г., калі апостальскі дэлегат Літта зацвердзіў аб’яднанне ў адных руках прэпазітуры з пасадай суфрагана (дапаможнага біскупа). Царскім указам ад 15 сакавіка 1810 г. у дапамогу магілёўскай капітуле было дазволена дадаткова прызначыць 12 кіеўскіх канонікаў, якія стваралі капітулу меншую (калегіяту). Яны мелі права замяшчаць членаў кафедральнай капітулы ў кафедры і кансісторыі і быць выбранымі асэсарамі ў духоўную калегію ў Санкт-Пецярбургу. Меншая капітула ніколі не збіралася ў Кіеве, не мела ўласнага касцёла і была ліквідавана ў 1848 г. Яна не мела кананічнага характару, бо не была зацверджана папам.

Акрамя капітулы ў распараджэнні магілёўскага арцыбіскупа знаходзіліся дапаможныя біскупы (суфраганы) і каад’ютар (біскуп з правам наследавання ўлады). Першым суфраганам у 1780 г. быў прызначаны ксёндз Ежы Пуслоўскі, адміністратар расійскай часткі Інфлянцкай дыяцэзіі, якая кананічна працягвала існаваць у старых межах. У 1784 г. каад’ютарам арцыбіскупа С. Сестранцэвіча быў зацверджаны

пробашч касцёла ў Дынабургу канонік Ян Беніслаўскі. Для ўтрымання апошняга ўрадам была прызначана сума 1.200 руб. штогод. Аднак інстытут каад'ютараў не атрымаў у Расіі распаўсюджання. Ян Беніслаўскі быў адхілены ад пасады ў 1801 г.

У 1798 г. у Магілёўскай архідыяцэзіі быў створаны сталічны суфраганат і два акруговых – у Полацку і Кіеве. Крыніцай для іх утрымання былі вызначаны даходы ад асобных прэлатур і багатых парафій. Суфраганы выконвалі ўсе тыя функцыі, што знаходзіліся ў біскупскай кампетэнцыі, з той толькі розніцай, што на ўсе свае дзеянні яны павінны былі мець санкцыю біскупа ардынарыя. Пад час вакансіі сталічнай кафедры суфраганы маглі часова выконваць функцыі адміністратара архідыяцэзіі.

Аддаленыя ад Магілёва парафіі кіраваліся архідыяканамі – кіеўскім з 1798 г. і беластокскім з 1807 г. Першаму з іх падлягалі парафіі Кіеўскай губерні, а другому – Беластокскай акругі. Беластокскі і Кіеўскі архідыяканаты не былі звязаны з магілёўскай капітулай. Беластокскі архідыякан, ён жа пробашч, меў уласную кансісторыю і быў падпарадкаваны магілёўскаму арцыбіскупу. Кіеўскі архідыякан быў звязаны з меншай капітулай (ці калегіятай) у Кіеве.

Вядомы з папярэдніх часоў Беларускі архідыяканат не меў акрэсленых межаў і праіснаваў да пачатку XIX ст. У 1808 г. ён ужо не згадваецца, а пасада Беларускага архідыякана не звязваецца з пэўнай акругай. Асноўнай функцыяй архідыяканаў была камунікатыўная. Да 1810г. прызначэнні на архідыяканскія пасады былі ў кампетэнцыі дыяцэзіяльных біскупаў.

У 1774 г. пры магілёўскай каталіцкай кансісторыі С. Сестранцэвічам была заснавана друкарня. У ёй друкаваліся афіцыйныя матэрыялы, у тым ліку штогадовыя спісы парафій і духавенства Магілёўскай архідыяцэзіі, навуковыя працы (у тым ліку С. Сестранцэвіча), падручнікі, календары, мастацкія творы і іншая літаратура, галоўным чынам на польскай, лацінскай і рускай (у адпаведнасці з указам Сената ад 17 кастрычніка 1776 г.) мовах. Кансісторская друкарня выконвала функцыі губернскай да 1833 г. Усяго вядома больш за 60 назваў выданняў гэтай друкарні.

Найбольш важныя для Касцёла пытанні павінны былі вырашацца на мясцовых сінодах. Аднак у Расіі адбыўся толькі адзін сінод у 1793 г. Хоць па назве ён з’яўляўся мітрапаліцкім, на самой справе з-за адсутнасці на той час дыяцэзій меў архідыяцэзіяльны характар. На пасяджэннях сіноду прысутнічалі члены магілёўскай капітулы, дыяцэзіяльныя ксяндзы і прадстаўнікі ордэнскага духавенства. Яго рашэнні, замацаваўшыя духоўную ўладу мітрапаліта С. Сестранцэвіча над манаскімі ордэнамі, не былі прыняты большасцю духавенства. З 1818 г. сіноды маглі склікацца толькі са згоды цара. На думку польскіх даследчыкаў, адсутнасць сінодаў у Магілёўскай мітраполіі спрыяла захаванню ў Касцёле польскага аблічча, бо фармальна ў ім працягвала дзейнічаць польскае сінадальнае права XVIII ст. [258,s.33]. У склад дыяцэзіяльных структур уваходзілі таксама духоўныя семінарыі.

Структура вышэйшых органаў Магілёўскай архідыяцэзіі ў пэўным сэнсе была ўзорнай. На яе павінны былі арыентавацца аналагічныя структуры іншых дыяцэзій. Створаныя ў 1795 г. Кацярынай II дыяцэзіі (Інфлянцкая, Пінская і Латычоўская) існавалі занадта мала часу, каб у іх былі сфарміраваны і пачалі дзейнічаць новыя дыяцэзіяльныя структуры. Акрамя таго, дыяцэзіі мелі некананічны характар і іх духавенства не праяўляла актыўнасці ў фарміраванні некананічных структур. Толькі інфлянцкі біскуп паспеў прызначыць духоўную кансісторыю і даць некаторыя распараджэнні духавенству. Але ён так і не пераехаў у  Вільню і знаходзіўся ў часовай рэзідэнцыі ў Гродне. Практычна новыя дыяцэзіі так і не былі арганізаваны. Толькі ў 1798 г. Павел І у паразуменні з Рымам правёў кананічную рэарганізацыю дыяцэзіяльных структур у Расійскай імперыі. Ён пакінуў Магілёўскую архідыяцэзію, але зліквідаваў іншыя, якія стварыла Кацярына II. Былі адноўлены раней існаваўшыя дыяцэзіі, акрамя Інфлянцкай, і заснаваны дзве новыя – Мінская і Житомірская (апошняя ў персанальнай уніі з Луцкай дыяцэзіяй).

Новая адміністрацыйная структура Касцёла была зацверджана ў 1798 г. папскім пасланнікам Л. Літтам. Мітраполія з цэнтрам у Магілёве ахоплівала межы ўсёй Расійскай імперыі (акрамя Царства Польскага, тэрыторыя якога

ўваходзіла ў склад асобнай мітраполіі). У яе склад уваходзілі: Магілёўская архідыяцэзія, якая ўключала землі, якія адышлі да Расіі пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, Кіеўскую губерню і ўсю ўсходнюю частку імперыі, а таксама Віленская, Жмудская, Мінская, Луцка-Жытомірская і Камянецкая дыяцэзіі.

Мінская дыяцэзія ахоплівала тэрыторыю Мінскай губерні (90.200 км²) [308, s.120]. Яе першым біскупам быў віленскі канонік кс. Якуб Дэдэрка (1798-1829 гг.), які часова размясціў сваю рэзідэнцыю ў будынку дамініканскага кляштара, а кафедру – у былым езуіцкім касцёле імя св. Дзевы Марыі. Ён атрымаў права мець аднаго дапаможнага біскупа суфрагана, які ўтрымліваўся за кошт парафіяльных даходаў. Мінская духоўная кансісторыя была сфарміравана ў 1798 г. па ўзору магілёўскай кансісторыі.

Мінская капітула складалася з 12 членаў – 6 прэлатаў (прэпазіт, архідыякан, дэкан, схаластык, кусташ і кантар) і 6 канонікаў. Пасады дэкана і кантара былі створаны па аналогіі з капітуламі былой Рэчы Паспалітай. Першы з іх павінен быў інфармаваць членаў капітулы, а другі – адказваў за арганізацыю музыкі ў кафедральным храме і прадстаўляў біскупу кананічныя пастановы. Пасада архідыякана не была звязана з кіраваннем у пэўнай тэрытарыяльнай акрузе. У сувязі з тым, што ўрад не вызначыў для капітулы ўтрымання, яе існаванне, як і магілёўскай капітулы, было забяспечана парафіяльнымі бенефіцыямі. Іх размеркаванне выглядала наступным чынам. Для прэлатаў прызначаліся даходы з парафій Слуцка, Барысава, Нясвіжа, Радашковічаў, Іказні і Мінска, для канонікаў – парафіяльныя даходы з Івянца, Докшыцаў, Цімкавічаў, Ляхавічаў, Мядзведзічаў і Клецка. Як і пры арганізацыі магілёўскай капітулы, пробашчы вышэй пералічаных парафій былі прызначаны прэлатамі і канонікамі. Пасля смерці бенефіцыянтаў іх даходы павінны былі дзяліцца паміж парафіяй і капітулай такім чынам, што ад сумы прызначанай для капітулы, трэцяя частка ішла на яе штодзённыя патрэбы, а дзве – на фундуш канонікам і прэлатам.

Правы і дзейнасць мінскай капітулы вызначаліся актамі нунцыя Літты аб кананічным заснаванні дыяцэзіі ад 11 жніўня 1798 г. [4, с.96-99]. 15 лістапада 1798 г. дакументы Літты былі

зацверджаны папскай булай, якая была адаслана ў Пецярбург у 1799 г. Паводле гэтых дакументаў, мінскі біскуп прызначаў з членаў капітулы для кафедральнага касцёла багаслова і пенітэнцыярыя. Першы павінен быў тлумачыць Св. Пісанне, а другі спавядаць. У сувязі з тым, што кафедральны касцёл з'яўляўся адначасова парафіяльным пры ім ствараліся пасады 6 вікарных ксяндзоў (мансіянарыяў) з парафіяльнымі бенефіцыямі. Гэтыя ксяндзы не ўваходзілі ў склад капітулы і не мелі права голасу. Статут мінскай капітулы забараняў стварэнне пасадаў тытулярных (ганаровых) канонікаў. Усе прэлаты, канонікі і мансіянарыі павінны былі стала прысутнічаць пры кафедральным касцёле, а ў парафіях іх павінны былі замяшчаць вікарныя ксяндзы. Членамі капітулы прызначаліся асобы шляхецкага паходжання, акрамя багаслова і пенітэнцыярыя, з ліку дыяцэзіяльнага духавенства.

Мінскі біскуп Якуб Дэдэрка ўзначальваў кафедру да 1816 г. У 1816 г. за абвяшчэнне ў кафедральным касцёле 19 ліпеня 1812 г. "Мінскай канфедэрацыі" ён быў рэпрэсіраваны царскімі ўладамі і памёр у 1829 г. у Альцы. Пад час адсутнасці Я. Дэдэркі ў Мінску дыяцэзіяй кіравалі адміністратары прэлаты Стэфан Пазняк (1816-1824 гг.), Язэп Камінскі (1824-1827 гг.), тытулярны біскуп Мацфей Ліпскі (1827-1829 гг.), які ў 1829г. быў прызначаны дыяцэзіяльным біскупам. Паводле ўказа ад 28 красавіка 1798 г. мінскі біскуп атрымаў утрыманне 6.000 руб. штогод. У 1827 г. адміністратарам дыяцэзіі было дабаўлена 4.000 руб. [103, т.2, с.528].

Указ Паўла I ад 28 красавіка 1798 г. і дэкрэт нунцыя Літты ад 7 жніўня 1798 г. абвяшчалі аб стварэнні Віленскай дыяцэзіі. Фактычна гэта было аднаўленне ў новых межах дыяцэзіі, якую скасавала Кацярына II. Кананічна яна ўвогуле не знікала і яе інстытуты (кансісторыя, капітула, курыя) працягвалі дзейнічаць. Віленская дыяцэзія мела здаўна існуючую арганізацыю і традыцыю. Межы яе змяншаліся пасля кожнага падзелу Рэчы Паспалітай. У 1772 г. яна страціла дэканат Оршу і часткі дэканатаў Бабруйск, Браслаў, Полацк і Віцебск, усяго 35 парафій, у тым ліку 32 на тэрыторыі сучаснай Беларусі, што складала 6,8% ад усёй тэрыторыі дыяцэзіі. У 1793 г. дыяцэзія страціла палову сваіх зямель. У 1798 г. яна была выключана з

Гнезненскай мітраполіі і ўключана ў Магілёўскую мітраполію. З гэтага часу тэрыторыя дыяцэзіі ахоплівала Курляндскую губерню і Літоўскую без Жмудзі, а пасля адміністрацыйнай рэформы ў 1801 г. - губерні Віленскую, Гродзенскую і Курляндскую - усяго 107.000 км². [308, s.118-120; 267, s.306-333].

Віленская дыяцэзія да падзелаў Рэчы Паспалітай мела значныя зямельныя ўладанні, якія складаліся з біскупскіх і капітульных зямель (сталовых і прэстыманіяльных). Перад 1772 г. капітуле належала каля 270 вёсак, а біскупу – 330 вёсак [249, s.22]. Найбольш значнымі зямельнымі ўладаннямі былі Стрэшынская воласць, маёнткі Бакшты, Дубровіца і інш [89, с.111-115]. У перыяд падзелаў Рэчы Паспалітай былі ўзяты ў секвестр і канфіскаваныя зямельныя ўладанні віленскага біскупа. Замест зямельнага забеспячэння віленскаму біскупу было прызначана штогадовае грашовае ўтрыманне. Для інфлянцкага біскупа з рэзідэнцыяй у Вільні яно паводле ўказа ад 6 верасня 1795 г. складала 4000 руб. срэбрам, а для віленскага ў адпаведнасці з рэскрыптам Паўла І ад 4 снежня 1796 г. – 10.000 руб. срэбрам [335, s.207].

Канфіскаваную зямельную маёмасць урад выкарыстаў для раздачы расійскім дваранам - Няплюеву, Остэрману, Іеленеву, Шэвічу, Дзянісаву, Бенігсену, Фокаву і інш. Частка зямельных даходаў была пры Кацярыне ІІ выкарыстана для будаўніцтва праваслаўных храмаў і адміністрацыйных будынкаў. Павел І з гэтых даходаў прызначыў грашовае ўтрыманне для віленскага біскупа і суму для найму біскупскай рэзідэнцыі (з 1796 г. у палацы біскупа размяшчаўся дом губернатара) [344, s.274-275; 114, с.LXXI-LXXX].

Нягледзячы на зямельныя страты Віленская дыяцэзія працягвала захоўваць значныя зямельныя ўладанні. Так, віленская капітула ў 1804 г. валодала 6042 прыгоннымі і капіталам 143.640 руб. срэбрам з прыбыткам 10.908 руб. Акрамя таго, на патрэбы кафедральнага касцёла прызначалася 1806 прыгонных і 42.981 руб. капітала, з якога складаўся прыбытак 11.115 руб. [249,s.22].

Віленская капітула перад падзеламі Рэчы Паспалітай налічвала 6 прэлатаў (прэпазіт, дэкан, архідыякан, кусташ,

схаластык, кантар) і 12 канонікаў. Такі склад капітулы захоўваўся да 1843 г. Пераважную яе большасць складалі біскупы. У 1803 г. царскім ўказам аб заснаванні Віленскага універсітэта апошняму было дадзена права мець у капітуле чатырох канонікаў.

Кансісторыя, яна ж духоўны біскупскі суд, складалася з афіцыяла, віцэ-афіцыяла, асэсараў і сакратара. У 1799 г. у яе склад уваходзілі: афіцыял (ён жа старшыня) – дапаможны біскуп Д. Пільхоўскі, віцэ-афіцыял (сурагат) – кс. канонік віленскай капітулы А. Гедройц, 5 асэсараў, 4 ордэнскіх кансультанта (пасады існавалі да 1804 г.), пратакаліст. Акрамя кансісторыі цэнтральным органам дыяцэзіі была біскупская курыя (надворная канцылярыя), у склад якой уваходзілі канцлер, аўдытар і сакратар. У курыі захоўваліся акты біскупаў, дакументацыя дыяцэзіяльнага кіраўніцтва, парафіяльныя метрыкі.

Важную ролю ў дыяцэзіяльнай структуры выконвалі дапаможныя біскупы - суфраганы. Яны дапамагалі біскупу ардынарыю ў пастырскай працы і справах кіравання дыяцэзіяй. Суфраганы ўзначальвалі пэўныя касцёльныя акругі – суфраганаты. У 1798 г. для Віленскай дыяцэзіі былі зацверджаны сталічны суфраган і 3 акруговых (троцкі, курляндскі і брэсцкі). У даследуемы час сталічнымі суфраганамі былі: Д. Пільхоўскі (1795-1803 гг.), Н. Пузыня (1814-1819 гг.) і А. Клангевіч (1830-1840 гг.). Суфраганы не мелі спецыяльных фундушаў і па ўсталяваўшайся практыцы ўтрымліваліся за кошт багатых парафій. У 1828 г. у інструкцыі для генеральных візітацый Віленскай дыяцэзіі ўзгаданы толькі віленскі і брэсцкі суфраганы [331, s.4].

Акрамя генеральнай капітулы ў Вільні на тэрыторыі дыяцэзіі існавалі дзве малыя капітулы (калегіяты) – брэсцкая (з 1798 г.) і курляндская (заснавана каля 1800 г.) У склад брэсцкай калегіяты ўваходзілі 2 прэлаты (прэпазіт і канцлер) і канонікі, колькасць якіх не была пастаяннай. У 1801 г. іх налічвалася 7 , у 1818 г. – 35 , у 1821 г. – 30. Апошні раз брэсцкая капітула ўзгадваецца ў 1843 г. У склад курляндскай калегіяты ў 1806 г. уваходзіла 8 канонікаў, у 1821 г.- 4 канонікі і 1 прэлат, у 1832 г. (апошнім годзе існавання) – толькі 1 прэлат. Абедзве калегіяты

фарміравалія з ліку парафіяльнага духавенства. Яны не мелі асобнага касцёла, не былі зацверджаны Рымам і насілі ганаровы характар. Фармальнай ліквідацыі калегіят ніколі не было [249, s.40; 258, s.343].

Часткай віленскай дыяцэзіяльнай структуры была друкарня, якая размяшчалася пры касцёле св. Казіміра ў Вільні. Яна пачала дзейнічаць на базе былой каралеўскай гродзенскай друкарні, якая была пераведзена ў другой палове 90-х гадоў XVIII ст. у распараджэнне віленскага біскупа Я.Н. Касакоўскага. У ёй друкаваліся афіцыйныя дакументы, рэлігійная і богаслужбовая літаратура. У 1805 г. друкарня была перададзена віленскім місіянерам, якія размясцілі яе ў сваім кляштары. У 1842 г. яна спыніла сваё існаванне.

Усяго па падліках С. Куль-Сяльверставай у пачатку XIX ст. на тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў дзейнічала 9 друкарняў: чатыры ў Вільні (універсітэцкая, каталіцкая дыяцэзіяльная, піяраў і базыльянаў), дзве ў Гродне (Ясінскага і З.Нахімовіча) і па адной у Мінску (магістрацкая), Полацку (езуітаў) і Магілёве (дыяцэзіяльная). У наступныя гады колькасць друкарняў узрасла. У 1811 г. іх налічвалася ўжо 14 : чатыры ў Вільні, дзве ў Копысі і Мінску, і па адной у Беластоку, Віцебску, Гродне, Магілёве, Нясвіжы, Полацку [80, с.73].

Пасля смерці віленскага біскупа Я.Н. Касакоўскага адміністратарам дыяцэзіі з’яўляўся Еранім Страйноўскі (у 1814-1815 гг. віленскі біскуп). Пасля смерці Е. Страйноўскага кіраўніцтва дыяцэзіяй прыняў на сабе С. Сестранцэвіч. Пасля яго смерці ў 1826 г. Віленская дыяцэзія перайшла пад кіраванне магілёўскага мітрапаліта К. Цецішэўскага. У 1827 г. было дазволена займацца справамі дыяцэзіі дапаможнаму біскупу А. Клангевічу, але пад наглядам мітрапаліта, якому трэба было даваць рэгулярныя справаздачы і слухаць ягоныя парады.

Касцёльныя і свецкія ўлады ўсведамлялі, што Вільня з’яўлялася культурна-рэлігійным цэнтрам зямель былога Вялікага Княства Літоўскага. У XIX ст. былі працягнуты спробы ўзвысіць дыяцэзіяльную сталіцу да ўзроўню мітраполіі. У 1806 г. мітрапаліт С. Сестранцэвіч, карыстаючыся вакансіяй віленскай кафедры, выступіў з праектам паніжэння магілёўскага арцыбіскупства да біскупства і перанясення сталіцы мітраполіі ў

Вільню. Са здзяйсненнем гэтай акцыі звязваліся спадзяванні кананічным шляхам узвысіць статус Касцёла ў Расійскай імперыі. У часе перамоў расійскіх прадстаўнікоў з Рымам (у 1803 г., 1804 г., 1814 г., 1816 г., 1817 г. і ў перыяд да 1834 г.) падымалася пытанне надання магілёўскаму арцыбіскупу тытула прымаса Вялікага Княства Літоўскага і прыроджанага легата з шырокімі правамі ў касцёльных справах. У 1816 г. урадам Расіі высоўвалася прапанова стварэння двюх мітраполій – у Магілёве і Вільні – з захаваннем для віленскага пастыра ўсіх прэрагатываў прымаса і прыроджанага легата. Аднак усе прапановы расійскіх улад, якія тычыліся змены кананічнага становішча Касцёла ў імперыі, былі паслядоўна адхілены Апостальскай Сталіцай [258, s.20-21].

Тэрытарыяльна каталіцкія дыяцэзіі падзяляліся на дэканаты і парафіі. У Вялікім княстве Літоўскім каля 1772 г. налічвалася 26 дэканатаў [267, s.54]. У Расійскай імперыі да падзелаў Рэчы Паспалітай не існавала дэканатаў. Касцёльны сінод 1793 г. разглядаў пытанне дэканальнага падзелу Магілёўскай архідыяцэзіі і выдаў інструкцыю для візітацыі дэканатаў. Аб сапраўднай дэканальнай арганізацыі Касцёла ў Расійскай імперыі можна гаварыць з канца XVIII ст., калі біскупы кананічна зацверджаных дыяцэзій правялі на сваёй тэрыторыі рэарганізацыю дэканатаў у адпаведнасці з павятовымі межамі. У некаторых паветах было створана некалькі дэканатаў. Лічба парафій у іх вагалася ад 4-х да 15-ці. Кола паўнамоцтваў дэканаў было дастаткова шырокім. Яны прымалі і даводзілі да ксяндзоў распараджэнні духоўных і свецкіх улад, складалі справаздачы, сачылі за захаваннем фундушаў, візітавалі парафіі, не дапускалі без спецыяльнага дазволу да службы ксяндзоў з іншых дыяцэзій, арганізоўвалі рэкалекцыі і інш. Кожны дэкан меў памочніка, віцэ-дэкана, які выконваў функцыі дэкана ў выпадку яго хваробы ці адсутнасці [14, кп 15758, а.12].

Стварэнне дэканатаў знаходзілася ў кампетэнцыі дыяцэзіяльнага біскупа. У Магілёўскай архідыяцэзіі ў 1808 г. налічвалася 29 дэканатаў. 13 з іх знаходзілася на тэрыторыі сучаснай Беларусі: у Магілёве, Рагачове, Чавусах (дэканат Чавусы-Чэрыкаў), Сянне, Оршы, Бабінавічах, Копысі, Мсціславе, Віцебску (дэканат Віцебск-Веліж-Сураж), Полацку,

Дрысе, Рэчыцы, Лепелі. Амаль усе дэканаты былі створаны для зямель, якія раней уваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай. Выключэнне складаў толькі наварасійскі дэканат. Лічба парафій у беларускіх дэканатах вагалася ад 2 (дэканат Бабінавічы) да 13 (дэканат Лепель) [258, s.549].

Мінскі біскуп Я. Дэдэрка ў сваёй дыяцэзіі заснаваў 13 дэканатаў: мінскі гарадскі, мінскі павятовы, наднёманскі, ігуменскі, бабруйскі, пінскі, мазырскі, рэчыцкі, барысаўскі, дзісненскі, вілейскі, надвілейскі і слуцкі. З іх толькі дэканаты бабруйскі і мінскі існавалі ў перыяд Рэчы Паспалітай, астатнія былі новастворанымі [258, s.552].

У Віленскай дыяцэзіі дэканальная сетка не была стабільнай. У 1800 г. у дыяцэзіі налічвалася 18 дэканатаў: віленскі, ашмянскі, завілейскі, лідскі, вількамірскі, браслаўскі, троцкі, гродзенскі, ковенскі, упіцкі, наваградскі, слонімскі, ваўкавыскі, берасцейскі, пружанскі, кобрынскі, курляндскі, семігальскі. Да 1830 г. колькасць дэканатаў неаднаразова змянялася. У 1829 г. існавала 25 дэканатаў: новымі былі купішскі, пабойскі, радунскі, сталовіцкі, свянцянскі, вішнеўскі [258, s.551; 249, s.16; 308, s.141].

На землях былой Рэчы Паспалітай існавала развітая парафіяльная сетка. Арганізацыя парафій і прызначэнні ксяндзоў да XIX ст. знаходзіліся ў кампетэнцыі дыяцэзіяльнай улады. Указ ад 13 лістапада 1801 г. забараніў біскупам мецъ уласныя парафіі, даваць ксяндзам больш аднаго бенефіцыя і парушаць правы кцітараў у прызначэнні духоўных асоб у прыход [102, т.XXVI, с.157-164]. Магчымасць умешвацца ў падбор парафіяльных кадраў атрымалі ў 1801 г. Рымска-Каталіцкая духоўная калегія, у 1810 г. галоўнае ўпраўленне спраў замежнага веравызнання, у 1817 г. міністэрства духоўных спраў і народнай адукацыі, з 1825 г. міністэрства замежных спраў. Аднак, як адзначае Б. Кумар, да 1825 г. урад не злоўжываў сваімі правамі і ў сапраўднасці існавала магчымасць свабоды дзеянняў для духавенства ў гэтай галіне [258, s.664].

Перад 1772 г. у Беларусі знаходзілася 259 парафій (табл. 1.1). Амаль усе яны былі ў складзе Віленскай дыяцэзіі (234 ці 90,3% ад усіх існуючых на тэрыторыі Беларусі), астатнія ўваходзілі ў склад Луцкай дыяцэзіі (23 ці 8,9%) і Кіеўскай (2 ці

0,8%). Многімі парафіямі апекаваліся кляштары. У Віленскай дыяцэзіі такіх парафій налічвалася 58, што складала 24,8% ад агульнай колькасці парафій у дыяцэзіі, ці 22,4% ад агульнай колькасці на тэрыторыі сучаснай Беларусі. У межах Луцкай дыяцэзіі было толькі 3 парафіі, якімі апекавалася манаства (13% ад колькасці беларускіх парафій у дыяцэзіі і 1,2% ад колькасці ўсіх парафій на тэрыторыі Беларусі), у Кіеўскай – 1 (палова ўсіх парафій беларускай часткі дыяцэзіі ці 0,4% ад усіх парафій Беларусі). Усе прыкляштарныя парафіі (62) складалі 24,0% ад агульнай колькасці парафій на беларускіх землях. Размеркаванне парафій не было раўнамерным. Паўночна-заходняя Беларусь адрознівалася шчыльнай парафіяльнай сеткай, а на ўсходзе яна была даволі рэдкай.

Табліца 1.1 – Рымска-Каталіцкія парафіі на тэрыторыі Беларусі (каля 1772 г.) [267, s.306-333; 312, mapa].

| Дыяцэзія | Колькасць усіх парафій у дыяцэзіі | % ад усіх парафій на Беларусі | Колькасць парафій, якімі апекаваліся кляштары | % ад усіх парафій у дыяцэзіях | % ад усіх парафій на Беларусі |
|---|---|---|---|---|---|
| Віленская | 234 | 90,3% | 58 | 24,8% | 22,4% |
| Луцкая | 23 | 8,9% | 3 | 13,0% | 1,2% |
| Кіеўская | 2 | 0,8% | 1 | 50,0% | 0,4% |
| Смаленская | --- | --- | --- | --- | --- |
| Усяго | **259** | **100** | **62** | --- | **24,0%** |

У 1772 г. на тэрыторыі той часткі Беларусі, якая адышла да Расіі, налічвалася разам з езуіцкімі 32 парафіі. Усе яны былі ўключаны ў склад нekананічнай Беларускай дыяцэзіі (з 1783 г.- Магілёўскай архідыяцэзіі). У 1798 г. у адпаведнасці з новымі адміністрацыйнымі межамі да Магілёўскай архідыяцэзіі на захадзе адышло 8 парафій (табл. 1.2). Да 1830 г. колькасць парафіяльных касцёлаў на беларускіх землях архідыяцэзіі ўзрасла, аднак на колькі - дакладна вызначыць цяжка, бо звычайна ў ведамасцях падаваліся агульныя лічбы па ўсёй архідыяцэзіі. Напрыклад, за 1804 г. – 186 дыяцэзіяльных касцёлаў, за 1823 г. – 231 дыяцэзіяльны касцёл і 301 усіх касцёлаў, у тым ліку парафіяльных пры кляштарах [258, s.679; 289, s.305].

Табліца 1.2 – Рымска-Каталіцкія парафіі на тэрыторыі Беларусі (1798г.,па стану каля 1772г.) [267, s.306-333; 312, mapa].

| Дыяцэзія | Колькасць усіх парафій у дыяцэзіі | % ад усіх парафій на Беларусі | Колькасць парафій, якімі апекаваліся кляштары | % ад усіх парафій у дыяцэзіях | % ад усіх парафій на Беларусі |
|---|---|---|---|---|---|
| Магілёўская архідыяцэзія | 40* | 15,4% | 17 | 42,5% | 6,6% |
| Мінская дыяцэзія | 74 | 28,6% | 23 | 31,1% | 8,9% |
| Віленская дыяцэзія | 145 | 56,0% | 22 | 15,2% | 8,5% |
| Усяго | 259 | 100% | 62 | --- | 24,0% |

* З улікам 8 парафій, якія адышлі ў склад архідыяцэзіі ў 1798 г.

Усяго на беларускіх землях архідыяцэзіі ў 20-х гадах XIX ст. налічвалася не менш за 64 парафіі (амаль 20% ад агульнай колькасці парафій Беларусі) (табл. 1.3). У гэты лік увайшлі першапачатковыя 32 парафіі, 8 далучаных у 1798 г., а таксама новастворaныя. Паколькі ў даследуемы час не было масавай касацыі парафій, сумарная лічба можа быць дастаткова дакладнай. У параўнанні са становішчам напярэдадні 1772 г. колькасць парафій у беларускай частцы архідыяцэзіі ўзрасла на 5% (табл. 1.2, 1.3). Палова каталіцкіх парафій знаходзілася пад апекай кляштараў (32, ці 50%, перад 1772 г. – 42,5%). У адносінах да ўсёй тэрыторыі Беларусі яны складалі 10% ( 1772 г. – 6,6 %) (табл. 1.2, 1.3). Да 1820 г. 7 парафіямі апекаваліся езуіты.

На тэрыторыі якая ўвайшла ў склад Мінскай дыяцэзіі перад 1772 г. знаходзілася 74 парафіі (табл. 1.2.). Каля 1830 г. колькасць парафіяльных касцёлаў тут павялічылася да 95, што складала амаль 30% ад усіх парафій Беларусі (каля 1772 г. на гэтай тэрыторыі было 28,6% ад усіх парафій) (табл. 1.2., 1.3.). Кляштары апекаваліся 22 парафіямі (23,2% у дыяцэзіі і 6,9% ад агульнай колькасці ў Беларусі) (табл. 1.3.). У параўнанні з 1772 г. колькасць парафій, якімі апекавалася манаства, засталася амаль тая ж самая (23 у 1772 г.), аднак у працэнтных суадносінах іх колькасць зменшылася на 7,9% у дыяцэзіі і на 2,0% ад агульнай колькасці ў Беларусі (табл. 1.2, табл. 1.3). Відавочна, што ў Мінскай дыяцэзіі адбыўся прырост каталіцкіх парафій

дыяцэзіяльнага духавенства. З 5 парафій, якімі апекаваліся езуіты, толькі адна ў Юравічах адышла да іншага манаскага ордэна (бернардзінцаў).

Табліца 1.3 – Рымска-Каталіцкія парафіі на тэрыторыі Беларусі (20-я гады XIX ст.) [98, ф.1, воп.3, спр.422, арк.43-52; 99, ф.1781, воп.28, спр.26, арк.307-311; 170, t.1-2, 263 s., t.2., 213 s.; 194, s.384-449; 267, s.306-333; 312, mapa].

| Дыяцэзія | Колькасць усіх парафій у дыяцэзіі | % ад усіх парафій на Беларусі | Колькасць парафій, якімі апекаваліся кляштары | % ад усіх парафій у дыяцэзіях | % ад усіх парафій на Беларусі |
|---|---|---|---|---|---|
| Магілёўская архідыяцэзія | 64* | 20,1% | 32* | 50,0% | 10,0% |
| Мінская дыяцэзія | 95 | 29,8% | 22 | 23,2% | 6,9% |
| Віленская дыяцэзія | 160 | 50,1% | 20 | 12,5% | 6,3% |
| Усяго | 319 | 100% | 74 | --- | 23,2% |

* Без уліку 7 парафій, якімі апекаваліся езуіты да 1820 г.

Значная частка беларускіх зямель уваходзіла ў склад рэарганізаванай у 1798 г. Віленскай дыяцэзіі, якая ахоплівала часткі тэрыторый былых Віленскай і Луцкай дыяцэзій. Каля 1772 г. на беларускіх землях Віленскай дыяцэзіі ў межах 1798 г. налічвалася 145 парафіяльных касцёлаў (ці 56,0% ад агульнай лічбы парафій на Беларусі) (табл. 1.2). Кляштары апекаваліся 22 парафіямі (15,2% у дыяцэзіі і 8,5% ад агульнай колькасці на Беларусі). У 1820-х гадах у беларускай частцы дыяцэзіі налічвалася не менш за 160 парафій (107 на тэрыторыі Гродзенскай губерні і 53 у Віленскай губерні). Гэта складала на 15 адзінак больш, чым на адпаведнай тэрыторыі каля 1772 г. Пад апекай манаства было 20 парафій (на дзве менш у параўнанні з 1772 г.). Адбыўся прырост парафій дыяцэзіяльнага духавенства (табл. 1.2, 1.3). Нягледзячы на працэнтнае змяншэнне парафій у Віленскай дыяцэзіі да 1820-х гадоў, тут заставалася палова ўсіх беларускіх парафій (50,1%). Гэта сведчыць аб незвычайна шчыльнай парафіяльнай сетцы ў гэтай дыяцэзіі ў параўнанні з Мінскай дыяцэзіяй і Магілёўскай архідыяцэзіяй. Да дыяцэзіяльнага духавенства перайшлі і 4 езуіцкіх парафіі.

Па звестках канцылярыі Гродзенскага губернатара ў 1829 г. на тэрыторыі губерні каталіцкае духавенства прысутнічала ў 124 мясцовасцях. Па нашых падліках, 7 з іх ліку знаходзілася за палітычнымі межамі сучаснай Беларусі, яшчэ ў 7 дзейнічалі мужчынскія кляштары, якія не апекаваліся парафіямі. У астатніх мясцовасцях знаходзіліся пераважна парафіяльныя касцёлы. Пяць касцёлаў маглі быць філіяльнымі (у Котры, Перавалцы, Ятвезску, Васкевічах, Ушы). Іх філіяльны статус пацвярджаецца спісамі 1770-х гадоў, 1825 г. і архіўнымі крыніцамі [98, ф.1, воп.3, спр.422, арк.49-52,44-45; 267, s.306-333; 312, mapa].

Да 105 парафій паводле ведамасцей 1829 г. трэба дадаць яшчэ дзве (у Івацэвічах і Ліпску), якія адсутнічаюць у спісе за 1820 г., але прысутнічаюць у ведамасцях за 1825 г. У апошнім змешчана 100 парафій. Паміж дзвюмя спісамі існуюць некаторыя адрозненні. Так, у спісе 1825 г. адсутнічаюць 7 парафій, а менавіта, пры кацёлах даміниканцаў ў Дзярэчыне і Палонцы, францысканцаў у Свіслачы, Лапеніцы, Драгічыне, місіянераў у Лыскаве, парафія ў Поразаве, а таксама вышэйадзначаныя філіяльныя касцёлы ў Котры, Ятвезску і Ушы. Параўнальна невялікія разыходжанні паміж дадзенымі за 1825 г. і 1829 г. не могуць істотна паўплываць на агульную карціну парафіяльнай сеткі ў Гродзенскай губерні і тлумачацца як недакладнасцямі спісаў, так і тым, што колькасць парафій у дыяцэзіі не была пастаяннай і мела пэўную тэндэнцыю да павелічэння [308, s.118-129].

Акрамя парафіяльных касцёлаў у дыяцэзіях існавала вялікая колькасць філіяльных касцёлаў і капліц, а таксама капеланій у шляхецкіх дварах і жаночых кляштарах. Так, напрыклад, на тэрыторыі Мінскай дыяцэзіі ў 70-х гадах XVIII ст. налічваўся 31 філіяльны касцёл, у 1830 г. – каля 40 і акрамя таго каля 120 капліц у рознай ступені захаванасці. [170, т.1,2.]. У 1817 г. полацкім езуітам належала чатыры філіяльныя касцёлы ў горадзе : Св. Крыжа, апосталаў Пятра і Паўла, Труны Гасподняй, Спаса-Праабражэнская царква XII ст. [108, ф.822, воп.12, спр.2638, арк.1-18].

Шляхі стварэння новых парафій былі розныя: праз пераўтварэнне філіяльных касцёлаў, будаўніцтва парафіяльных касцёлаў, заснаванне парафій кляштарамі. Так, па звестках Я.Б.

Ходзькі, у Мінскай дыяцэзіі ў 1795-1810 гг. узнікла 10 новых парафій, з іх ліку 7 былі створаны пры касцёлах, якія былі пабудаваны за кошт фундатараў, адну парафію заснавалі ксяндзы ордэна місіянераў, адна парафія перайшла да дыяцэзіяльнага духавенства ад езуітаў і яшчэ адна была заснавана пры кафедральным касцёле [170, s.174-203].

Такім чынам, у даследуемы час была ўстаноўлена новая дыяцэзіяльная арганізацыя Касцёла са сваёй унутранай структурай. Беларускія землі ўвайшлі ў склад Магілёўскай мітраполіі. Аналіз парафіяльнай структуры паказвае, што пасля далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі колькасць парафій тут да 1830 г. павялічылася на 60 адзінак. Палова ўсіх беларускіх парафій знаходзілася ў Віленскай дыяцэзіі (Гродзенская губерня і частка Віленскай). Чым далей на ўсход, тым радзей была парафіяльная сетка. Так, у Мінскай дыяцэзіі знаходзілася каля 30% парафій ад агульнай колькасці, у Магілёўскай архідыяцэзіі – 20%. Парафій, якімі апекаваліся кляштары найбольш было ў Магілёўскай архідыяцэзіі, дзе яны складалі палову ад усіх парафій архідыяцэзіі. Найменш такіх парафій налічвалася ў Віленскай дыяцэзіі (13,1%). Такое становішча захавалася з часоў Рэчы Паспалітай, калі кляштары займаліся актыўнай місіянерскай дзейнасцю на ўсходзе Беларусі. Павелічэнне колькасці дыяцэзій спрыяла ўзмацненню пазіцый Касцёла і яго ўплываў на вернікаў.

## 2.2. Арганізацыя каталіцкіх манаскіх ордэнаў

Манаскія ордэны з’яўляюцца неад’емнай часткай Каталіцкага Касцёла. Іх значная роля ў гісторыі Касцёла бясспрэчная. У параўнанні з дыяцэзіяльным духавенствам ордэнскае вылучалася большай адукаванасцю і мабільнасцю. Кляштары мелі сувязі з Заходняй Еўропай, адкуль да іх ішоў пастаянны наплыў новых людзей і ідэй. Яны больш былі падвержаны рэфарматарскім плыням. Усё гэта спрыяла ўкараненню новых форм культу і рэлігійнай практыкі [185, s.81–82; 186,s.11–20; 194,s.325– 334; 244, s.19-20; 306, s.31; 329, s.105-121].

Перад першым падзелам Рэчы Паспалітай у Беларусі дзейнічалі кляштары шматлікіх манаскіх ордэнаў. Усяго налічвалася 179 мужчынскіх кляштараў, у тым ліку, у Віленскай дыяцэзіі - 156, у Луцкай дыяцэзіі - 20, у Смаленскай дыяцэзіі – 2, Кіеўскай – 1. Жаночых кляштараў было значна менш – 28, з іх у Віленскай дыяцэзіі – 24, у Луцкай – 3, у Смаленскай – 1. Размеркаванне кляштараў паводле ордэнскіх груп адлюстравана ў табліцах 1.4 і 1.5.

Табліца 1.4 – Манаскія ордэны і кляштары на тэрыторыі Беларусі (каля 1772г. – 20-я гады ХІХ ст.).[ 98, ф.1, воп.3, спр. 422, арк. 43-52; 99, ф. 1781, воп. 28, спр. 26, арк. 307-311; 170, t. 2., 263 s.; 194, s. 384-449; 238, s. 21-442; 267, s. 306-333; 312, mapa; 326].

| Манаскія ордэны | Кляштары | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Каля 1772 г. | | | | Каля 1772г. паводле дыяцэзіяльнага падзелу 1798 г. | | | | 20-я гады ХІХ ст. | | | |
| Бенедыкцінцы | 3 | - | - | - | - | 3 | - | 3 | - | 3 | - | 3 |
| Трынітарыі | 4 | 1 | - | - | 2 | 2 | 1 | 5 | 3 | 2 | 1 | 6 |
| Цыстэрцыянцы | 1 | 2 | - | - | - | 1 | 2 | 3 | - | 1 | 2 | 3 |
| Францысканцы | 19 | 2 | - | - | 5 | 8 | 8 | 21 | 5 | 8 | 8 | 21 |
| Бернардзінцы | 20 | 2 | - | - | 7 | 9 | 6 | 22 | 10 | 10 | 6 | 26 |
| Піяры | 5 | - | - | - | 1 | 1 | 3 | 5 | 1 | 1 | 3 | 5 |
| Езуіты | 33 | 2 | 1 | - | 12* | 13 | 11 | 36* | - | - | - | - |
| Кармеліты босыя | 4 | 1 | - | - | - | 3 | 2 | 5 | - | 3 | 2 | 5 |
| Кармеліты абутыя | 12 | 1 | - | - | 7 | 1 | 5 | 13 | 8 | - | 7 | 15 |
| Місіянеры | 3 | - | - | 2 | 3 | 1 | 1 | 5 | 2 | 2 | 2 | 6 |
| Баніфраты | 3 | - | - | - | - | 1 | 2 | 3 | - | 1 | 3 | 4 |
| Камуністы | 1 | 3 | - | - | - | 1 | 3 | 4 | - | 1 | - | 1 |
| Даміканцы | 41 | 3 | - | - | 16 | 13 | 15 | 44 | 16 | 13 | 13 | 42 |
| Канонікі рэгуляр-ныя ад пакуты | 2 | - | - | - | - | 1 | 1 | 2 | - | - | 1 | 1 |

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Канонікі рэгуляр-ныя латэранскія | 4 | - | - | - | 2 | - | 2 | 4 | 3 | - | 3 | 6 |
| Марыяне | - | 1 | - | - | - | - | 1 | 1 | - | - | 1 | 1 |
| Картэзіянцы | - | 1 | - | - | - | - | 1 | 1 | - | - | 1 | 1 |
| Аўгусцінцы | - | 1 | - | - | - | - | 1 | 1 | - | - | 1 | 1 |
| Рохіты | 1 | - | - | - | - | 1 | - | 1 | - | - | - | - |
| Усяго | 156 | 20 | 1 | 2 | 55 | 59 | 65 | 179 | 48** | 45 | 54 | 147 ** |

* З улікам кляштара ў Пачаевічах, які пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай застаўся ў складзе гэтай дзяржавы і ў 1773 г. быў скасаваны.

** Да 1820 г. на тэрыторыі Беларусі налічвалася 11 езуіцкіх асяродкаў.

На беларускіх землях былі прадстаўлены ўсе групы манаскіх фармацый – уласна манахі (бенедыкцінцы, цыстэрцыянцы, картэзіянцы), канонікі рэгулярныя (канонікі рэгулярныя латэранскія, канонікі рэгулярныя ад пакуты, трынітарыі), жабрацкія ордэны (аўгусцінцы, бернардзінцы, дамініканцы, францысканцы, кармеліты босыя, кармеліты абутыя), клерыкі рэгулярныя (баніфраты, езуіты, камуністы, марыяне, місіянеры, піяры, рохіты).

Усяго налічвалася 26 манаскіх ордэнаў – 19 мужчынскіх і 7 жаночых, у тым ліку ў Віленскай дыяцэзіі 16 мужчынскіх ордэнаў (бенедыкцінцы, цыстэрцыянцы, канонікі рэгулярныя латэранскія, канонікаі рэгулярныя ад пакуты, трынітарыі, бернардзінцы, дамініканцы, францысканцы, кармеліты босыя, кармеліты абутыя, баніфраты, езуіты, камуністы, місіянеры, піяры, рохіты), і 7 жаночых (бенедыкцінкі, бернардзінкі, брыгіткі, цыстэркі, дамініканкі, марыявіткі, шарыткі). На тэрыторыі Луцкай дыяцэзіі размяшчаліся кляштары 12 мужчынскіх ордэнаў (аўгусцінцаў, бернардзінцаў, дамініканцаў, францысканцаў, кармелітаў абутых, кармелітаў босых, трынітарыяў, цыстэрцыянцаў, картэзіянцаў, езуітаў, камуністаў, марыянаў) і 3 жаночых (бернардзінак, брыгітак, марыявітак). У Асвеі на тэрыторыі Смаленскай дыяцэзіі дзейнічалі кляштары місіянераў і шарытак, а ў Замошшы той жа дыяцэзіі – рэзідэнцыя місіянераў, акрамя таго, у Сталовічах быў прадстаўлены духоўна-рыцарскі ордэн мальтыйцаў. Заўважым, што манаскія ордэны марыянаў, рохітаў і марыявітак былі мясцовага паходжання, створаныя ў Віленскай дыяцэзіі.

Табліца – 1.5 Жаночыя манаскія ордэны і кляштары на тэрыторыі Беларусі (каля 1772 г.- 20-я гады XIX ст.) [ 98, ф. 1, воп. 3, спр. 422, арк. 43-52; 99, ф. 1781, воп. 28, спр. 26, арк. 307-311; 165; 170, t. 2; 189; 213; 238; 267; 302; 304].

| Манаскія ордэны | Кляштары | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Каля 1772 г. | | | Каля 1772 г. паводле дыяцэзіяльнага падзелу 1798 г. | | | | 20-я гады XIX ст. | | | |
| | Віленская дыяц. | Луцкая дыяц | Смаленская дыяц. | Магіл. арх. | Мінская дыяц. | Віленская дыяц. | Усяго | Магілёўская арх. | Мінская дыяц. | Віленская дыяц. | Усяго |
| Бенедыкцінкі | 3 | --- | --- | - | 2 | 1 | 3 | --- | 2 | 1 | 3 |
| Бернардзінкі | 3 | 1 | --- | --- | 1 | 3 | 4 | --- | 1 | 3 | 4 |
| Брыгіткі | 1 | 1 | --- | --- | --- | 2 | 2 | --- | --- | 2 | 2 |
| Цыстэркі | 1 | --- | --- | --- | 1 | --- | 1 | --- | 1 | --- | 1 |
| Дамініканкі | 1 | --- | --- | --- | --- | 1 | 1 | --- | --- | 1 | 1 |
| Марыявіткі | 14 | 1 | --- | 5 | 6 | 4 | 15 | 7 | 5 | 1 | 13 |
| Шарыткі | 1 | --- | 1 | 1 | --- | 1 | 2 | 1 | 1 | 1 | 3 |
| Усяго | 24 | 3 | 1 | 6 | 10 | 12 | 28 | 8 | 10 | 9 | 27 |

Яшчэ ў час арганізацыі манаскай супольнасці абіраецца спецыфіка яе духоўнага жыцця. Як правіла, яна вызначаецца заснавальнікамі манаскіх ордэнаў. Супольнасці пазнейшай фармацыі (клерыкаў рэгулярных) бралі за аснову адзін з існаваўшых статутаў (часцей выкарыстоўваўся больш мягкі Статут св. Аўгусціна). Статуты мелі агульны характар, яны дэкляравалі мэту манаскай супольнасці і асноўныя накірункі яе дасягнення. Штодзённае жыццё кляштараў, асабліва з XV ст., рэгламентавалася Канстытуцыяй (дадатковымі правіламі, якіх не было ў статутах) і мясцовай традыцыяй. Апошняя вызначалася воляй фундатара і дыяцэзіяльнага біскупа, грамадскімі ці

духоўнымі запатрабаваннямі вернікаў. Па сутнасці, становішча кожнага кляштара абумоўлівалася мноствам правілаў, якія ўлічвалі лакальную сітуацыю, умовы эканамічнага ці палітычнага плану. Найбольш жорстка захоўваліся патрабаванні да клаўзуры.

Звычайна манахаў запрашалі для выканання пэўнага віду дзейнасці (місіянерскай, пастырскай, асветніцкай, выхаваўчай, даглядам за хворымі і інш.). Пашырэнне манаскіх супольнасцяў залежала ад колькасці запрашэнняў і фундацый. Перавагу мелі кляштары, якія паспелі ў ліку першых асталявацца на беларуска-літоўскіх землях і якім спрыялі прадстаўнікі магнатэрыі. Так, найбольш цесныя сувязі з вышэйшай знаццю, асабліва той часткай, якая з пратэстантызму перайшла ў каталіцтва, мелі езуіты і дамініканцы. Іх кляштары належалі да ліку найбольш распаўсюджаных.

Манаскія ордэны, якія пранікалі на землі Вялікага Княства Літоўскага пазней, маглі мець цяжкасці, выкліканыя канкурэнцыяй з боку кляштараў іншых манаскіх ордэнаў ці неспрыяльнымі адносінамі дыяцэзіяльнай улады. Некаторым з іх, напрыклад капуцынам, нягледзячы на падтрымку асобных магнатаў, так і не ўдалося ўкараніцца на беларуска-літоўскіх землях. Іншыя, як піяры, замацаваліся з цяжкасцю, ў выніку моцнай канкурэнцыі з езуітамі. Прасцей было замацавацца тым манаскім супольнасцям, у якіх не было асаблівых канкурэнтаў (баніфраты, рохіты, місіянеры) і якія паўсталі на тэрыторыі Рэчы Паспалітай (марыяне, рохіты). Місіянеры першапачаткова былі запрошаны віленскім біскупам А. Катовічам у 1687 г. з мэтай выкладання ў дыяцэзіяльнай семінарыі; баніфраты і рохіты займаліся даглядам хворых. Найбольшай папулярнасцю ў шляхты карыстаўся жабрацкі ордэн бернардзінцаў. З усіх манаскіх супольнасцяў гэта быў найбольш “польскі” ордэн. Бернардзінцы актыўна ўводзілі ў рэлігійную практыку польскія спевы, у тым ліку калядкі, акрамя таго, яны распаўсюджвалі прывабныя сваёй дзейнасцю брацтвы, трэція ордэны для свецкіх, часцей наладжвалі працэсіі, прамаўлялі казанні і г.д. У той жа час кляштары чыста сузіральніцкага тыпу былі найменш папулярнымі ў XVIII ст.

Сярод манаскіх ордэнскіх груп уласна манахі маюць адну з найстаражытных традыцый. На Беларусі яны былі слаба прадстаўлены (бенедыкцінцы, цыстэрцыянцы, картузы – усяго 7 кляштараў; табл. 1.4).

Бенедыкцінскія кляштары далі пачатак манаскім супольнасцям заходнееўрапейскай арыентацыі. Жыццё ў бенедыкцінскім кляштары грунтавалася на прынцыпах сумеснага пражывання. Манаская абшчына будавалася па ўзору хрысціянскай сям'і на чале з айцом-аббатам. Абавязковым з'яўлялася выкананне зарокаў – цнатлівасці, адмовы ад уласнай маёмасці, паслушэнства і сталага пражывання ў кляштары. Асновай жыццядзейнасці манаскай супольснасці абвяшчалася фізічная праца манахаў. Бенедыкцінская духоўнасць арыентавалася на наследаванні Хрысту праз набажэнствы і малітвы, якія ўплывалі на ўвесь уклад жыцця: фізічную працу, навучанне, місіянерства і пастырства. У рэлігійнасці цэнтральнае месца займаў культ Еўхарыстыі і Божага Цела. Бенедыкцінцы засяроджвалі ўвагу на кульце Св. Крыжа, Сэрца Хрыста, Св. Тройцы і Св. Ганны.

У Беларусі кляштары ордэнскай групы манахаў мелі пераважна клерыцкі (святарскі) характар. У іх было мала братоў конверсаў (манахаў, якія прымалі простыя зарокі і не мелі святарскага сану), а фізічную працу выконвалі свецкія асобы. Толькі кляштар картэзіянцаў у Бярозе захоўваў суровы аскетычны лад жыцця. Манахі ў ім жылі ў асобных памяшканнях, рэдка сустракаліся і не павінны былі мець сувязей са свецкімі вернікамі. Праўда, з канца XVIII ст. картэзіянскія правілы не заўсёды выконваліся.

Эпоха Асветніцтва была вельмі неспрыяльнай для кляштараў уласна манаскай групы. Лічылася, што яны не маюць сацыяльнай вартасці, бо адцягваюць працаздольных членаў грамадства і жывуць самі па сабе ў адасабленні ад свету. Правячыя колы Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі падзялялі такі пункт гледжання. Рэгламент ад 3 лістапада 1798 г. патрабаваў ад кляштараў сузіральніцкага тыпу, каб яны пералічвалі грошы на ўтрыманне дабрачынных установ ці каб аказвалі рэлігійныя паслугі вернікам. Беларускія бенедыкцінцы і цыстэрыянцы мелі багаты вопыт пастырскай працы ў сваіх

парафіях, картэзіянцы ніколі яго не мелі і вымушаны былі ўтрымліваць парафіяльную школу.

Нешматлікімі таксама былі ў Беларусі кляштары групы канонікаў рэгулярных (канонікі рэгулярныя латэранскія, канонікі рэгулярныя ад пакуты, трынітарыі - усяго 11 кляштараў каля 1772 г. і 13 у 1830 г., табл.1.4). Кляштары кананіцкай групы мелі клерыцкі характар і карысталіся больш мягкім Статутам св.Аўгусціна. Пачатак іх дзейнасці паклалі аб’яднанні дыяцэзіяльных ксяндзоў, якія ў XI ст. для найлепшага выканання сваіх абавязкаў аб’ядноўваліся ў супольныя абшчыны. Яны атрымалі назву канонікаў рэгулярных у адрозненне ад канонікаў кафедральных (ксяндзоў пры кафедральных касцёлах). З цягам часу з’явіліся блізкія ім групы манаскіх аб’яднанняў, якія таксама асноўную мэту сваёй дзейнасці бачылі ў пастырстве. Вольны час манахі прысвячалі самаадукацыі, перапісванню кніг, чытанню, паглыбленню веры праз такія формы рэлігійнасці, як духоўныя разважанні, пасты, літургічныя гадзіны, індывідуальная і агульная малітвы. У рэлігійнай практыцы канонікаў рэгулярных асноўнае месца займала літургія, культ Божага Цела і Дзевы Марыі. Трынітарыі прысвячалі сваю дзейнасць Святой Тройцы (практычна ўсе касцёлы трынітарыяў асвячаліся ў гонар св. Тройцы).

Манаскай групай старой фармацыі былі жабрацкія ордэны бернардзінцаў, францысканцаў, дамініканцаў, кармелітаў босых, кармелітаў абутых, аўгусцінцаў (усяго 106 кляштараў каля 1772 г. і 110 у 1830 г., табл.1.4). Кляштары гэтай групы былі самыя прадстаўнічыя ў Беларусі. Яны ўзніклі ў XIII ст. у рэчышчы шырокага руху за абнаўленне Касцёла і ўкаранялі новы тып арганізацыі манаскага жыцця. Іх духоўнасць будавалася на прынцыпах евангельскага наследавання Хрысту: поўнай адмове ад маёмасці (не толькі ўласнай, але і калектыўнай), адмове ад сталага пражывання ў кляштары і на апостальскім (місіянерскім) запале. Жабрацтва ўспрымалася не столькі як адмова ад маёмасці, а як адмова ад ўсяго ўласнага (асабістай волі, самалюбства, і інш.). Прадстаўнікі гэтай часткі манаства прыстасоўваліся да штодзённага жыцця вернікаў. Яны не запіраліся ў кляштарах і не адмаўляліся ад сузіральніцкай

формы рэлігійнасці, а былі выразнікамі дзейсна-сузіральніцкага напрамку ў манастве.

Манаскія ордэны, якія прытрымліваліся Статута св. Францыска (францысканцы і бернардзінцы), арыентаваліся, галоўным чынам, на простага верніка. Яны вялі актыўную пастырскую працу і займаліся самаадукацыяй. Дамініканцы, якія кіраваліся Статутам св. Аўгусціна, асноўную ўвагу надавалі тэалагічнай падрыхтоўцы манахаў. Іх навучальныя ўстановы былі з найлепшых у сярэднявечнай Еўропе. Дамініканцы былі ідэалагічнымі абаронцамі Касцёла, змагаліся з ерасямі і кіравалі інквізіцыяй (з 1232 г.). У сваёй дзейнасці асноўны акцэнт рабілі на казанні (афіцыйная назва ордэна – “Ордэн братоў прапаведнікаў”). Яны імкнуліся выкарыстаць індывідуальны падыход у працы з рознымі сацыяльнымі групамі. Ідэальны тып манаха дамініканца бачыўся ў актыўнай і шырокаадукаванай асобе, якая ў сваёй пастырскай дзейнасці абапіралася на асабісты прыклад жыцця.

Манаскія ордэны кармелітаў абутых і кармелітаў босых мелі больш аскетычны спосаб жыцця. Нараджэнне кармеліцкай арганізацыі манахаў прыпадае на пачатак XII ст. Яны карысталіся Статутам ерусалімскага патрыярха св. Альберта, які спалучаў нормы жыцця пустэльнікаў эрэмітаў з калектыўным спосабам жыцця цэнабітаў (манахаў, якія жылі разам). У далейшым Статут быў мадэрнізаваны, а ў 1274 г. Ліёнскі сабор далучыў ордэн кармелітаў да ліку жабрацкіх. У XVI ст. вылучылася асобная галіна кармелітаў босых, якая імкнулася да больш аскетычнага жыцця і сузірання (праз пост, малітву, маўчанне). У той жа час, як усе іншыя жабрацкія ордэны, кармеліты займаліся пастырскай працай і евангелізацыяй, а таксама паглыблялі свае тэалагічныя веды.

Жабрацкім ордэнам належыць пяршынства ў культывацыі розных формаў марыйнага культа, а таксама асаблівая роля ў арганізацыі кальварый – ансамбля капліц, якія сімвалізавалі этапы крыжовай дарогі Хрыста. Лакальнае значэнне для вернікаў Беларусі мелі кальварыі дамініканцаў у Верках каля Вільні і кармелітаў босых у Старым Мядзелі.

Царскія ўлады не перашкаджалі дзейнасці жабрацкіх ордэнаў. Бернардзінцы лаяльна ставіліся да Рымска-Каталіцкай

духоўнай калегіі, не перашкаджалі дыяцэзіяльным біскупам у візітацыі сваіх кляштараў. Дэзарганізацыя ордэнскіх структур не прывяла ў бернардзінскіх кляштарах да парушэння спосабу іх жыцця (абсервы). У іх практыцы захаваўся стары парадак набажэнстваў, штодзённая медытацыя і ўдзел у хоры.

З усіх манаскіх суполак найбольшым дынамізмам развіцця вылучаліся дамініканцы. У іх была самая вялікая колькасць кляштараў і манахаў (у 1825 г. у межах усёй Расійскай імперыі 94 кляштары і 777 манахаў, на другім месцы знаходзіліся бернардзінцы – 44 кляштары і 531 манах). У 1810-х і 1820-х гадах у Літоўскай правінцыі дамініканцаў назіраўся пастаянны наплыў новых кандыдатаў. Ордэн знаходзіўся ў стане амалоджвання і абнаўлення. Штогод у Літоўскай правінцыі манаскія зарокі прымалі 20-30 чалавек. Сярэдні ўзрост манахаў складаў 34,8 гадоў. Манаскія студыі дамініканцаў мелі багатую традыцыю і захоўвалі свой патэнцыял. Гэта дало дамініканцам магчымасць пашырыць свой удзел у сферы публічнай адукацыі, заснаваць шэраг місій у глыбі Расійскай імперыі, у тым ліку прыняць ад езуітаў Пецярбургскую парафію і школу. Аляксандр І асабіста спрыяў дамініканцам і цікавіўся іх справамі. Прыёр Сакульскі меў свабодны ўваход да імператара. Пад час паездак праз беларускія землі Аляксандр І наведваў некаторыя дамініканскія кляштары, напрыклад, у Оршы і Віцебску. Дзякуючы царскаму затупніцтву дамініканцы выйгралі некалькі працэсаў у Пецярбургу, якія лічыліся безнадзейнымі. У Оршы дамініканцы адстаялі два сваіх касцёла (адзін з якіх належаў раней езуітам) у спрэчцы з праваслаўнымі. Пасля выгнання езуітаў дамініканцы занялі месца першага і найважнейшага ордэна ў Расійскай імперыі [194,s.406-411; 244,s.102-111; 237,s.687-698].

Група манаскіх ордэнаў клерыкаў рэгулярных была пазнейшай фармацыі XVI-XVII ст. У яе ўваходзілі езуіты, піяры, камуністы, місіянеры, марыяне, баніфраты, рохіты (усяго 55 кляштараў каля 1772 г. і 17 у 1830 г., табл.1.4). Па колькасці кляштараў гэта група займала другое месца пасля жабрацкіх ордэнаў. Найбольш прадстаўнічымі сярод іх былі езуіты (да 1820 г.). Спецыфіка гэтых ордэнаў вызначалася тым, што яны паўсталі ў эпоху рэформы Каталіцкага Касцёла і як ніякія іншыя

былі прасякнуты духам рашэнняў Трыдэнцкага сабора (1545-1563 гг.).

Ордэн езуітаў з’яўляўся галоўным апірышчам папства ў перыяд контррэфармацыі (4-ты зарок езуітаў - зарок паслухмянасці Апостальскай Сталіцы). Абарона і распаўсюджванне веры ў новых гістарычных умовах было асноўнай мэтай ордэна. У сваёй духоўнасці езуіты падкрэслівалі тыя асновы веравучэння, якія выклікалі нападкі з боку непрыхільнікаў Касцёла; яны імкнуліся наследаваць Хрысту і ў той жа час абаранялі Яго Божую сутнасць (супраць якой выступалі арыяне) і ўцелаўленне (якое адмаўлялі ў еўхарыстыі пратэстанты), рабілі акцэнт на аўтарытэце Маці Божай у справе збаўлення  (супраць чаго выступалі пратэстанты). Езуіты ўкаранялі дадатковыя набажэнствы: у гонар Маці Божай (спецыяльныя гадзіны, маёвыя) і Хрыста (саракагадзінныя), пашыралі культ Сэрца Хрыста, заснавалі першае ў свеце школьнае марыйнае брацтва (кангрэгацыю). У сваёй духоўнасці яны абапіраліся на хрыстацэнтрызм.

Паслятрыдэнцкі Касцёл асаблівую ўвагу звярнуў на паству (абавязковымі сталі яе ўлік, наведванні вернікаў па дамах), на якасць набажэнстваў, выхаванне і падрыхтоўку духавенства. Патрабавалася таксама, каб у кожнай парафіі існавала пачатковая школа, шпіталь, брацтва. Кляштары клерыцкай групы складалі твар абноўленага рэформай Касцёла. Езуіты, піяры і місіянеры стваралі навучальныя ўстановы і ўкаранялі новыя формы пастырства і рэлігійнасці. Камуністы і марыяне імкнуліся да стварэння ўзорных парафій. Камуністы і місіянеры разглядаліся як кангрэгацыі ксяндзоў, якія жывуць разам і маюць агульную маёмасць. Марыяне былі першым манаскім ордэнам, які меў марыйную назву і цалкам быў прысвечаны Маці Божай Беззаганнай. Мэтай ордэна было пашырэнне марыйнага культа, малітвы за душы ў чыстцы, за забітых на вайне і памерлых у выніку эпідэмій.

Манаскія ордэны баніфратаў (“добрых братоў”, ад лац.”bonus” – добры, “frater” – брат) і рохітаў (назва ўтворана ад імя св. Роха) мелі выключна харытатыўны характар. Іх асноўная задача была ў дапамозе хворым, бедным і бяздомным. Сярод іх практычна не было ксяндзоў. Рохіты акрамя трох звычайных

зарокаў складалі чацвёрты – дапамогі хворым пад час эпідэмій і пахавання памерлых, а баніфраты – дапамогі хворым нават пад пагрозай свайго жыцця. Баніфраты стваралі спецыялізаваныя шпіталі, якія адрозніваліся ад парафіяльных. Калі апошнія былі звычайным прытулкам для нямоглых, дык у апошніх аказвалася медыцынская дапамога і адпаведны нагляд.

Манахі клерыцкай групы не імкнуліся адасабляцца ад свету. Іх кляштары (акрамя будынкаў для навіцыяў (паслушнікаў) і састарэлых манахаў) хутчэй нагадвалі дамы, дзе частка памяшканняў (ці асобны будынак) выкарыстоўвалася для навучальных установ, прытулкаў, шпіталяў, аптэк, інтэрнатаў для вучняў (канвіктаў ці бурсаў).

Адносіны царскіх улад да ордэнаў клерыцкай групы былі лаяльнымі. Ордэн езуітаў знаходзіўся на асаблівым становішчы ў імперыі да 1815 г. Фактычна ён не падпарадкоўваўся ні дыяцэзіяльным біскупам, ні мітрапаліту і без перашкод займаўся той жа дзейнасцю, што і ў XVIII ст. З усіх манаскіх ордэнаў толькі піяры (лідскія і шчучынскія) варожа сустрэлі расійскую адміністрацыю, за што былі ўзяты ўладамі пад кантроль. Аднак у першай трэці XIX ст. адкрытых канфліктаў піяраў з царскімі ўладамі не назіралася. Выпадак з ксяндзамі полацкага вучылішча Брадовічам і Львовічам, якія былі адхілены ад выкладчыцкай дзейнасці за ўдзел у філарэцкім руху, можна разглядаць толькі як пэўную тэндэнцыю ў піярскім асяроддзі. Ніякіх рэпрэсій у дачыненні да піярскага ордэна з боку расійскіх улад не было. Безперашкодна кіравалі духоўнымі семінарыямі місіянеры, а баніфраты і рохіты (апошнія да 1821 г.) займаліся дабрачыннай дзейнасцю. Нешматлікія камуністы і марыяне працягвалі весці пастырскую працу з вернікамі.

Усе манаскія ордэны ў Расійскай імперыі ў 1772-1820-х гг. мелі магчымасць рэалізаваць на практыцы асноўныя палажэнні сваіх правілаў, праводзіць у жыццё тыя формы духоўнасці і культу, прапагандыстамі якіх яны з’яўляліся.

Напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай на беларускіх землях найбольш налічвалася кляштараў дамініканцаў (44), езуітаў (36), бернардзінцаў (22), францысканцаў (21), кармелітаў абутых (13). Пераважалі жабрацкія ордэны, кляштары якіх складалі 58,9% ад агульнай колькасці кляштараў (106). Найменш

папулярнымі былі кляштары сузіральніцкага тыпу (уласна манахаў), якіх налічвалася 7 ці 3,9%. Сярод жаночых кляштараў найбольш налічвалася дамоў марыявітак (15 ці 53,6%, табл. 1.4, 1.5).

Як было падкрэслена, многія кляштары мелі пры сваіх касцёлах парафіі (табл. 1.1). У Віленскай дыяцэзіі каля 1772 г. найбольш парафій было ў дамініканцаў – 16 (39,0% ад усіх дамініканскіх кляштараў ў дыяцэзіі і 6,8% ад існуючых парафій), езуітаў – 10 (30,3% ад езуіцкіх кляштараў і 4,3% ад усіх парафій), францысканцаў – 9 (47,4% ад францысканскіх кляштараў і 3,8% ад усіх парафій), кармелітаў абутых – 6 (адпаведна 50% і 2,6%), бернардзінцаў – 4 (20,0% і 1,7%, табл. 1.6). Касцёлы іншых манаскіх ордэнаў мелі па 1-2 парафіі. Баніфраты, марыяне, картэзіянцы, аўгусцінцы і рохіты парафій не мелі. Прыкляштарныя парафіі Віленскай дыяцэзіі складалі 36,9% ад існуючых кляштараў у дыяцэзіі і 32,2% ад колькасці ўсіх кляштараў на тэрыторыі Беларусі. У Луцкай дыяцэзіі па адной парафіі мелі цыстэрцыянцы, францысканцы і камуністы. На тэрыторыі Кіеўскай дыяцэзіі адной парафіяй апекаваліся езуіты.

У 1772 г. на той частцы тэрыторыі Беларусі, якая адышла ў склад Расійскай імперыі, функцыянавалі 54 кляштары. У 1820-х гадах у межах сучаснай Беларусі налічвалася 147 кляштараў. Гэта было на 32 адзінкі менш, чым перад падзеламі Рэчы Паспалітай – 179 (табл. 1.4). Такая розніца тлумачыцца, галоўным чынам, касацыяй ордэна езуітаў. З 36 езуіцкіх асяродкаў 25 былі перададзены дыяцэзіяльнаму духавенству ў 1773 г., астатнія 11 у Магілёўскай архідыяцэзіі падлеглі касацыі ў 1820 г. і ў большасці былі перададзены дыяцэзіяльнаму духавенству. Толькі некаторыя з іх аказаліся пад апекай кляштараў іншых манаскіх ордэнаў – піяраў у Полацку, бернардзінцаў у Расне і Лазовіцы, дамініканцаў у Оршы. Цікава, што апошнія ўжо мелі ў Оршы свой кляштар і апекаваліся ў выніку 2 касцёламі (у будынку езуіцкай калегіі некаторы час пад кіраўніцтвам дамініканцаў знаходзілася павятовая школа).

Табліца 1.6 – Рымска-Каталіцкія парафіі пры касцёлах манаскіх ордэнаў (каля 1772 г. - 20-я гады XIX ст.) [98, ф. 1, воп. 3, спр.422, арк. 43-52; 99, ф. 1781, воп. 28,

спр.26, арк. 307-311; 170, t.2; 194, s. 384-449; 238, s. 21-442; 267, s. 306-333; 312, mapa; 326].

| Манаскія ордэны | Кляштары | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Каля 1772 г. | | | Каля 1772 г. паводле дыяцэзіяльнага падзелу 1798 г. | | | | 20-я гады XIX ст. | | | |
| | Віл. дыяц. | Луцк. дыяц. | Кіеўск. дыяц. | Магіл. арх. | Мінская дыяц. | Віл. дыяц. | Усяго | Магіл. арх. | Мінская дыяц. | Віл. дыяц. | Усяго |
| Бенедыкцінцы | 1 | - | - | - | 1 | - | 1 | - | 1 | - | 1 |
| Трынітарыі | 2 | - | - | - | 2 | - | 2 | 1 | 2 | - | 3 |
| Цыстэрцыянцы | - | 1 | - | - | - | 1 | 1 | - | 1 | 1 | 2 |
| Францысканцы | 9 | 1 | - | 2 | 4 | 4 | 10 | 2 | 4 | 5 | 11 |
| Бернардзінцы | 4 | - | - | 1 | 2 | 1 | 4 | 4 | 4 | 2 | 10 |
| Піяры | 1 | - | - | - | - | 1 | 1 | 1 | - | 1 | 2 |
| Езуіты | 10 | - | 1 | 2 | 5 | 4 | 11 | - | - | - | - |
| Кармеліты босыя | 2 | - | - | - | 1 | 1 | 2 | - | 1 | 1 | 2 |
| Кармеліты абутыя | 6 | - | - | 5 | - | 1 | 6 | 6 | - | 2 | 8 |
| Місіянеры | 2 | - | - | - | 1 | 1 | 2 | 2 | 2 | 1 | 5 |
| Баніфраты | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| Камуністы | 1 | 1 | - | - | - | 2 | 2 | - | - | - | - |
| Дамініканцы | 16 | - | - | 6 | 6 | 4 | 16 | 14 | 7 | 5 | 26 |
| Канонікі рэгуляр-ныя ад пакуты | 2 | - | - | - | 1 | 1 | 2 | - | - | 1 | 1 |
| Канонікі рэгуляр-ныя латэранскія | 2 | - | - | 1 | - | 1 | 2 | 2 | - | 1 | 3 |
| Марыяне | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| Картэзіянцы | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| Аўгусцінцы | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| Рохіты | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - |
| Усяго | 58 | 3 | 1 | 17 | 23 | 22 | 62 | 32* | 22 | 20 | 74* |

* Без уліку 7 парафій, якімі апекаваліся езуіты.

У той жа час колькасць некаторых кляштараў да 1820-х гадоў павялічылася (бернардзінцаў - на 4 адзінкі, канонікаў рэгулярных латэранскіх, кармелітаў абутых - на 2, трынітарыяў, баніфратаў - на 1), іншых - нязначна зменшылася. У цэлым, калі не ўлічваць езуіцкіх кляштараў, агульная колькасць кляштарных асяродкаў практычна засталася аднолькавай (143 у 1772 г. і 147 у 20-х гадах XIX ст.). Колькасць жаночых кляштараў істотна не змянілася – 27 у параўнанні з 28 перад падзелам Рэчы Паспалітай (табл. 1.5).

Па дыяцэзіях налічвалася кляштараў: 48 – у Магілёўскай архідыяцэзіі, 45 – у Мінскай дыяцэзіі, 54 – у Віленскай дыяцэзіі

(усяго 147). Каля 1772 г. на гэтай тэрыторыі адпаведна налічвалася кляштараў – 55 (у межах Беларускай дыяцэзіі), 59 і 65. Такім чынам, у першай чвэрці XIX ст. нязначны прырост кляштараў адбыўся толькі ў Магілёўскай архідыяцэзіі, дзе налічвалася 59 кляштараў у 1819 г. і 55 каля 1772 г. (разам з езуіцкімі асяродкамі) і адпаведна 48 і 43 (без уліку езуіцкіх суполак).

У першай чвэрці XIX ст. былі прадстаўлены кляштары тых жа ордэнскіх груп, што і каля 1772 г. Найбольш шматлікімі былі кляштары дамініканцаў (42), бернардзінцаў (26), францысканцаў (21), кармелітаў абутых (15), езуітаў (11 да 1820 г.). Як і раней, значна пераважалі кляштары жабрацкай групы, якія складалі 74,8% ад агульнай колькасці кляштараў (110 асяродкаў). Тое ж тычыцца жаночых кляштараў - тут пераважалі марыявіткі, астатнія былі прадстаўлены 1-4 кляштарамі (гл. табл. 1.4, 1.5).

Многія кляштары апекаваліся парафіямі. У параўнанні з 1772 г. колькасць іх павялічылася (ад 62 да 74 у 1820-х гадах, з улікам езуіцкіх парафій Магілёўскай архідыяцэзіі - да 81) (табл. 1.6). Найбольшую колькасць парафій як і раней мелі дамініканцы (26), францысканцы (11), бернардзінцы (10), кармеліты абутыя (8), езуіты (7 да 1820 г.). Пераважная іх частка знаходзілася ў Магілёўскай архідыяцэзіі (32). У дамініканцаў было 14 парафій (87,5% ад усіх дамініканскіх кляштараў архідыяцэзіі, 21,9% ад усіх парафій архідыяцэзіі і 4,4% ад усіх парафій на беларускіх землях), у кармелітаў абутых – 6 (адпаведна 75,0% , 9,4%  і 1,9%), у бернардзінцаў – 4 (адпаведна 40,0%, 6,3,%, 1,3%). У параўнанні з 1772 г. дамініканцы і кармеліты абутыя захавалі дамінуючае становішча, бернардзінцы павялічылі колькасць парафій з 1 да 4.

На тэрыторыі Мінскай дыяцэзіі налічвалася 22 парафіі, якімі апекаваліся кляштары. Найбольш парафій мелі дамініканцы (7), бернардзінцы і францысканцы (па 4), кляштары іншых манаскіх ордэнаў апекаваліся 1-2 парафіямі. У Віленскай дыяцэзіі найбольшай колькасцю парафій у 1820-х гадах апекаваліся дамініканцы і францысканцы (па 5), у адміністрацыі кляштараў іншых манаскіх ордэнаў знаходзілася ад 1 да 2 парафій. Усяго ў Віленскай дыяцэзіі налічвалася 20 такіх

парафій. Падобнае становішча назіралася на тэрыторыі Мінскай і Віленскай дыяцэзій каля 1772 г. (табл. 1.6).

Апрацаваныя статыстычныя матэрыялы паказваюць, што ў параўнанні з агульнай лічбай парафій у Мінскай і Віленскай дыяцэзіях, прыкляштарныя парафіі ніводнага манаскага ордэна не дамінавалі. Некалькі іншая карціна складваецца, калі ўлічваць усе прыкляштарныя парафіі разам, без падзелу па асобных манаскіх ордэнах. Такія парафіі Магілёўскай архідыяцэзіі (32) складалі 66,7% ад усіх кляштараў архідыяцэзіі, 43,2% ад прыкляштарных парафій беларускіх зямель і 21,8% ад усіх кляштараў беларускіх зямель (каля 1772 г. адпаведна 31,0%, 27,4% і 9,5%). У Мінскай дыяцэзіі 22 прыкляштарныя парафіі складалі 48,9% ад усіх кляштараў дыяцэзіі, 29,7% ад прыкляштарных парафій беларускіх зямель і 15,0% ад усіх кляштараў беларускіх зямель (каля 1772 г. на гэтай тэрыторыі працэнтныя суадносіны адпаведна паказвалі 39%, 37,1% і 12,8%). У Віленскай дыяцэзіі 20 прыкляштарных парафій складалі 37,0% ад усіх кляштараў дыяцэзіі, 27,0% ад прыкляштарных парафій беларускіх зямель і 13,6% ад усіх кляштараў беларускіх зямель (каля 1772 г. працэнтныя паказчыкі адпаведна паказвалі 33,8%, 35,5% і 12,3). Усе 74 прыкляштарныя парафіі ў 1820-х гадах складалі 50,3% ад агульнай колькасці кляштараў на тэрыторыі Беларусі (каля 1772 г. 62 прыкляштарныя парафіі складалі 34,6% ад агульнай колькасці кляштараў).

Павелічэнне колькасці прыкляштарных парафій асабліва прыкметна на фоне іх працэнтных суадносін з іншымі парафіямі і кляштарамі. Прырост прыкляштарных парафій адбываўся не за лік заснавання новых манаскіх суполак, а з прычыны заснавання парафій пры існуючых касцёлах. У 1820-х гадах больш паловы кляштараў (51%) апекавалася парафіямі ў Магілёўскай архідыяцэзіі. У Віленскай і Мінскай дыяцэзіях працэнт прыкляштарных парафій зменшыўся ў адносінах да ўсіх існуючых парафій, аднак у адносінах да агульнай лічбы кляштараў ён павялічыўся.

Такім чынам, падзелы Рэчы Паспалітай у цэлым не паўплывалі на колькасць кляштараў. Некаторыя з іх маглі прыпыняць сваё існаванне натуральным чынам, з прычыны

выгасання фундушу, з-за малалікасці манахаў ці рашэння касцёльных улад. Гэта тычыцца, напрыклад, кляштараў кармелітаў абутых у Мінску, канонікаў рэгулярных ад пакуты ў Міёрах, дамініканцаў у Гошчаве і Песках і інш. У той жа час фундаваліся новыя кляштары – трынітарыяў у Бабінавічах, кармелітаў абутых у Чэрыкаве, місіянераў у Ігумене, дамініканцаў у Крычаве і інш. У Расійскай імперыі паважаліся правы фундатараў (кцітараў) у справе прызначэння на касцёльныя бенефіцыі, да іх думкі прыслухоўваліся ў кляштарах, фундатарамі якіх яны былі.

Арганізацыйная структура манаскіх ордэнаў была разнастайнай. Пэўныя кляштары аб’ядноўваліся ў правінцыі ордэна на чале з правінцыялам і правінцыяльнай капітулай. Правінцыялы адказвалі перад вышэйшым кіраўніцтвам (генеральнай капітулай, генералам), якое непасрэдна падпарадкоўвалася папе. Ордэнскія правінцыі не супадалі з межамі дыяцэзій і маглі не адпавядаць дзяржаўным межам. Калі ў дзяржаве было шмат кляштараў пэўнай ордэнскай групы, тады яны аб’ядноўваліся ў некалькі правінцый, а калі іх было недастаткова, тады яны ўваходзілі ў склад міждзяржаўных правінцый. Правінцыялы ордэнаў былі выведзены з-пад юрысдыкцыі мясцовых біскупаў. Выключэнне складалі асобныя выпадкі, а таксама лакальныя ордэны, створаныя дыяцэзіяльнай уладай.

Да падзелаў Рэчы Паспалітай толькі кляштар картэзіянцаў у Бярозе ўваходзіў у склад Верхнерэйнскай правінцыі ў Германіі, усе астатнія кляштары ўтваралі асобныя правінцыі ці кангрэгацыі (апошнія ў бенедыцкінцаў, канонікаў рэгулярных латэранскіх, марыянаў). Кангрэгацыі адрозніваліся ад правінцый меншай ступенню цэнтралізацыі. Кляштары, якія ўваходзілі ў яе склад, мелі аўтаномію, а выбранае імі кіраўніцтва валодала больш абмежаванай, чым звычайна, уладай.

Тэрыторыя сучаснай Беларусі ўваходзіла ў склад 4-х езуіцкіх правінцый (Літоўскай, Малапольскай, Вялікапольскай, Мазавецкай), 3-х дамініканскіх правінцый (Літоўскай Анёла Ахоўніка, Польскай, Рускай св. Яцка), 3-х правінцый кармелітаў абутых (Літоўскай Усіх Святых, Літоўска-Рускай св. Юрыя, Малапольскай Наведвання Найсвяцейшай Дзевы Марыі), 2-х

правінцый бернардзінцаў (Літоўскай св. Казіміра, Малапольскай Найсвяцейшай Дзевы Марыі Беззаганнай). Кляштары іншых ордэнаў Беларусі аб'ядноўваліся ў адной правінцыі ці кангрэгацыі. Кляштары аўгусцінцаў баніфратаў, цыстэрцыянцаў, місіянераў, трынітарыяў уваходзілі ў склад Польскай правінцыі. Кляштары канонікаў рэгулярных ад пакуты, кармелітаў босых, піяраў, францысканцаў аб'ядноўваліся ў правінцыю, якая мела назву Літоўскай. Акрамя таго, францысканская правінцыя падзялялася на акругі, якія называліся кустодыямі. Францысканскія кляштары на тэрыторыі Беларусі ўваходзілі ў склад 4-х кустодый: Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Полацкай. Кляштары марыянаў і бенедыктынцаў уваходзілі ў склад Польскай кангрэгацыі, а кляштары канонікаў рэгулярных латэранскіх – у склад Кракаўскай кангрэгацыі.

Асаблівую арганізацыю меў ордэн камуністаў, які не быў аб'яднаны ва ўласныя тэрытарыяльныя адзінкі, а дзейнічаў у межах дыяцэзій. Узначальваў ордэн пажыццёвы генерал, якога выбірала генеральная капітула, але ў кожным біскупстве галоўны прадстаўнік кляштараў зацвярджаўся тэрмінам на 8 год мясцовым біскупам. Статуты, якія рэгламентавалі дзейнасць камуністаў, прадугледжвалі знаходжанне іх пад уладай і паслушэнствам дыяцэзіяльнай уладзе. Апошняй падпарадкоўваліся таксама рохіты.

Жаночыя кляштары не мелі сваіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак і падлягалі падпарадкаванню ці адпаведным мужчынскім ордэнам ці дыяцэзіяльнай уладзе. Так, бернардзінкі, цыстэркі, дамініканкі і шарыткі падпарадкоўваліся правінцыяльнаму кіраўніцтву мужчынскіх ордэнаў, а бенедыкцінкі, брыгіткі і марыявіткі мясцовым біскупам.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай арганізацыйная структура манаскіх ордэнаў была разбурана. Правінцыяльнаму кіраўніцтву ордэнаў было забаронена падтрымліваць сувязі з генеральнымі капітуламі і генераламі за мяжой. Самастойнасць ад арцыбіскупа захоўвалі езуіты. Пункты ўказа ад 28 красавіка 1798 г. і рэгламента ад 3 лістапада 1798 г., якія ўзалежнілі правінцыялаў і настаяцеляў кляштараў ад біскупаў, а таксама распараджэнне Сената ад 3 лістапада 1798 г., якое забараняла скліканні правінцыяльных капітул, фактычна былі адменены

дэкрэтам Паўла I ад 11 лістапада 1800 г. і палажэннем ад 13 лістапада 1801 г. Паводле гэтых дакументаў кляштарам было вернута самакіраванне, права самім выбіраць настаяцеляў і правінцыялаў. За біскупамі было пакінута права нагляду і візітацыі кляштараў.

У канцы XVIII - пачатку XIX ст. адбылася рэарганізацыя ордэнскіх правінцый у Расійскай імперыі. Кляштары бенедыкцінцаў і цыстэрцыянцаў, колькасць якіх была мінімальнай, у 1803 г. аб’ядналіся ў адну кангрэгацыю. У 1819 г. да іх далучыўся кляштар картэзіянцаў у Бярозе (да 1831 г.), а пазней кляштары камедулаў (на тэрыторыі сучаснай Беларусі не былі прадстаўлены). Арганізацыя бенедыкцінска-цыстэрцыянска-камедула-картузскай кангрэгацыі, якая складалася з кляштараў розных манаскіх фармацый, сведчыла аб арганізацыйным крызісе ордэнаў. Гэта становішча было выклікана забаронай сувязей з вышэйшым кіраўніцтвам за мяжой і спробай скансалідавацца на мясцовым узроўні. Некаторыя правінцыі былі аб’яднаны ў рамках свайго ордэна. Гэта адбылося ў бернардзінцаў (Літоўска-Руская, 1816 гг.), францысканцаў (Літоўская ці Літоўска-Руская, 1802-1805 гг., 1819-1832 гг.), кармелітаў абутых (Расійская, 1816 г.).

Правінцыі, ядро якіх складалі кляштары, на беларуска-літоўска-украінскіх землях змянілі свае назвы - у аўгусцінцаў (Расійская, 1795-1842 гг.), місіянераў (Літоўская ці Літоўска-Руская, 1794-1842 гг.), баніфратаў (Літоўская, каля 1795-1843 гг.), канонікаў рэгулярных латэранскіх (Літоўска-Расійская, 1796-1832 гг.), марыянаў (Расійская, пасля 1830 г.). Захавалі свае папярэднія назвы правінцыі дамініканцаў (да 1839 г., у 1839 г. правінцыі Літоўская і Руская аб’яднаціся ў адну), кармелітаў босых (да 1844 г.), канонікаў рэгулярных ад пакуты (Літоўская, пасля 1830 г.), піяраў (да 1843 г.), трынітарыяў (Польская, пасля 1830 г.).

Манаскія ордэны рохітаў і камуністаў дзейнічалі ў межах дыяцэзій. У 1821 г. па рашэнню дыяцэзіяльных і свецкіх улад ордэн рохітаў быў прызнаны непатрэбным і скасаваны, а яго фундушы і кляштары далучаны да ордэна баніфратаў. Сталовіцкая камандорыя духоўна-рыцарскага ордэна мальтыйцаў праіснавала да 1817 г.

Пасля касацыі ордэна езуітаў правінцыял Мазавецкай правінцыі перадаў свае паўнамоцтвы рэктару полацкай калегіі С.Чарневічу і прызначыў яго віцэ-правінцыялам. Афіцыйна езуіты аднавілі навіцыят і правінцыю ў 1780 г. Да 1801 г. Беларуская правінцыя не прызнавалася Рымам. Узначальвалі беларускіх езуітаў генеральныя вікарыі: С. Чарневіч (1782-1785 гг.), Г. Лянкевіч (1785-1798 гг.), Ф. Кару (1799-1801 гг.). У 1801 г. папа Пій VII (1800-1823 гг.) дазволіў дзейнасць езуітаў у Расійскай імперыі. Генеральныя вікарыі пачалі ўжываць тытул генерала, але толькі ў межах царскай Расіі, каб падкрэсліць важнасць свайго становішча. Генераламі ордэна ў Расіі былі: Ф. Кару (1801-1802 гг.), Г. Грубер (1802-1805 гг.), Т. Бжазоўскі (1805-1820 гг.). У 1814 г. папа аднавіў ордэн ва ўсім свеце. Непрацяглы час галоўны орган кіравання одэнам (сядзіба генерала і яго курыя) знаходзіўся ў Расійскай імперыі. У 1815 г. Аляксандр I выслаў езуітаў з Пецярбурга і Масквы, а ў 1820 г. – за межы дзяржавы.

Асноўнымі цэнтрамі езуітаў у Расіі былі Полацк і Пецярбург. У Полацку размяшчалася рэзідэнцыя віцэ-правінцыялаў і правінцыялаў, генеральных вікарыяў і генералаў (у 1782-1805 гг., 1815-1820 гг.). Тут праходзілі генеральныя кангрэгацыі ордэна: у 1782 г. (XX ці I Полацкая), 1785 г. (XXI ці II Полацкая), 1799 г. (XXII ці III Полацкая), 1802 г. (XXIII ці IV Полацкая), 1805 г. (XXIV ці V Полацкая). У 1805-1815 гг. месцазнаходжаннем кіраўніка езуітаў з’яўляўся Пецярбург.

Усе манаскія ордэны, якія мелі правінцыяльную арганізацыю, правялі рэарганізацыю сваіх правінцый. У правінцыях збіраліся капітулы, на якіх выбіраліся правінцыялы і вырашаліся арганізацыйныя пытанні. Ва ўмовах, калі былі забаронены афіцыйныя сувязі з замежным кіраўніцтвам, значэнне правінцыяльнай улады манаскіх ордэнау павінна было ўзрасці.

Такім чынам, падзелы Рэчы Паспалітай не прывялі да касацыі манаскіх ордэнаў на тэрыторыі Беларусі. Тут былі прадстаўлены ўсе групы манаскіх фармацый. Кожны з манаскіх ордэнаў меў пэўную спецыфіку сваёй духоўнасці і спосаб дзейнасці. Агульная колькасць кляштараў у цэлым была стабільнай да 1820 г., калі былі выдалены за мяжу езуіты.

Традыцыйна пераважалі кляштары жабрацкіх ордэнаў. Многія кляштары апекаваліся парафіямі. Найбольш прыкляштарных парафій знаходзілася на беларусіх землях Магілёўскай архідыяцэзіі (палова ад усіх існуючых там). У параўнанні з 1772 г. колькасць іх на гэтай тэрыторыі павялічылася на 7,5%. Актыўны ўдзел кляштараў у арганізацыі парафіяльнага жыцця мае гістарычную традыцыю, якая была звязана з місіянерскай дзейнасцю ордэнскага духавенства на беларускіх землях.

# ГЛАВА 3. НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ КАТАЛІЦКАГА КАСЦЁЛА

## 3.1. Фармацыйныя дамы (навіцыяты, студыі) і духоўныя семінарыі

Умовай нармальнага функцыянавання кляштараў з'яўляюцца навіцыяты і студыі. Іх дзейнасць залежыць ад матэрыяльнага забеспячэння, кадраў і ордэнскіх правіл. Мае значэнне і сацыяльнае запатрабаванне. З канца 1820-х гадоў прыём у кляштар залежаў ад рашэння свецкіх улад.

Прыём у кляштар не магчымы без праходжання ступені навіцыяту. У каталіцкім кляштары навіцыят – гэта асобная ўнутраная структура, а таксама дом (ці памяшканні), у каторым пад наглядам духоўнага кіраўніка маладыя манахі рыхтуюцца прыняць зарокі. Навіцый - член манаскай суполкі, які можа без перашкод пакінуць кляштар.

Мэта навіцыяту – выпрабаванне кандыдатаў і іх падрыхтоўка ў адпаведнасці з патрабаваннямі, асобнымі для клерыкаў (будучых ксяндзоў) і конвірсаў (братоў для абслугі кляштарнай гаспадаркі). Навіцыяў знаёмілі з ордэнскімі правіламі і кляштарным распарадкам, у выніку наебходнасці ім выкладаліся прадметы са школьнага курсу. У езуітаў і піяраў навіцыят працягваўся два гады, у іншых ордэнах звычайна год. Пасля прыняцця зарокаў клерыкі навучаліся ў кляштарных студыях (калегіях, семінарыях), дзе яны праходзілі ніжэйшы курс, які складаўся з гуманітарных навук і філасофіі, і вышэйшы – тэалагічны. Дамы навіцыятаў і студыі (так званыя фармацыйныя дамы), размяшчаліся, як правіла, у розных кляштарах. У рэгулярных манахаў навіцыяты мелі ўсе кляштары.

Пытанне функцыянавання на беларускіх землях фармацыйных дамоў не даследавана. Іх вывучэнне ўскладняецца практыкай існавання як сталых, так і часовых фармацыйных дамоў і адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэарганізацыяй ордэнскіх правінцый у канцы XVIII - пачатку XIX ст.

Найбуйнейшым цэнтрам манаскага жыцця ў Вялікім княстве Літоўскім была Вільня. У другой палове XVIII ст. –

першай чвэрці XIX ст. у гэтым горадзе налічвалася 10 навіцыятаў (аўгусцінцаў, бернардзінцаў, баніфратаў, кармелітаў абутых, кармелітаў босых, місіянераў, францысканцаў, канонікаў рэгулярных латэранскіх, трынітарыяў, дамініканцаў) і не менш 7 студый (дамініканцаў, францысканцаў, бернардзінцаў, кармелітаў абутых, кармелітаў босых, місіянераў, аўгусцінцаў). На тэрыторыі Беларусі каля 1772 г. найбольш студый і навіцыятаў было ў Гродне (5), Нясвіжы (5), Пінску (4), Мінску (4). Да 1825 г. колькасць фармацыйных дамоў зменшылася ў Вільні да 10, у Мінску да 1, у Нясвіжы і Пінску да 2-3 і толькі ў Гродне працягвала захоўвацца 5 фармацыйных дамоў [98, ф.1, воп.3, спр.422, арк.44-46; 170, t.2, s.15-175; 194, s.149-187; 238, s.442; 317, s.213-214; 316, s.120-126].

У канцы XVIII-першай трэці XIX ст. на тэрыторыі Беларусі навіцыяты мелі францысканцы (Івянец і Пінск у другой палове XVIII-першай трэці XIX ст.), бернардзінцы (Друя ў 1808-1810 гг., Віцебск у 1802-1827 гг.), дамініканцы (Гродна, Забелы, Пінск і Мінск у першай трэці XIX ст.), кармеліты абутыя (Слабодка ў 1810 г., Бялынічы ў першай трэці XIX ст.), кармеліты босыя (Гродна ў XVIII ст. і да 1845 г., Глыбокае ў 1733-1862 гг.), марыяне (Расна ў 1820-я гады), піяры (Полацк у 1820-я гады), езуіты (Полацк у 1780-1803 гг.), картэзіянцы (Бяроза ў XVIII ст. і да канца першай трэці XIX ст.), цыстэрцыянцы (Вістычы, Кімбараўка (?) у XVIII-першай трэці XIX ст.), бенедыкцінцы (Гарадзішча, Нясвіж у XVIII-першай трэці XIX ст.) [170,t.2,s.15-175; 181,s.542-543; 194, s.384-449].

Тэрмін “студыя” шырока ўжываўся ў сярэднявеччы, але дакладна ён акрэслены не быў. Звычайна пад студыяй разумелася навучальная ўстанова для манахаў, у якой у адпаведнасці са схаластычнай традыцыяй выкладаліся дзве вышэйшыя галіны ведаў – філасофія і тэалогія. Першапачаткова студыя – гэта заснаваная па ўзору парыжскага універсітэта школа для манахаў дамініканцаў [185, s.85].

Ураўноўванне адукацыйнага ўзроўню манахаў адбывалася праз навучанне рыторыкі і пачаткаў логікі (сярэдняга курса навучання свецкай школы). Гэтыя прадметы маглі выкладацца ў навіцыяце ці пасля прыняцця манаскіх зарокаў у студыях. Апошнія адрозніваліся рознай сістэмай

навучальнага працэсу, маглі неаднаразова ліквідавацца ці аднаўляцца ў залежнасці ад патрэб і магчымасцяў ордэна. Прадметы вар'іраваліся: у адных кляштарах выкладалася толькі філасофія, у іншых – тэалогія. Існавалі студыі, у якіх тэалогія маральная спалучалася з філасофіяй, ці выкладалася толькі тэалогія дагматычная, альбо маральная і інш. Курс рыторыкі ў адных ордэнах (у піяраў, марыянаў), выкладаўся ў навіцыяце, у іншых уваходзіў у праграму студый. У складзе курса вывучаліся такія прадметы, як лацінская мова, фізіка, арыфметыка, геаграфія, гісторыя, логіка, астраномія, літургічныя спевы, пачаткі гамілетыкі.

Найбольш развітая сісітэма студый была ў дамініканцаў. Для падрыхтоўкі кадраў яны выкарыстоўвалі некалькі відаў студый: канвентуальныя (пры кожным кляштары з выкладаннем граматыкі і філасофіі; у XIX ст. служылі галоўным чынам для замацавання ведаў за школьны курс), партыкулярныя (аб'ядноўвалі некалькі кляштараў, выкладаліся філасофія і тэалогія на больш высокім узроўні), матэрыяльныя (універсітэцкага тыпу з тэрмінам навучання 6-7 гадоў), фармальныя (універсітэцкага ўзроўню без права надавання навуковых ступеняў, праграма не адрознівалася ад выкладання ў генеральнай студыі), генеральныя (галоўная навучальная ўстанова для ўсёй ордэнскай правінцыі з правам надавання навуковай ступені). У спрошчаным выглядзе аналагічную сістэму студый маглі выкарыстоўваць іншыя манаскія ордэны (францысканцы, бернардзінцы). У XVIII ст. практычна ўсе манаскія арганізацыі імкнуліся заснаваць свае навучальныя ўстановы. Гэта быў час росквіту манаскіх студый. Манахі з навуковымі ступенямі лектара, бакалаўра, магістра, доктара, мелі прывілеі ў манаскім жыцці. Яны выкладалі ў студыях, рыхтаваліся да лекцый, удзельнічалі ў дыспутах, збіраліся на капітулах, спавядалі, прамаўлялі казанні [184, s.44-63; 317].

Паводле розных крыніц у 1772-1830 гг. у Беларусі існавала не менш за 31 студыю. Свае студыі мелі дамініканцы (Гродна, генеральная студыя ў 1752-1830 гг.; Дзярэчын, студыя філасофіі ў 1816-1829 гг.; Дунілавічы, студыя тэалогіі маральнай у першай трэці XIX ст.; Забелы, фармальная студыя ў 1758-1827 гг.; Шклоў, студыя філасофіі і тэалогіі да 1819 г., студыя

філасофіі з 1819 г.), францысканцы (Драгічын, першая трэць XIX ст.; Гальшаны, студыя рыторыкі, гімназія ў канцы XVIII ст.; Івянец, студыя тэалогіі, канец XVIII ст.; Пінск, студыя філасофіі ў 1825-1830гг.; Удзяла, студыя філасофіі ў 1790-1830 гг.), бернардзінцы (Слонім, студыя філасофіі ў другой палове XVIII-першай трэці XIX ст.; Гродна, студыя тэалогіі маральнай у другой палове XVIII-першай трэці XIX ст.; Беліца, студыя ў 1799 г.; Нясвіж, студыя тэалогіі дагматычнай і гісторыі касцёла ў 1731-1864 гг.; Мінск, студыя філасофіі ў 1753-1868 гг.; Будслаў, студыя тэалогіі маральнай і рыторыкі да 1797 г., студыя рыторыкі ў 1829 г.; Друя, студыя граматыкі ў другой палове XVIII-першай трэці XIX ст.; Магілёў, студыя тэалогіі маральнай да 1825 г.; Полацк, студыя філасофіі ў канцы XVIII-пачатку XIX ст.), кармеліты босыя (Гродна, студыя філасофіі; Глыбокае, студыя філасофіі, абедзве існавалі ў канцы XVIII- першай трэці XIX ст.), кармеліты абутыя (Слабодка, студыя тэалогіі маральнай у 1808 г., Бялынічы, студыя філасофіі ў 1804 г., 1811 г., студыя тэалогіі ў 1825 г.), картэзіянцы (Бяроза, студыя тэалогіі ў XVIII- першай трэці XIX ст.), цыстэрцыянцы (Кімбараўка, студыя тэалогіі ў XVIII- першай трэці XIX ст., Вістычы ў 1803 г.), бенедыкцінцы (Гарадзішча, студыя філасофіі ў 1803 г., студыя тэалогіі ў 1809-1830 гг., Нясвіж, студыя філасофіі ў 1809 г.), канонікі рэгулярныя латэранскія (Крамяніца, 1829 г.), трынітарыі (Орша, студыя тэалогіі ў канцы XVIII - пачатку XIX ст.), марыяне (Расна, студыя тэалогіі ў другой палове XVIII - першай трэці XIX ст.). Падрыхтоўка манахаў у місіянераў адбывалася праз сістэму ўласных семінарый. Клерыкі езуіты навучаліся ў калегіях ордэна, а піяры мелі студыю філасофіі ў Дубровіцы на Украіне. У езуітаў клерыкі адбывалі практыку ў сваіх школах, а потым працягвалі адукацыю і атрымлівалі навуковыя ступені (табл. 1.7, 1.8) [170,t.2,s.175; 194,s.384-449; 204, s.19-23; 208, s.402; 231,s.557-608; 238,s.17-442; 317,s.213-214; 334,s.125; 335, s.175-208; 316, s.116-126; 195; 216].

Табліца 1.7 – Навіцыяты на тэрыторыі Беларусі (каля 1771г. – 1820-я гады) [98, ф. 1, воп. 3, спр. 422, арк. 44-46; 170, t. 2; 181; 194; 238; 316; 317].

| Манаскі ордэн | Колькасць навіцыятаў |
| --- | --- |

| | |
|---|---|
| Дамініканцы | 4 |
| Бернардзінцы | 2 |
| Францысканцы | 2 |
| Карменіты абутыя | 2 |
| Карменіты босыя | 2 |
| Цыстэрцыянцы | 2 |
| Бенедыкцінцы | 2 |
| Марыяне | 1 |
| Піяры | 1 |
| Езуіты | 1 |
| Картэзіянцы | 1 |
| Усяго | 20 |

У Рэчы Паспалітай каля 1772 г. дзейнічала 377 фармацыйных дамоў (232 дамы належалі жабрацкім ордэнам, 90 - клерыкам рэгулярным, 26 - канонікам рэгулярным, 29 - уласна манахам), у якіх навучалася 2217 навіцыяў і клерыкаў (1177 з жабрацкіх ордэнаў, 750 клерыкаў рэгулярных, 148 канонікаў рэгулярных, 142 уласна манахаў) [194, s.168-182]. У абагульняючым выглядзе колькасць фармацыйных дамоў, навіцыяў і клерыкаў на землях Рэчы Паспалітай да яе падзелаў і каля 1825 г. прадстаўлена ў табліцах 1.9, 1.10.

Табліца 1.8 – Манаскія студыі на тэрыторыі Беларусі (каля 1772г. – 1820-я гады) [170, t. 2; 194; 195; 204; 208; 215; 231; 238; 316; 317; 334; 335].

| Манаскі ордэн | Колькасць студый |
|---|---|
| Бернардзінцы | 9 |
| Францысканцы | 5 |
| Дамініканцы | 5 |
| Карменіты босыя | 2 |
| Карменіты абутыя | 2 |
| Цыстэрцыянцы | 2 |
| Бенедыкцінцы | 2 |
| Картэзіянцы | 1 |
| Каноніі рэгулярныя латэранскія | 1 |
| Трынітарыі | 1 |
| Марыяне | 1 |
| Усяго | 31 |

Абсалютная большасць студый мела характар вышэйшых навучальных устаноў (у іх выкладалася праграма вышэйшая за сярэдні курс навучання) і ў гэтым сэнсе яны былі асяродкам адукацыі, якія складалі пэўную альтэрнатыву універсітэту для той часткі мясцовай моладзі, якая не мела магчымасці навучання ў Вільні.

Табліца 1.9. Фармацыйныя дамы (каля 1772 – 1820-я гады)[ 194, s. 168-182].

| Манаскія ордэны | 1772 г. | 1825 г. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Заход. губ. Рас. імперыі | Царства Польскае | Аўстрыя | Кракаў | Прусія |
| Жабрацкія ордэны | 232 | 55 | 51 | 15 | 6 | 3 |
| Клерыкі рэгулярныя | 90 | 20 | 14 | 2 | --- | --- |
| Канонікі рэгулярныя | 26 | 9 | 2 | --- | 1 | --- |
| Уласна манахі | 29 | 6 | 2 | 1 | 2 | --- |
| Усяго | 377 | 90 | 69 | 18 | 9 | 3 |

Неад’емнай часткай дыяцэзіяльных структур з’яўляліся духоўныя семінарыі, якім у паслятрыдэнтскім касцёле надавалася асаблівая ўвага ў справе падрыхтоўкі ксяндзоў да пастырскай працы. Ад ступені прафесіяналізму і кампетэнцыі духавенства залежала сувязь касцёла з паствай і эфектыўнасць яго місіянерскай дзейнасці.

Табліца 1.10 – Колькасць навіцыяў і клерыкаў (каля 1772 – 1820-я гады) [194, s. 171, 173, 175, 182].

| Манаскія ордэны | 1772г. | 1825 г. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Зах.губ. Рас.імп. | Царства Польскае | Аўстрыя | Кракаў | Прусія |
| Жабрацкія ордэны | 1177 | 445 | 249 | 65 | 26 | 3 |
| Клерыкі рэгулярныя | 750 | 109 | 78 | 17 | --- | --- |
| Канонікі рэгулярныя | 148 | 46 | 17 | --- | 3 | --- |
| Уласна манахі | 142 | 22 | 6 | 3 | 10 | --- |
| Усяго | 2217 | 622 | 350 | 85 | 39 | 3 |

На тэрыторыі створанай Кацярынай ІІ у 1773 г. Беларускай дыяцэзіі існавала духоўная семінарыя ў Краславе, якая да гэтага часу з’яўлялася семінарыяй Інфлянцкай дыяцэзіі. Гэта была невялікая навучальная ўстанова, разлічаная на 11 клерыкаў, якой апекаваліся ксяндзы з ордэну місіянераў. Біскуп С. Сестранцэвіч планаваў перанесці краслаўскую семінарыю ў Магілёў, але не здзейсніў гэтага. У шматлікіх выданнях паведамляецца, што першую духоўную семінарыю ў Магілёве С. Сестранцэвіч адкрыў ў 1778 г. [258, s.378; 13; 129, с.11]. Але

сучаснік падзей кс. Шантыр сцвярджае, што ў канцы 1770-х гадоў С. Сестранцэвічу не ўдалося арганізаваць семінарыю з-за адсутнасці фундуша і выкладчыкаў [313, s.42,48]. У “Статыстычнай ведамасці Магілёўскай архідыяцэзіі” за 1823 г. адзначана таксама, што архідыяцэзіяльная семінарыя існуе ад часу заснавання Магілёўскай архідыяцэзіі ў 1783 г. і знаходзіцца пад наглядам місіянераў [328]. Відавочна, разлічаная на 20 клерыкаў семінарыя пачала працаваць у 1780-х гадах, калі на яе ўтрыманне была ўзята частка краслаўскага фундуша і калі яна была ададзена пад нагляд місіянераў. Па іншых звестках гэта адбылося ў 1788 г. [174, s.116; 252, s.115-117]. Акрамя кандыдатаў ў духоўны сан у Магілёўскай семінарыі навучалася пэўная колькасць манаскага духавенства.

Пасля арганізацыі Магілёўскай архідыяцэзіі ўзніклі семінарыі ў Беластоку (паміж 1815-1820 гг.) і Звенігарадку (у 1820 г.). У Беластокскай семінарыі навучалася да 8 клерыкаў (у 1825 г.), выкладалі ў ёй місіянеры. Звенігародская семінарыя, разлічаная на 6 клерыкаў, прызначалася для кіеўскага архідыяканата [199, s.379].

У Мінскай дыяцэзіі духоўная семінарыя, разлічаная на 12 клерыкаў, была заснавана біскупам Я. Дэдэркам у 1803 г. і размяшчалася ў будынку мінскага францысканскага кляштара. Да 1828 г. ёй апекаваліся ксяндзы-місіянеры, а з 1828 г. – дыяцэзіяльнае духавенства. У першай чвэрці XIX ст. існавала разлічаная на 5 клерыкаў малая семінарыя ў Смілавічах пад кіраўніцтвам місіянераў [252, s.117; 258, s.379].

Найбольш духоўных семінарый было ў Вільні. З 1582 г. тут дзейнічала дыяцэзіяльная семінарыя. У 1765-1808 гг. яна знаходілася пад наглядам ксяндзоў місіянераў, а з 1808 г. пад кіраўніцтвам дыяцэзіяльнага духавенства. У 1765-1788 гг. у ёй налічвалася да 60 клерыкаў, у 1808 г. – 28 навучэнцаў. Другая віленская семінарыя для дыяцэзіяльнага святарства, арганізаваная місіянерамі, дзейнічала з 1744 г. У 1805 г. у ёй навучалася 20 клерыкаў, у 1828 г. – 36 клерыкаў. Дыяцэзіяльныя семінарыі былі ў Ілукшце і Брэсце. Першая з іх дзейнічала з 1787 г. Яна была разлічана на 4 клерыкаў і знаходзілася пад апекай місіянераў. Семінарыя ў Брэсце была разлічана на 2 клерыкаў.

Яна была заснавана на пачатку XIX ст. і праіснавала да 1830-х гадоў [291, s.216-217,229-230].

Шэраг віленскіх семінарый не ўваходзілі ў склад дыяцэзіяльных структур. Адной з іх была семінарыя місіянераў на Гары Збаўцы, якая дзейнічала ў 1725 – 1842 гг. Гэта была ўнутрыордэнская школа вышэйшага тыпу, так званая генеральная студыя (з 1814 г.), якая рыхтавала кадры не толькі для сваіх патрэб, але і для дыяцэзіі. Да 1799 г. у Вільні існавала папская семінарыя. З 1753 г. у ёй навучаліся выключна каталікі ўсходняга абраду.

У 1803-1833 гг. у Вільні дзейнічала Галоўная семінарыя. Разлічаная на 50 кандыдатаў з усёй Магілёўскай мітраполіі, яна падпарадкоўвалася Рымска-Каталіцкай духоўнай калегіі. Гэта вышэйшая навучальная ўстанова была створана па праекту князя Адама Чартарыйскага ў якасці альтэрнатывы дыяцэзіяльнай семінарыі. Яна павінна была стаць узорнай для ўсіх семінарый у Расійскай імперыі. Выкладанне лекцый для клерыкаў адбывалася на факультэце маральных навук Віленскага універсітэта. Планавалася, што, пачынаючы з 1813 г., усе кандыдаты на вышэйшыя касцёльныя пасады павінны былі яе скончыць. Фундуш для яе ўтрымання складаў 15 тыс. руб. срэбрам і збіраўся з асобных кляштараў. Сваю місію, аднак, гэта навучальная ўстанова не выканала. Мясцовае духавенства праігнаравала яе з прычыны прадзяржаўнай арыентацыі. З 70 клерыкаў, якія скончылі Галоўную семінарыю да 1812 г., святарскі сан атрымалі толькі 24. У 1832-33 гг. гэта ўстанова была аб'яднана з тэалагічным факультэтам Віленскага універсітэта ў Духоўную Акадэмію [291, s.222-225].

Вышэйшую тэалагічную адукацыю можна было атрымаць таксама на тэалагічным аддзяленні факультэта маральных навук Віленскага універсітэта.

Да 1801 г. у пытанні кіраўніцтва дыяцэзіяльнымі семінарыямі біскупы мелі неабмежаваную ўладу. У 1801 г. семінарыі былі падпарадкаваны Духоўнай калегіі. З 1810 г. кантрольныя функцыі над семінарыямі выконвалі тыя дзяржаўныя органы, якія вялі справы Рымска-Каталіцкага Касцёла. У 1842-1843 гг. былі закрыты ўсе семінарыі, якія знаходзіліся не ў дыяцэзіяльных сталіцах. Магілёўская

семінарыя была перанесена ў Мінск. З таго часу ў ёй навучалася 40 клерыкаў для Магілёўскай архідыяцэзіі і 15 - для Мінскай дыяцэзіі. У 1869 г. мінская семінарыя перанесена ў Вільню [258,s.379].

Такім чынам, фармацыйныя дамы і духоўныя семінарыі мелі магчымасць свабодна здзяйсняць сваю дзейнасць. У іх вялася падрыхтоўка кадраў для манаскага жыцця і парафіяльнай дзейнасці. Выпускнікі студый атрымлівалі магчымасць выкладаць у семінарыях і публічных школах. Функцыяніраванне студый і духоўных семінарыі спрыяла развіццю адукацыі. Многія з іх мелі характар вышэйшых навучальных устаноў.

## 3.2. Сярэднія навучальныя ўстановы для свецкай моладзі

Публічныя школы, якімі апекавалася каталіцкае духавенства ў канцы XVIII - першай трэці XIX ст., неаднойчы прыцягвалі ўвагу даследчыкаў, як айчынных, так і замежных [150,157,203,320,342]. Асвятленне іх дзейнасці, праграм і методык выкладання знайшло адлюстраванне ў шэрагу абагульняючых прац і ў даследаваннях А.А. Гурэцкага і А.Ф. Самусіка [11,47,48,110,112]. Школы ў гэтых работах даследаваліся ў рамках развіцця асветы (А.Ф. Самусік) і палітыкі царскага ўрада (А.А. Гурэцкі). Часта духоўныя і свецкія (публічныя) навучальныя ўстановы, якімі апекавалася манаства, разглядаліся ў агульным кантэксце. Аднак першыя нельга разглядаць толькі ў сістэме публічнай адукацыі, але перш за ўсё ў сувязі з пэўнымі кляштарамі і манаскімі ордэнамі.

Утрымліваць публічныя школы паводле сваіх правіл маглі толькі езуіты і піяры. Астатнія манаскія ордэны мелі іншыя мэты. Выкладчыцкая дзейнасць манахаў у публічных школах (акрамя як у дамініканцаў з 1809 г.) не заўважалася, яны не звальняліся ад іншых абавязкаў, а іх педагагічныя заслугі ў школах гэтага тыпу не мелі значэння ў манаскай іерархіі.

Даследаванне публічных школ, якімі апекавалася каталіцкае манаства, характарызуе прававое становішча Касцёла і формы яго дзейнасці на беларускіх землях у перыяд Расійскай імперыі.

Сістэма ордэнскай адукацыі давала магчымасць ствараць пры кляштарах публічныя школы і ўплываць на развіццё сацыяльна-культурных працэсаў у грамадстве. Пасля скасавання ордэна езуітаў у 1773 г. іх калегіі захаваліся толькі на тэрыторыі Расійскай імперыі. У Рэчы Паспалітай маёмасць ордэна стала матэрыяльнай базай для стварэння і дзейнасці Камісіі Народнай Адукацыі.

Далучаныя ў 1772 г. да Расійскай дзяржавы беларускія землі не былі ахоплены школьнай рэформай, якая праводзілася ў Рэчы Паспалітай. Тут працягвалі дамінаваць езуіцкія калегіі. У Віцебску дзейнічала піярская школа (у 1755-1785 гг., 1897-1822 гг.), у Забелах і Ушачы - дамініканскія школы. Акрамя таго, на

гэтых землях былі створаны рускія публічныя школы. У 1789 г. былі адкрыты галоўныя народныя вучылішчы ў Магілёве і Полацку, у 1791 г. – малыя народныя вучылішчы ў Мсціславе, Оршы, Копысі, Чэрыкаве, Чавусах. У 1794 г. адкрылася 4-х класнае вучылішча ў Віцебску. Асноўным кантынгентам гэтых школ былі дзеці праваслаўных мяшчан і купцоў. Падручнікі дасылаліся з Пецярбурга. Школы фінансаваліся за кошт гарадскіх сродкаў, якіх заўсёды не хапала. Іх матэрыяльная база прыходзіла ў заняпад, а школьная праграма саступала праграме калегій [342, s.40-41; 157, s.321-322].

Арцыбіскуп С. Сестранцэвіч імкнуўся арганізаваць публічныя школы сілай падначаленых яму кляштараў. Дзеля гэтай мэты ён выдаў Статут манаскага жыцця (31 снежня 1778 г.), які прадугледжваў рэформу манаскіх ордэнаў. Паводле Статута 1778 г. частка кляштараў пакідалася пры старым ладзе жыцця, а астатнія павінны былі рэарганізавацца ў кляштары навучальнага тыпу. Пры гэтым манахі вызваляліся ад спецыфічна манаскіх абавязкаў (спеваў, працэсій, дадатковых набажэнстваў, літургіі гадзін і інш.) [313, cz.1, s. 29-36]. Па сутнасці, манаскія супольнасціператвараліся ў арганізацыю ксяндзоў настаўнікаў, падпарадкаваных дыяцэзіяльнаму біскупу. Рэформа была накіравана супраць ордэна езуітаў, але калі апошнія дамагліся ў 1779 г. адкрыцця свайго навіцыяту, яна для арцыбіскупа страціла сэнс.

На тэрыторыі цэнтральнай Беларусі пасля 1793 г. навучальныя ўстановы былі перададзены ў падпарадкаванне мінскага прыказа грамадскай апекі. Школы заходняй Беларусі пасля 1795 г. былі падпарадкаваны часовай камісіі Літоўскага генерал-губернатара. У 1797 г. для Віленскай і Слонімскай губерняў была створана Літоўская камісія адукацыі на чале з віленскім біскупам [80, с.57]. Фармальна амаль усе школы былой Адукацыйнай камісіі былі скасаваны. У 1797 г. некаторыя з іх былі перададзены каталіцкім манаскім ордэнам : даміниканцам (Гродна), францысканцам (Пінск), канонікам рэгулярным латэранскім (Слонім). Функцыянаванне гэтых школ павінны былі забяспечваць кляштары. Іншыя школы былой Адукацыйнай камісіі, зрэфармаваныя ці зноў адкрытыя ў 1797 г., знаходзіліся на дзяржаўным утрыманні. Гэта тычыцца былых

езуіцкіх школ Мінскай губерні ў Мазыры, Бабруйску, Мінску (адкрытыя ў другі раз) і Слуцку. Школа ў Мінску была пераўтворана ў Галоўнае народнае вучылішча (з 1804 г. – гімназія) [80, с.57; 157,s.55,92,94]. Акрамя таго, на тэрыторыі Беларусі да падзелаў Рэчы Паспалітай дзейнічалі непадпарадкаваныя Адукацыйнай камісіі сярэдняя навучальная ўстанова місіянераў у Лыскаве і школы піяраў, якія з 1790 г. утваралі асобную навучальную акругу.

Навучальныя ўстановы былой Адукацыйнай камісіі атрымалі статус павятовых школ. Прадметы выкладаліся ў іх паводле праграм і падручнікаў, распрацаваных Адукацыйнай камісіяй, руская мова з’яўлялася дадатковым прадметам.

Расійскія ўлады заклікалі кляштары да актыўнай дзейнасці на карысць дзяржавы. У Рэгламенце для цэркваў і кляштараў ад 3 лістапада 1798 г. падкрэслівалася, што кляштары павінны “усімі сродкамі служыць імперыі і садзейнічаць яе дабрабыту” ці самі сабой, ці ахвяраваннем сваіх даходаў на ўтрыманне школ і дабрачынных устаноў [102, т.XXV, с.436-438]. Дыяцэзіяльныя біскупы таксама заклікалі манаскія ордэны больш займацца ў галіне публічнай адукацыі. Так, віленскі біскуп Я.Н. Касакоўскі ў пастырскім лісце ад 1 красавіка 1799 г. патрабаваў, каб кляштары заняліся арганізацыяй публічных школ і аказвалі дабрачынную дапамогу немаёмасным слаям насельніцтва [98, ф.886, воп.1, спр.3, арк.14]. Царскія ўлады імкнуліся паставіць пад кантроль школьную дзейнасць кляштараў. Дзеля гэтага, між іншым, ва ўказе аб заснаванні Галоўнай семінарыі ад 18 ліпеня 1803 г. прадпісвалася выкладчыкам праходзіць іспыты ў Віленскім універсітэце і атрымаць пасведчанне аб дастатковых ведах [102, т.XXVII, с.782-784]. Правінцыялы ордэнскіх правінцый супраціўляліся кантролю Віленскага універсітэта над сваімі школамі. На працягу першай трэці XIX ст. кіраўніцтва Віленскага універсітэта змагалася з аўтанамічнымі памкненнямі кляштараў у справе адукацыі, але рашучых дзеянняў не распачынала, бо не бачыла магчымасці закрыцця гэтых школ [157, s.157-158].

На пачатку XIX ст. у Расійскай імперыі была праведзена адукацыйная рэформа. У 1802 г. было створана міністэрства народнай асветы і навучальныя акругі. Для Беларусі, Літвы і

Правабярэжнай Украіны, якія ўваходзілі ў адну акругу (да 1824 г.), адміністрацыйным цэнтрам быў прызначаны Віленскі універсітэт (з 1803 г.). Дзейнасць навучальных устаноў у Віленскай навучальнай акрузе рэгламентавалася “Статутам або Агульнымі пастановамі Віленскага універсітэта і вучылішчаў яго акругі” (1803 г.), а таксама “Прадпісаннямі арганізацыі вучылішчаў у акрузе Імператарскага Віленскага універсітэта” (1804 г.). Паводле распрацаванай сістэмы арганізацыі навучальных устаноў, парафіяльныя школы падпарадкоўваліся павятовым, а апошнія вучылішчнаму камітэту універсітэта. У губернскіх цэнтрах прадугледжвалася стварэнне гімназій, а ва ўездах – уездных вучылішчаў.

Да 1812 г. на вучэбны план гімназій былі пераведзены галоўныя народныя вучылішчы ў Мінску, Віцебску і Магілёве. У 1804-1805 гг. на сродкі графа В.Тышкевіча была заснавана губернская гімназія ў Свіслачы. У 1825 г. у гімназію была пераўтворана павятовая школа дамініканцаў у Гродне.

Гімназіі мелі 6 класаў, а павятовыя вучылішчы на працягу свайго існавання маглі быць 3-х, 4-х, 5-ці класнымі, некаторыя (школы піяраў у Шчучыне, дамініканцаў у Наваградку, францысканцаў у Пінску, місіянераў у Лыскаве) былі 6-ці класнымі. Школьныя праграмы гімназій і вучылішчаў значна не адрозніваліся. Абодва тыпы школ давалі магчымасць паступіць ва універсітэт. Народныя школы займалі прамежкавую ступень паміж пачатковай і ўласна сярэдняй школай. Да 1825 г. яны былі пераўтвораны ў павятовыя. Акадэмічных школ было на тэрыторыі Беларусі менш за астатнія. Усе яны знаходзіліся ў Мінскай губерні. Распачатая на пачатку XIX ст. школьная рэформа не была даведзена да канца. Навучальны працэс у школах змяняўся ў адпаведнасці з інструкцыямі і цыркулярамі ўрадавых устаноў і куратараў навучальных акруг [11, с.129; 157, s.37-38].

Сярод навучальных устаноў, якімі апекаваўся Касцёл, асаблівае месца належыць езуіцкім калегіям. Хоць гэтыя школы знаходзіліся ў Віленскай навучальнай акрузе, яны фактычна мелі незалежнае становішча. Пад час інспекцыі гэтых школ у 1808 г. было засведчана, што ніводнае з распараджэнняў Віленскага універсітэта ў іх не было выканана. У перыяд з 1810 г. па 1820 г.

такіх інспекцый увогуле не было [157, s.164]. Найбольш прадстаўнічай на пачатку XIX ст была полацкая калегія, у якой навучалася ад 317 да 440 вучняў [19, с.147]. Карыстаючыся падтрымкай уплывовых колаў Расіі і імператара, езуіты дамагліся адкрыцця вышэйшай навучальнай установы ў Полацку (1812 г.) і падпарадкавалі ёй свае калегіі ў Магілёве, Мсціславе, Оршы і Віцебску. У полацкай Акадэміі дзейнічалі тры факультэты (тэалагічны, вызволеных навук, старажытных і сучасных моваў), якія надавалі навуковыя ступені магістраў і дактароў філасофіі, тэалогіі і права. Выпускнікі Акадэміі залічваліся ў табель рангаў Расійскай імперыі (14 клас). У 1813 г. тут навучалася 84 вучня, у 1820 г. – 700 вучняў (разам з пачатковай і павятовай школамі).

Пры полацкай Акадэміі знаходзілася адна з лепшых бібліятэк (каля 40 тыс. тамоў), кабінеты і музей. У друкарні (1787-1820 гг.) друкаваліся падручнікі, навуковая і апалагічная літаратура, часопіс “Miesięcznik Połocki”. Нягледзячы на шматлікую крытыку ў адрас Акадэміі, у параўнанні з іншымі навучальнымі ўстановамі Беларусі яна была ў ліку найлепшых. Фармальна навучанне было пазаканфесійным (да 1817 г.), пазасаслоўным і бясплатным [303, с.58-108; 181, s.524-527]. Тры калегіі ў XIX ст. (у Полацку, Віцебску і Магілёве) мелі вышэйшы статус з выкладаннем філасофіі (6-7 класаў). Сярэднюю адукацыю давалі калегіі ў Оршы і Мсціславе (5 класаў). У іх выкладаліся прадметы да філасофіі. Школа езуіцкай місіі ў Чачэрску давала няпоўную сярэднюю адукацыю (3 класы). Пачынаючы ад 1787 г. у езуіцкіх школах выкладалася руская мова [19, с.133].

Езуіцкія калегіі карысталіся папулярнасцю ў мясцовай шляхты. У іх навучалася адносна вялікая колькасць вучняў. У Магілёве, Віцебску і Мсціславе ў XIX ст. налічвалася ад 55 да 189 хлопчыкаў, у Оршы – ад 36 да 90, у Чачэрску – каля 50 [203, s.145-187; 340, s.351-368; 19,с.182]. Пры калегіях існавалі бурсы для дзяцей збяднелай шляхты і мяшчан, дзе налічвалася 10-16 чалавек. Найбольшую колькасць вучняў, якім аказвалася дабрачынная дапамога, утрымлівала полацкая калегія (усяго разам са спецыяльнымі фундушамі 172 вучня) і акадэмія (каля 130 чалавек). Акрамя таго, пры калегіях дзейнічалі платныя

канвікты для багатай шляхты. У іх налічвалася ад 7 да 20 чалавек, у Полацку – да 41 (у акадэміі да 80 выхаванцаў) [19, с.182].

Езуіцкія калегіі мелі неблагія кнігазборы. У 1820 г. у калегіях Віцебска і Оршы налічвалася 6 тыс. кніг, у тым ліку рукапісы, у Магілёве – 5 тыс. кніг, невялікая бібліятэка была ў Мсціславе. У магілёўскай і віцебскай школах існавалі спецыяльна абсталяваныя кабінеты для навучання фізікі, хіміі і геаграфіі. У Магілёве захоўваліся калекцыі манет, медалёў і матылёў. Пры школах ў Віцебску, Магілёве, Полацку і Оршы да 1820 г. дзейнічалі школьныя тэатры [181, s.434,478,749,882].

Езуіцкія дамы неаднойчы наведвалі расійскія манархі і вышэйшыя саноўнікі. У полацкай калегіі пабывала Кацярына II (у 1780 г.), яе сын Павел (у 1780 г.), Аляксандр I (у 1801 г., 1807 г., 1812 г.), у аршанскай – цар Павел I (у 1797 г.). У магілёўскай і аршанскай калегіях з візітамі быў граф Рыгор Пацёмкін. У магілёўскай калегіі пабывалі беларускія генерал-губернатары З.Р. Чарнышоў і П.Б. Пасек, полацкі губернатар А.В. Нарышкін, генерал-фельдмаршал П.А.Румянцаў, мітрапаліт С.Сестранцэвіч.

Пасля выгнання езуітаў іх навучальныя ўстановы былі перададзены іншым манаскім ордэнам. Так, школа ў Оршы перайшла да дамініканцаў, у Мсціславе – да бернардзінцаў, у Віцебску да базыльянаў, у Полацку да піяраў. Школа ў Чачэрску была закрыта яшчэ ў 1806 г., у Магілёве - ў 1820 г. [102, т.XXXVIII, с.5-9].

Акрамя езуіцкіх калегій у сістэме школьнага навучання беларускіх зямель вылучаліся піярскія школы, якія не прыпынялі сваёй дзейнасці ад часу заснавання. У XVIII ст. яны складалі пэўную канкурэнцыю езуіцкім калегіям. Піярскія школы аказаліся больш мабільнымі ў пераарыентацыі навучальнага працэсу ў адпаведнасці з духам эпохі Асветніцтва. Іх школьная праграма менш надавала ўвагі латыні, важнае месца займала польская мова і гісторыя, грамадска-этычная і прыродазнаўча-матэматычныя навукі. Менавіта піяры былі ініцыятарамі школьнай рэформы ў Рэчы Паспалітай.

У Расійскай імперыі вылучаліся школы піяраў ў Шчучыне, Віцебску і Полацку. Шчучынская 6-ці класная павятовая школа была гімназіяльнага ўзроўню. У ёй былі

фізічны кабінет, хімічная лабараторыя, геаметрычнае і геаграфічнае абсталяванне. У кляштары захоўвалася бібліятэка, якая налічвала 2751 кнігу. У школе навучалася да 196 вучняў. Асноўны кантынгент складалі дзеці шляхты Лідскага павета. Навучанне было бясплатным, аб харчаванні і жылых памяшканнях павінны былі клапаціцца бацькі. Для бедных вучняў існавалі тры канвікты, адзін з якіх быў піярскім, у якіх утрымлівалася каля 30 хлопчыкаў [51,с.44-49; 198,s.158-159]. Сярод выкладчыкаў і навучэнцаў піярскай школы былі філосафы Казімір Нарбут і Анёл Доўгірд, даследчык Ігнацій Дамейка і іншыя вядомыя дзеячы.

Віцебская школа піяраў вядома з 1755 г., у гэты час у ёй працаваў школьны тэатр. У 1785 г. навучальная ўстанова была пераведзена ў Дуброўну каля Оршы. У 1797 г. піяры вярнуліся ў Віцебск. На пачатку XIX ст. у віцебскай 5-ці класнай павятовай школе існавалі фізічны і мінералагічны кабінеты, хімічная лабараторыя і батанічны сад. Школа налічвала да 35 вучняў, пры ёй дзейнічалі канвікт і бурса.

У 1822 г. віцебская школа піяраў была перанесена ў Полацк на месца скасаванай езуіцкай акадэміі. Полацкае вышэйшае вучылішча піяраў мела характар ліцэя, хоць афіцыйна ніколі гэты статус не атрымала. Яно складалася з парафіяльнай школы (падрыхтоўчы клас), 4-х класнага павятовага вучылішча і трохгадовых вышэйшых курсаў. Курсы вышэйшых навук падзяляліся на літаратурнае і матэматычнае аддзяленні. Прадметы выкладаліся ў форме лекцый. З паезуіцкіх фундушаў вучылішча атрымлівала з казны 28 тыс.руб. асігнацыямі штогод. У 1826 г. у ім навучалася 280 хлопчыкаў, у 1830 г. – 308. Акрамя таго існаваў канвікт на 40 хлопчыкаў [111, с.525; 198, s.166-167]. Полацкая школа піяраў мела сувязі з Віленскім універсітэтам, у канцы 1822 г. тут чытаў лекцыі па гісторыі прафесар універсітэта І. Лялевель.

З іншых піярскіх школ варта адзначыць павятовую 4-х класную школу ў Лужках (вядома з 1745 г.). У розныя часы ў ёй навучалася ад 70 вучняў (у 1829 г.) да 165 (у 1822 г.). Школа мела кабінет, абсталяваны фізічнымі, геаграфічнымі і хімічнымі прыборамі, калекцыю мінералаў. У кляштары знаходзілася невялікая бібліятэка (506 кніг).

Яшчэ адна школа піяраў знаходзілася ў Лідзе. У XIX ст. гэта была 4-х класная навучальная ўстанова з невялікай колькасцю вучняў – ад 18 у 1820 г. да 55 у 1828 г. Пры школе знаходзіліся два канвікты. У 1817 г. вучылішча наведаў куратар Віленскай навучальнай акругі князь А.Чартарыйскі, які застаўся задаволены станам навучання і поспехамі вучняў [198, s.167]. Некаторыя даследчыкі (С. Данскіх, Д. Бавуа) адзначаюць нізкі ўзровень выкладання і некамплектнасць класаў у Лужках і Лідзе [51, с.47]. Але адмоўныя для гэтых школ з'явы (дысцыплінарныя злоўжыванні, адхіленні ад школьнай праграмы, недастатковая колькасць вучняў) былі ўласцівы і іншым навучальным установам. Сцвярджэнні вышэйзгаданых аўтараў, што лідская школа была закрыта ў 1821 г., не з'яўляюцца дакладнымі. Паводле іншых даследванняў і архіўных крыніц школа працавала ў 1828-1834 гг. [98, ф.1, воп.3, спр.1238, арк.6-9; 342,s.377; 198, s.167].

Правінцыяльнае кіраўніцтва піяраў выказвала лаяльныя адносіны да царскіх улад і прыслухоўвалася да заўваг Віленскага універсітэта. Яно ахвотна пасылала сваіх прадстаўнікоў у Галоўную семінарыю ў Вільні. Аднак у рэчаіснасці ў навучальным працэсе піяраў назіраўся адыход ад школьнай праграмы і афіцыйных інструкцый [157, s.175-176].

Акрамя езуіцкіх і піярскіх школ вылучаліся дамініканскія школы, найбольш вядомымі з якіх былі гродзенская, нясвіжская і забельская.

Гродзенская школа была найвялікшай. У 1825 г. яе статус афіцыйна быў падняты да гімназіяльнага. Пры кляштары працавалі павятовыя і парафіяльныя школы. У 1831 г. налічвалася 336 вучняў (106 у гімназіі, 150 у павятовай школе і 80 у пачатковай), не ўлічваючы 21 вучня, якія ўтрымліваліся на спецыяльным фундушы [98, ф.1, воп.3, спр.1238, арк.6]. Школа мела фізічную і хімічную лабараторыі, абсталяванне якіх было зроблена па праектах выкладчыкаў Д. Сівіцкага і А. Кажанеўскага. Пры школе знаходзіўся музей з калекцыяй мінералаў і розных "незвычайнасцяў". Гродзенскія дамініканцы валодалі адной з лепшых бібліятэк. Паводле розных крыніц у ёй налічвалася ад 10 да 15 тысяч выданняў XVI-XIX ст. Гэта былі

кнігі па гісторыі, філасофіі, праву, матэматыцы, геаграфіі, батаніцы, граматыцы, тэалогіі, медыцыне і інш [145, с.228-235].

У гродзенскай школе выкладалі выкладчыкіі, якія атрымалі навуковыя ступені ў Віленскім універсітэце. Сярод іх доктар тэалогіі, правінцыял (у 1814-1817 гг.) Ян Сцірпейка (1760-1817 гг.). У 1792 г. у Гродне быў надрукаваны яго падручнік па фізіцы. Рукапісы Я. Сцярпейкі ўвайшлі ў склад так званых "гродзенскіх філасофскіх рукапісаў" канца XVII- пачатку XIX ст. Доктар тэалогіі, правінцыял (у 1824-1826 гг.) Фелікс Цяцерскі (1774-1826 гг.) выкладаў у Гродне матэматыку і фізіку, у Забелах - фізіку і хімію, у Наваградку - красамоўства. На пачатку XIX ст. у Гродне была надрукавана яго дысертацыя па эксперыментальнай фізіцы. У 1809 г. у Наваградку, а ў 1817 г. у Гродне выкладаў літаратуру вядомы прапаведнік і місіянер, паэт Якуб Фалькоўскі (1778-1836 гг.) [96,с.583-584; 154,s.135,147-148; 173,s.299; 206,s.33-37]. У 1806 г. у Вільні ў перакладзе на польскую мову Алойзія Кажанеўскага быў выдадзены падручнік па фізіцы французскага даследчыка Р.Ж. Гаюі [14, кп 3600]. Візітатар дамініканскіх кляштараў у 1822 г. у сваім дзённіку адзначыў, што становішча гродзенскага кляштара не выклікае заўваг, яго бібліятэка і кабінет у поўным парадку, а настаўнікі найлепшыя [10,с.126-195].

Павятовая школа дамініканцаў у Нясвіжы паводле заўваг генеральнага візітатара навучальных устаноў Мінскай губерні Ю. Твардоўскага была ў 1819 г. найлепшай у губерні. У 6-ці класнай школе навучалася больш за 100 вучняў (у 1819 г. – 174 вучня, у 1830 г. –100). Кабінет фізіка-матэматычны меў глобусы і добрае абсталяванне дзякуючы асабістым намаганням прафесара фізікі Цярлецкага. У кляштары знаходзілася бібліятэка, ў якой налічвалася каля 2000 кніг. У той жа час, у адрозненне ад гродзенскай дамініканскай гімназіі, нясвіжская павятовая школа не мела ніводнага настаўніка з навуковай ступенню Віленскага універсітэта [170,t.2, s.52-53; 320, s.30-35].

У забельскай павятовай школе выкладалі правінцыял, доктар тэалогіі, аўтар шэрагу тэалагічных рукапісаў і кніг Ю. Стажэнскі (1753-1816 гг.), прыёр і правінцыял (у 1818-1824 гг.), доктар філасофіі, мемуарыст і гісторык Ф. Цяцерскі (1760-1832гг.), які знаходзіўся ў сібірскай ссылцы за ўдзел у

“Віленскай канфедэрацыі”. У забельскай навучальнай установе дзейнічаў вядомы школьны тэатр, росквіт якога прыпадаў на 1787-1791гг. Яго стваральнікамі былі выкладчыкі школы Каэтан Марашэўскі, Міхал Цяцерскі, Ігнацій Юрэвіч, кампазітар Рафаэль Вардоцкі. Тут ставіліся камедыі і трагедыі, опера “Апалон-заканадаўца, або Рэфармаваны Парнас” (1789 г.) [50, с.117]. У 1804 г. забельскай школе быў нададзены статус павятовай. У правінцыяльнага кіраўніцтва дамініканскага ордэна існавалі планы па пераўтварэнню школы ў акадэмію з трыма факультэтамі [157, s.158].

Школы дамініканцаў дзейнічалі ў Наваградку і Ўшачах. У 1822 г. у Наваградку навучалася больш за 100 вучняў, у 1831 г. – 63 вучня. Гэта была школа гімназіяльнага ўзроўню, якая мела 6 класаў і школьны тэатр. У кляштары захоўвалася бібліятэка з 500 кніг [98, ф.1, воп.3, спр.1238, арк.9]. Школа ва Ўшачах мела ад 100 да 200 вучняў і часам карысталася фінінсавай падтрымкай Адукацыйнага фундушу. У рэчыцкай школе дамініканцаў навучалася ў 1830 г. 130 вучняў (разам з вучнямі парафіяльнай школы), на фундушы знаходзілася 9 вучняў. У кляштары была бібліятэка, якая налічвала 274 кнігі. Узровень рэчыцкай школы на пачатку XIX ст. не адпавядаў сярэдняй школе і ў 1818 г. яна была рэарганізавана ў парафіяльную (у 1825 г. адноўлена як павятовая) [315, s.62-63]. У 1822 г. дамініканцам была перададзена былая езуіцкая калегія ў Оршы, якая ў хуткім часе была закрыта. Дамініканцы ўтрымлівалі на беларускіх землях асноўную частку сваіх школ. Тры іх школы знаходзіліся на  тэрыторыі сучаснай Літвы і Украіны [342, s.373-380].

Значэнне дамініканскага ордэна ў галіне адукацыі пачало павышацца пасля касацыі езуіцкіх калегій. У 1809 г. на ордэнскай капітуле было прынята рашэнне ўнесці выкладчыцкую дзейнасць манахаў у публічных школах у пералік манаскіх заслуг [276, s.28]. Дамініканскія правінцыялы ў XIX ст. адстойвалі права на самастойнасць у навучальным працэсе сваіх школ [157 s.157].

Узвышэнню ролі дамініканцаў у сферы публічнай адукацыі спрыяла не толькі палітычная кан’юнктура, звязаная з выгнаннем езуітаў, але і прычыны аб’ектыўнага плану.

Дамініканскае асяроддзе валодала значным інтэлектуальным патэнцыялам, паколькі адукацыя манахаў у студыях займала важнае месца ў духоўным самаўдасканальванні. Па-другое, ордэн дамініканцаў належаў да сацыяльна-актыўнай групы манаскіх ордэнаў. І самае галоўнае, што на працягу першай трэці XIX ст. гэты колькасна самы прадстаўнічы ў Расійскай імперыі манаскі ордэн здолеў захаваць унутраныя магчымасці для свайго развіцця, пастаянна адбывалася яго амалоджванне, назіраўся рост колькасці навіцыяў і клерыкаў [244, s.102-112].

Астатнія манаскія ордэны значна менш займаліся арганізацыяй публічных школ.

Францысканцы апекаваліся былой езуіцкай калегіяй у Пінску. Гэта школа не выклікала ў візітатараў заўваг. У ёй было 4 класы з 6-ці гадовым тэрмінам навучання і фізіка-матэматычны кабінет. Бібліятэка налічвала каля 3000 кніг. Як ва ўсіх павятовых школах, у Пінску выкладаліся паэтыка, рыторыка, алгебра, геаметрыя, фізіка, батаніка, гісторыя, геаграфія, мінералогія, хімія, логіка, рэлігія, мовы (польская, руская, лацінская, французская), малюнак, музыка і іншыя прадметы. У 1816 г. у школе налічвалася 78 вучняў, у 1830 г. – 102 вучня. Візітатары адзначалі высокі ўзровень падрыхтоўкі прафесараў. У адрозненне ад іншых школ у пінскай навучальнай установе выкладчыкаў не мянялі так часта [320,s.16-24; 316, s.116].

Канонікі рэгулярныя латэранскія ўтрымлівалі павятовыя школы ў Слоніме і Відзах. Слонімская школа першапачаткова належала езуітам, у 1773-1782 гг. падпарадкоўвалася Адукацыйнай камісіі, у 1782 г. была скасавана, у 1797 г. адноўлена і перададзена канонікам рэгулярным латэранскім. У розныя часы яна мела ад 4-х да 6-ці класаў, у 1818-1825 гг. мела гімназіяльны характар. У школе навучалася ад 48 вучняў (у 1800 г.) да 98 (у 1822 г.) і 130 у 1831г. Пры школе быў канвікт для 10 вучняў і невялікая бібліятэка [98,ф.1, воп.3,спр.1238, арк.6-9; 293, t.V, s.242-246].

Павятовая школа ў Відзах дзейнічала з 1803 г. У ёй было 4 класы з 6-ці гадовым тэрмінам навучання. У школе налічвалася ад 39 у 1815 г. да 100 вучняў у 1818 г. Школа

выклікала заўвагі ў вышэйшага кіраўнацтва, ў 1821-1826 гг. яна была паніжана да ўзроўню парафіяльнай [293, t.V, s.242-246].

Манаскі ордэн місіянераў апекаваўся духоўнымі семінарыямі і ў той жа час меў на тэрыторыі Беларусі павятовую школу ў Лыскаве, вядомую з 1785 г. У XIX ст. яна мела статус гімназіі з 6 класамі і 8 гадовым тэрмінам навучання. У 1820-х гадах у школе навучалася 120 -150 вучняў. Кляштар меў неблагую бібліятэку, якая налічвала 1070 кніг [95, ф.1, воп.3, спр.1238, арк.6-9].

Кляштары астатніх манаскіх ордэнаў не праяўлялі зацікаўленасці ў арганізацыі публічных школ галоўным чынам з-за таго, што паводле сваіх правілаў яны не павінны былі займацца гэтым відам дзейнасці.

Табліца 1.11 – Сярэднія навучальныя ўстановы на тэрыторыі Беларусі, якія знаходзіліся ў адміністрацыі каталіцкіх манаскіх ордэнаў (1790-я гады – 1820-я гады) [98, ф.1., воп.3, спр.1238, арк.6-9; 157, s.126-203; 170,t.1, s.160-167; 181, s.882; 203; 205, s.413-419; 316; 317; 320; 342].

| Манаскія ордэны | 1790-я гады | | 1820-я гады | |
|---|---|---|---|---|
| | Колькасць школ | % | Колькасць школ | % |
| Езуіты | 6 | 17,6% | --- | --- |
| Піяры | 4 | 11,8% | 5** | 11,9% |
| Дамініканцы | 2 | 5,9% | 7** | 16,7% |
| Канонікі рэгулярныя латэранскія | 2 | 5,9% | 2 | 4,8% |
| Францысканцы | 1 | 2,9% | 1 | 2,4% |
| Місіянеры | 1 | 2,9% | 1 | 2,4% |
| Бернардзінцы | --- | --- | 2* | 4,8% |
| Разам | 16 | 47,1% | 18 | 42,9% |
| Іншыя супольнасці і ўстановы | 18 | 52,9% | 24 | 57,1% |
| Усяго | 34 | 100% | 42 | 100% |

* З улікам школ, якія ў 1822 г. перайшлі ад езуітаў.

Такім чынам, на працягу канца XVIII - першай трэці XIX ст. сярэднія навучальныя ўстановы, якія знаходзіліся ў адміністрацыі кляштараў, адыгрывалі істотную ролю ў сістэме школьнай адукацыі і складалі амаль палову ад агульнай колькасці сярэдніх школ (47,1% у 1790-х гадах і 42,9% ў 20-х гг. XIX ст., табл. 1.11). Найбольш школ мелі езуіты, піяры, і дамініканцы (апошнія асабліва ў 20-х гадах XIX ст., табл. 1.11). Асноўны кантынгент школ складалі дзеці мясцовай павятовай

шляхты. Так, у школе піяраў ў Лужках (Мінская губерня, Дзісненскі павет) у 1820 г. на 176 вучняў 123 паходзіла з Дзісненскага павета, 12 - з Браслаўскага і 41 - з больш аддалёных рэгіёнаў, з Лепеля, Полацка, Расіенаў, Краславы [157, s.260-262]. Большасць школ мела задавальняючую матэрыяльную базу, інтэрнаты (платныя канвікты ці бясплатныя бурсы) і бібліятэкі.

Расійская дзяржава пакінула, альбо перадала публічныя школы каталіцкім кляштарам з меркаванняў палітычных (для забеспячэння спакою ў краі), эканамічных (фінансавае забеспячэнне за кошт недзяржаўных сродкаў) і практычных (не існавала магчымасці замяніць гэтыя школы іншымі). У гістарыяграфіі, асабліва айчыннай, сустракаюцца крытычныя заўвагі ў адрас школ, якімі апекавалася каталіцкае манаства, – за нізкі ўзровень выкладання, недастатковасць школьнага абсталявання і адмову супрацоўнічаць з Віленскім універсітэтам [11, с.169-170; 157, s.146]. Але і не ўсе акадэмічныя школы былі ўзорнымі, памяшканні многіх з іх патрабавалі рамонту (у Халопенічах, Мазыры, Бабруйску і інш.) [157, s.140-143].

Публічныя сярэднія школы, якімі апекавалася манаства, па сваёй нацыянальна-культурнай арыентацыі былі польскімі. Выкладанне ў іх вялося на польскай мове, а выхаванне - у патрыятычным духу да “польскай” Рэчы Паспалітай [342, s.56-58]. Аднак такое становішча адлюстроўвала рэаліі эпохі, калі беларускіх навучальных устаноў не існавала. Дзейнасць польскіх па характару школ на беларускіх землях нельга разглядаць толькі як негатыўную з’яву. Перш за ўсё, яны давалі магчымасць для паступлення ў Віленскі універсітэт і спрыялі пашырэнню адукаванасці ў грамадстве.

## 3.3. Пачатковыя (парафіяльныя) школы

Каталіцкі Касцёл на беларускіх землях меў даўнюю традыцыю арганізацыі пачатковых школ [26, с.180-188]. Найстарэйшыя з іх паходзяць ад часу заснавання першых парафій. Так, парафіяльная школа ў Абольцах Мінскай губерні вядома з 1387 г. [250, s.403]. На працягу стагоддзяў колькасць пачатковых школ на Беларусі не была стабільнай. Найбольш значны ўздым назіраўся ў 70-я гады XVIII ст., калі на тэрыторыі Віленскага біскупства налічвалася 330 парафіяльных школ. У 1782 г. іх колькасць скарацілася да 251 і істотна не змянялася да пачатку XIX ст. [157, s.376; 342, s.43].

Дзейнасць парафіяльных школ рэгламентавалася двума параграфамі Статута Віленскага універсітэта ад 18 мая 1803 г. і “Статутам для прыходскіх вучылішчаў у губернях Валынскай, Кіеўскай і Падольскай”, які быў распрацаваны ў 1804 г. і ў 1807 г. распаўсюджаны ўрадам на тэрыторыю Віленскай навучальнай акругі. Гэтымі актамі прадугледжвалася стварэнне ў кожнай, ці ў дзвюх парафіях, школ на сродкі памешчыкаў, духавенства, мяшчан і дзяржаўных сялян. Для больш заможных слаёў грамадства прызначаліся двухкласныя школы, а для астатніх – аднакласныя. У класы дапускаліся дзяўчынкі. Сяляне не абавязаны былі пасылаць сваіх дзяцей у школы. Для іх прадугледжвалася магчымасць наведвання школы ў зімовы час і святочныя дні па скарочанай праграме (рэлігія, асновы земляробства і рамяства, хатняя гаспадарка для дзяўчынак, рэлігійныя спевы). У аднакласных школах навучаліся элементарным ведам (чытаць, пісаць, лічыць), у двухкласных - уводзіліся дадатковыя прадметы (пачаткі гісторыі і геаграфіі) [150, s.159-163; 157, s.370-371].

Школьная рэформа пачатку XIX ст. не была даведзена да канца. Гэта асабліва праявілася ў сістэме пачатковай адукацыі. Парафіяльныя школы не мелі якой-небудзь структурнай арганізацыі і агульнага кіраўніцтва. Кантроль з боку павятовых школ быў намінальны, а з боку Віленскага універсітэта вельмі слабы. У большасці школ не было стабільнай колькасці вучняў. Многія навучальныя ўстановы часова прыпынялі сваю дзейнасць, іншыя знікалі, стваралiся новыя. Былі і такія, што

знікалі з поля бачання афіцыйных органаў, хоць на самой справе існавалі. Парафіяльныя школы не мелі, як правіла, пастаянных фундушаў і таму цалкам залежалі ад волі дабрадзеяў. Праяўленне прагрэсіўнай ініцыятывы ў методыцы выкладання (ланкастэрскія школы) у іх спалучалася з застоем і дэградацыяй навучальнага працэсу. Узровень выкладання залежаў ад асобы настаўніка, які часцей не меў сярэдняй адукацыі. Многія школы, як сведчаць вынікі візітацый, мелі фіктыўны характар. Так, у 1819 г. з 55 школ Мінскай губерніі візітар Ю. Твардоўскі знайшоў 30, астатнія ці не існавалі (13), ці не дзейнічалі (12). У Гродзенскай губерні ў 1823 г. па меншай меры 4 школы не функцыянавалі [98,ф.1,воп.2, спр.103, арк.182-197; 320, s.176].

У перыяд з канца XVIII ст. і да 1830 г. на беларускіх землях у сучасных межах існавала 306 парафіяльных школ (1.12). Сярод іх былі сялянскія школы такіх вядомых філантропаў, як Храптовіч, Пацей і Манюшка (у Шчорсах, Століне, Радкаўшчыне), гарадскія школы на ўсходзе Беларусі. Абсалютная большасць школ знаходзілася пад наглядам каталіцкага і уніяцкага духавенства. Па-за межамі афіцыйнай сістэмы адукацыі знаходзілася шматлікае яўрэйскае насельніцтва.

Найбольш парафіяльных школ налічвалася на беларускіх землях Віленскай дыяцэзіі (123 школы, табл. 1.12). 110 школамі апекавалася каталіцкае духавенста, у тым ліку 26 (21,14%) – ордэнскае духавенства. У бернардзінцаў было 6 школ, у дамініканцаў – 5, у піяраў – 3, астатнія манаскія ордэны (канонікі рэгулярныя латэранскія, канонікі рэгулярныя ад пакуты, кармеліты босыя, місіянеры, францысканцы, цыстэрцыянцы) мелі 1-2 школы.

Табліца 1.12 – Парафіяльныя школы на тэрыторыі Беларусі ў першай трэці XIXст. [98, ф. 1., воп. 3, спр. 1238, арк. 6-9; воп. 2, спр. 103, арк. 182-197; 99, ф. 1781, воп. 32, спр. 147, арк. 6-75; 150; 157; 170; 320; 342].

| Дыяцэзія | Усяго | Ордэнскае духавенства | | Дыяцэзіяльнае духавенства | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Усяго | % | Усяго | % |
| Мінская | 106 | 33 | 31,1% | 54 | 51,0% |
| Магілёўская | 77 | 27 | 35,1% | 15 | 19,5% |
| Віленская | 123 | 26 | 21,1% | 84 | 68,3% |
| Усяго | 306 | 86 | | 153 | |

У Гродзенскай губерні, якая складала асноўную частку беларускіх зямель Віленскай дыяцэзіі, у 1828 г. налічвалася 22 парафіяльныя школы [98, ф.1, воп.3, спр.422, арк.142]. З іх у Гродзенскім павеце знаходзілася 2 школы, у Ваўкавыскім – 5, у Наваградскім – 4, у Слонімскім – 3, у Пружанскім – 3, у Кобрынскім – 3, у Брэсцкім – 3, у Лідскім павеце не было пачатковых школ. У справаздачы для губернскай канцылярыі за 1828 г. школы не вылучаны па сваёй прыналежнасці. Паводле статыстыкі І. Ляхніцкага ў губерні было 37 парафіяльных школ, якімі апекаваўся Касцёл [263, s.74-76]. У ведамасці віленскай Рымска-Каталіцкай духоўнай кансісторыі ад 17 кастрычніка 1823 г. адзначана 25 навучальных установ, якія знаходзіліся пад наглядам парафіяльных касцёлаў і кляштараў, у тым ліку 5 школ, якія з розных прычын не функцыянавалі [95, ф.1, воп.2, спр.103, арк.182-197]. У ведамасці 1823 г. згаданы не ўсе школы. Дадатковую інфармацыю ўтрымліваюць звесткі аб кляштарах Гродзенскай губерні за 1831 г., паводле якіх на ўтрыманні кляштараў знаходзілася 9 парафіяльных школ (10,1%) [98,ф.1, воп.3, спр.1238, арк.6-9]. Сем школ з гэтага спісу не прадстаўлены ў ведамасці за 1823 г., але наяўнасць іх пацвярджаецца іншымі крыніцамі.

Школы Гродзенскай губерні працавалі, галоўным чынам, на сродкі духавенства. У кожнай з іх навучалася ад 10 да 20 вучняў. Вылучаліся школы ў Воўпе (21 вучань), Вісцічах і Сваяцічах (22 вучня), Шарашове (48 вучняў) і Крошыне (91 вучань). Дзяўчынкі былі прадстаўлены ў Ляцку (4 дзяўчынкі і 11 хлопцаў) і ў Росі (разам з хлопцамі 15) [98, ф.1, воп.3, спр.1238, арк.6,182-197].

Усяго ў павятовых і пачатковых школах Гродзенскай губерні навучалася ў 1828 г. каля 2000 чалавек. Агульная колькасць насельніцтва губерні складала 595.977 чалавек, з іх 25.998 казённых сялян і 227.939 прыватнаўласніцкіх. Асноўны кантынгент гэтых школьных установ складалі дзеці шляхты (1.361 вучняў), сялянскіх дзяцей было каля 200 [95, ф.1, воп.3, спр.422, арк.142-144].

У пачатковых школах працавалі ксяндзы, арганісты і свецкія настаўнікі. У Жырмунах выкладаў вучань шчучынскай

павятовай школы піяраў. Толькі ў некаторых праграма выходзіла за межы элементарнага навучання. У шасці школах выкладалася руская мова. Усе навучальныя ўстановы з пашыраным выкладаннем прадметаў прызначаліся для шляхты і часткова для мяшчан.

Недастатковая колькасць пачатковых школ у Гродзенскай губерні адзначалася шматлікімі сучаснікамі. Генеральны візітатар губерні Юзаф Твардоўскі склаў ліст на імя губернатара аб неабходнасці адкрыцця новых школ, але атрымаў адмоўны адказ [98, ф.1, воп.1, спр.2543, арк.1-12]. Праблему развіцця пачатковай адукацыі бачыў і каталіцкі клір. Віленскі біскуп Я.Н. Касакоўскі ў пастырскім пасланні ад 1 чэрвеня 1800 г. адзначаў, што “ёсць яшчэ людзі, якія не могуць ні чытаць, ні пісаць, ні размаўляць на распаўсюджанай у краі мове, якія жывуць у цёмных і дымных хатах і ляпянках. Гэта нашы сяляне…, людзі аднага з намі паходжання і адной веры” [98, ф.486, воп.1, спр.1, арк.18]. У сувязі з чым, біскуп у гэтым жа дакуменце заклікаў, каб ва ўсіх парафіях ксяндзы заняліся арганізацыяй школ. Аднак і праз амаль 30 год, як вынікае з распараджэнняў віленскага дыяцэзіяльнага ўпраўлення, парафіяльных школ па-ранейшаму не хапала [98, ф.886, воп.1, спр. 24, арк. 66-68]. Аналіз парафіяльных школ у Гродзенскай губерні дае адлюстраванне агульнага становішча пачатковай адукацыі на беларускіх землях.

На тэрыторыі Мінскай губерні і дыяцэзіі знаходзілася не менш за 106 парафіяльных школ. (табл. 1.12). 33 школамі (31,13%) апекаваліся кляштары, 54 (50,94%) – дыяцэзіяльнае духавенства (разам 87 школ ці 82,08%). Школа ў Бабруйску валодала падвойным фундушам – мясцовага ксяндза і універсітэта. Гэта навучальная ўстанова працавала ў 1810-1822 гг. Яна была пераўтворана з павятовай школы (з 1823 г. зноў павятовая) і адрознівалася вышэйшым узроўнем выкладання.

У параўнанні з Віленскай дыяцэзіяй, у Мінскай дыяцэзіі ордэнскае духавенства больш працавала ў сферы пачатковай адукацыі. Дамініканцы апекаваліся 12 школамі, бернардзінцы – 8, францысканцы – 4, астатнія (кармеліты босыя, піяры, трынітарыі, бенедыкцінцы, місіянеры, цыстэрцыянцы, камуністы) – 1-2. (табл. 1.13). Школы існавалі на сродкі

парафіяльных ксяндзоў і кляштараў. Мінскай школе бернардзінцаў грошы пералічала гарадская дума, асабіста прэлатам С. Шантырам утрымліваліся 3 школы, некаторыя іншыя дзейнічалі за кошт бацькоў і ахвяраванняў.

Табліца 1.13 – Парафіяльныя школы ордэнскага духавенства на тэрыторыі Беларусі ў першай трэці XIX ст. [98, ф. 1., воп. 3, спр. 1238, арк. 6-9; воп. 2, спр. 103, арк. 182-197; 99, ф. 1781, воп. 32, спр. 147, арк. 6-75; 157; 170; 320; 342].

| Манаскія ордэны | Мінская дыяцэзія | | Магілёўская архідыяцэзія | | Віленская дыяцэзія | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | % | Усяго | % | Усяго | % |
| Бернардзінцы | 8 | 24,2% | 3 | 11,1% | 6 | 23,1% |
| Дамініканцы | 12 | 36,4% | 11 | 40,7% | 5 | 19,2% |
| Піяры | 1 | 3,0% | 1 | 3,7% | 3 | 11,5% |
| Канонікі рэгулярныя Латэранскія | --- | --- | 2 | 7,4% | 2 | 7,7% |
| Канонікі рэгулярныя ад пакуты | --- | --- | --- | --- | 1 | 3,9% |
| Кармеліты босыя | 2 | 6,1% | --- | --- | 2 | 7,7% |
| Кармеліты абутыя | --- | --- | 3 | 11,1% | 2 | 7,7% |
| Францысканцы | 4 | 12,1% | 1 | 3,7% | 2 | 7,7% |
| Цыстэрцыянцы | 1 | 3,0% | --- | --- | 1 | 3,9% |
| Картэзіянцы | --- | --- | --- | --- | 1 | 3,9% |
| Місіянеры | 1 | 3,0% | 2 | 7,4% | 1 | 3,9% |
| Камуністы | 1 | 3,0% | --- | --- | --- | --- |
| Трынітарыі | 1 | 3,0% | 2 | 7,4% | --- | --- |
| Бенедыкцінцы | 2 | 6,1% | --- | --- | --- | --- |
| Езуіты | --- | --- | 2 | 7,4% | --- | --- |

У школах пераважна навучалася да 10 вучняў, больш было ў Капылі (23 вучня ў 1819 г.), Смілавічах (21 вучань у 1819 г.), Цімкавічах (33 вучня ў 1819 г.), Докшыцах (42 вучня ў 1808 г.), мінскай бернардзінскай (88 вучняў у 1819 г.), Століне (103 вучня ў 1819 г.). Дзяўчынкі навучаліся ў трох школах: у Століне (16 дзяўчынак), Докшыцах (8 дзяўчынак), Мядзелі (3 дзяўчынкі) [99,ф.1781,воп.32,спр.147,арк.6,14; 320,s.37-130]. Пераважная колькасць вучняў была шляхецкага паходжання Рымска-Каталіцкага веравызнання, мяшчан была нязначная колькасць, а сяляне навучаліся ў некалькіх школах памешчыкаў.

У школах выкладалі ксяндзы, арганісты і свецкія настаўнікі. Як і ў школах Віленскай дыяцэзіі, навучанне не

выходзіла за межы элементарных ведаў. Школы з пашыраным выкладаннем прадметаў (пачаткі геаграфіі, гісторыі і матэматыкі, лацінская і руская мовы, мараль) былі разлічаны выключна для дзяцей шляхецкага паходжання і часткова мяшчанскага. Аднак і гэтыя школы маглі змяняць свой характар. Так, напрыклад, пачатковая школа ў Стоўпцах у 1819 г. ператварылася ў звычайную бурсу для трох чалавек, дзе бясплатнае элементарнае навучанне спалучалася з прыслугай ў касцёле. Аналагічныя бурсы існавалі пры кляштарах бернардзінцаў (у Нясвіжы, Беразіне), дамініканцаў (у Пінску), камуністаў (у Пінску), бенедыкцінцаў (у Нясвіжы), трынітарыяў (у Крывічах).

Найлепшымі пачатковымі школамі лічыліся двухкласныя навучальныя ўстановы ў Бабруйску, Будславе (бернардзінцаў), Мінску (бернардзінцаў), аднакласныя школы ў Смілавічах (місіянераў) і Глыбокім (кармелітаў босых). Яны маглі параўноўвацца з ніжэйшымі класамі павятовых школ. Школа ў Будславе была закладзена ў 1793 г. У пэўныя часы колькасць яе навучэнцаў дасягала 40 чалавек. Два настаўніка бернардзінца выкладалі ў ёй польскую і лацінскую мовы, геаграфію Расіі і Еўропы, агародніцтва і рэлігію. Гэту школу наведвалі вучні музычнай школы бернардзінцаў, якая існавала з 1756 г.

У Мінскай губерні пачатковай адукацыяй была ахоплена мізерная колькасць дзяцей. Са справаздачы Ю. Твардоўскага вынікае, што з 300.000 сялянскіх мужчынскіх душ губерні адукацыю атрымлівалі каля 150 сялянскіх дзяцей, з іх ліку 103 навучаліся ў столінскай школе графа Пацея [320,s.189-190].

На беларускіх землях Магілёўскай архідыяцэзіі налічвалася 77 парафіяльных школ (табл. 1.12). У іх лік уваходзілі навучальныя ўстановы пры сярэдніх школах у Полацку, Забелах, Чавусах, Чэрыкаве, Магілёве, Мсціславе, Оршы, Талачыне, Чачэрску. Дамінавалі школы, якімі апекаваўся Каталіцкі Касцёл (42 навучальныя ўстановы ці 54,55%), у тым ліку кляштары мелі 27 навучальных установ (35,06%), а дыяцэзіяльнае духавенства - 15 (19,48%). На ўсходзе Беларусі каталіцкія кляштары былі больш актыўнымі ў развіцці пачатковай адукацыі. Дамініканцы апекаваліся 11 школамі, бернардзінцы і кармеліты абутыя – 3, астатнія (місіянеры, піяры,

трынітарыі, канонікі рэгулярныя латэранскія, кармеліты абутыя, францысканцы, езуіты) – 1-2. (табл. 1.13). Колькасць навучэнцаў была ад 1000 у 1811 г.  да 503 у 1813 г. Змяншэнне колькасці школ і вучняў было выклікана наступствамі вайны 1812 г. [157, s.375-378]. Асноўным кантынгентам школ з'яўляліся вучні шляхецкага саслоўя. Многія дзеці наведвалі школы спарадычна ці пакідалі іх яшчэ да канца навучальнага года [157,  s.404].

У 1810-1820-х гадах на Беларусі дзейнічалі ланкастэрскія школы, якія адкрываліся памешчыкамі і дабрачыннымі ўстановамі. Новы метад навучання меў прыхільнікаў сярод каталіцкага духавенства. Узорнай лічылася ланкастэрская школа бернардзінцаў у Мінску (1829 г.), даміканцаў у Стоўпцах (каля 1830 г.), дыяцэзіяльнага духавенства ў Хажове (каля 1830 г.).

Адукацыя для дзяўчынак абмяжоўвалася пачатковай школай і сістэмай пансіёнаў. Дынаміка колькасці дзяўчынак у парафіяльных школах паказвае на яе стабільнасць на працягу першай трэці ХІХ ст. Паводле падлікаў Д. Бавуа, у школах Гродзенскай губерні дзяўчынак налічвалася  116 у 1811г. і 51 у 1813 г. (становішча перад вайной 1812 г. і пасля вайны), у Мінскай губерні – 21 у 1807 г. і 68 у 1811 г., у Магілёўскай губерні – 29 у 1809 г. і 15 у 1810 г., у Віцебскай губерні – 44 у 1808 г. і 91 у 1814 г. За 1816-1821 гг. звесткі адсутнічаюць. Такім чынам, колькасць дзяўчынак у пачатковых школах была вельмі нязначнай [157, s.401]. Хоць паводле статута прыходскіх вучылішчаў 1804 г. для дзяўчынак павінны былі прызначацца асобныя настаўнікі і памяшканні, на самой справе яны навучаліся разам з хлопцамі, што лічылася на той час непрыймальным для вышэйшых слаёў грамадства. Таму ў парафіяльных школах займаліся, як правіла, дзяўчынкі з сямей збяднелай шляхты. Для заможных сямей існавала сістэма пансіёнаў. У адной Вільні было 10 такіх устаноў, дзе ўтрымлівалася 152 дзяўчынкі, у Мінску – 3 установы, кожная з якіх была разлічана на выхаванне ад 3 да 20 дзяўчынак [157, s.399].

Адукацыяй і выхаваннем дзяўчынак займаліся жаночыя кляштары марыявітак, бернардзінак, бенедыкцінак, даміканак, цыстэрак. У сваёй дзейнасці яны кіраваліся дзяржаўным заканадаўствам і дэкрэтамі мітрапаліта С. Сестранцэвіча.

Дзяўчынкі ў пансіёнах утрымліваліся за кошт кляштарных і прыватных фундушаў і за кошт бацькоў. Школа, якая існавала пры жаночым кляштары, мела, як правіла, публічны характар, яе маглі наведваць дзяўчынкі з горада (мястэчка). Навучалі, пераважна, элементарным ведам, мовам ( у тым ліку рускай і французскай), а таксама рукадзеллю, музыцы, добрым манерам, а ў некаторых выпадках, і прафесійным навыкам.

Найбольшую колькасць жаночых кляштараў у Беларусі мелі марыявіткі (13 адзінак). У першай трэці XIX ст. выхаваўча-адукацыйная праца стала адным з галоўных напрамкаў іх дзейнасці. Дэкрэты і распараджэнні арцыбіскупа С. Сестранцэвіча ад 15 ліпеня 1802 г., 21 жніўня 1822 г. і інструкцыя для візітатаркі ў 1813 г. патрабавалі, каб пры кляштарах марыявітак адкрываліся бясплатныя пансіёны, публічныя школы, у якіх маглі навучацца дзяўчынкі любога ўзросту і рэлігіі. У 1820 г. ва ўсіх марыявіцкіх кляштарах у Расіі (17 манаскіх суполак) налічвалася 465 дзяўчынак [178,1820 г., №1, s.34-35].

У кляштарах Мінскай дыяцэзіі ў 1830 г. выхоўвалася каля 96 шляхцянак. У мінскім і слуцкім кляштарах марыявітак меліся платныя канвікты для 21-25 дзяўчынак. У мазырскім пансіёне акрамя элементарных ведаў выкладаліся арыфметыка і геаграфія [170, t. 2, s.146-151]. У Слоніме Гродзенскай губерні ў 1831г. на ўтрыманні кляштара было 7 шляхцянак [98, ф.1, воп.3, спр.1238, арк.6-9]. Акрамя таго, марыявіткі працягвалі апекавцца яўрэйкамі, якія збіраліся прыняць каталіцкую веру, аднак апошніх у палітычнай рэчаіснасці Расійскай імперыі было мала [229, s.130-132].

Жаночыя кляштары шарытак (сясцёр міласэрнасці) мелі школы і выхаваўчыя ўстановы ў Асвеі і Шчучыне. У Шчучыне навучалася ад 26 (у 1820 г.) да 42 (у 1831 г.) дзяўчынак. З іх пэўная колькасць знаходзілася на ўтрыманні кляштара (12 у 1820 г. і 16 у 1831г.), утрымлівалася за свой кошт (6 у 1820 г. і 20 у 1831г.), і прыходзіла ў школу з мястэчка (8 у 1820 г. і 6 у 1831г.). У школе выкладаліся рэлігія, руская і французская мовы, ігра на фартэпіяна, арыфметыка, усеагульная гісторыя, малюнак і рукадзелле. У асвейскім кляштары апекай шарытак было ахоплена ад 54 дзяўчынак (у 1822 г.) да 73 (у 1808 г.). Большая

частка дзяўчынак знаходзілася ў пансіёне за свой кошт (38 у 1808 г.), астатнія былі на прыватных і кляштарных фундушах. У школе выкладаліся тыя ж прадметы, што і ў Шчучыне. У курс музыкі ўваходзіла ігра на гітары, асобна выкладаліся добрыя манеры [98,ф.1,воп.2,спр.103, арк.188; 302,s.188-189].

На тэрыторыі Беларусі існавалі таксама пансіёны пры кляштарах бернардзінак (у Гродне, Слоніме, Брэсце, Мінску), бенедыкцінак (у Слоніме, Нясвіжы, Мінску), цыстэрак (у Кімбараўцы), дамініканак (у Навагрудку). Як і ў іншых школах, тут выкладаліся пачатковыя прадметы, рукадзелле і, ў залежнасці ад мясцовых умоў, замежныя мовы і музыка.

Такім чынам, парафіяльная школа ў першай трэці XIX ст. – гэта перш за ўсё школа, якая знаходзілася пад апекай каталіцкага духавенства. У параўнанні з сярэднімі школамі, якімі апекаваліся кляштары, пачатковыя школы знаходзіліся пераважна пад наглядам дыяцэзіяльнага духавенства. Назіраецца сувязь паміж удзелам ордэнскага духавенства ў арганізацыі сістэмы пачатковай адукацыі і наяўнасцю парафій пры кляштарных касцёлах. На захадзе Беларусі, дзе доля кляштарных парафій найменшая, найменшай з'яўляецца і доля парафіяльных школ пры кляштарных касцёлах, і наадварот, на ўсходзе Беларусі, дзе пераважалі прыкляштарныя парафіі, значна больш было прыкляштарных школ. Найбольш праявілі сябе ў арганізацыі пачатковых школ дамініканцы (28 школ) і бернардзінцы (17 школ), астатнія манаскія ордэны мелі менш за 10 школ (табл. 1.13).

Дамінацыя школ, якімі апекаваўся Касцёл, тлумачыцца, як і ў выпадку з арганізацыяй сярэдніх школ, не столькі экспансіяй Касцёла, а шэрагам аб'ектыўных прычын палітычнага і іншага кшталту. Памешчыкі байкатавалі адкрыццё пачатковых школ, у гарадоў і мястэчак не хапала на іх адкрыццё сродкаў, а насельніцтва не магло ўтрымліваць школы з-за сваёй беднасці [157, s.383-385]. Віленскі універсітэт быў заняты арганізацыяй сярэдніх школ. З іншага боку, каталіцкае духавенства не было зацікаўлена ў развіцці парафіяльных школ, бо для яго гэта было дадатковым абавязкам. Ксяндзам было эканамічна не выгадна ўтрымліваць школы, якія існавалі за кошт парафій.

На беларускіх землях Віленскай дыяцэзіі на 160 парафій прыпадала 123 парафіяльныя школы (76,88%), з іх прыкасцёльных 110 (68,75%). У Мінскай дыяцэзіі на 95 парафій – 106 навучальных устаноў (111,58%), у тым ліку 87 прыкасцёльных (91,58%). На беларускіх землях Магілёўскай архідыяцэзіі адпаведна на 71 парафію (разам з езуіцкімі) прыпадала 77 пачатковых школ (108,45%), з іх 42 прыкасцёльных (59,15%). Аднак многія школы не дзейнічалі стала, былі такія, што функцыянавалі некалькі год. Некаторыя існавалі толькі на паперы.

Неразвітасць сістэмы пачатковай адукацыі тлумачыцца таксама глыбокімі аб’ектыўнымі акалічнасцямі сацыяльнага характару. У структуры тагачаснага грамадства не існавала месца для адукаванага селяніна [80,с.97]. Развіццё пачатковай адукацыі стрымліваў моўны, а часта і рэлігійны бар’ер паміж польскамоўным ксяндзом і беларускім селянінам. Па-за межамі гарадоў праваслаўныя сяляне ўсходнебеларускіх зямель заставаліся не ахопленымі пачатковай адукацыяй.

Дачыненне каталіцкага духавенства да сферы адукацыі аб’ектыўна спрыяла ўзвышэнню яго аўтарытэту, асабліва ў вачах неадукаваных слаёў грамадства. Пачатковая адукацыя нават у такім мізэрным выглядзе давала стымул развіцця асобы, уплывала на фарміраванне светапогляду і гістарычнай свядомасці [33, с.259-263].

# ГЛАВА 4. ФОРМЫ ДЗЕЙНАСЦІ КАТАЛІЦКАГА ДУХАВЕНСТВА

## 4.1. Душпастырская праца

Характэрная рыса Каталіцкага Касцёла - актыўная місіянерская дзейнасць, якая мае багатыя і разнастайныя формы. Адрозніваюцца місіі ўнутраныя, прыстасаваныя для паглыблення і замацавання веры на месцах і знешнія, накіраваныя на працу ў далёкіх рэгіёнах свету. Часткай місіянерскай дзейнасці з’яўляецца пастырская праца. Цэнтрамі пастырскай працы ў даследуемы перыяд былі парафіі, місіі і капеланіі. Капеланіі (ад тэрміна “каплан”, “ксёндз”), утвараліся для пэўных груп ці супольнасцяў вернікаў, якія па тых ці іншых прычынах не маглі атрымаць задавальнення сваіх рэлігійных патрэб у парафіях. Капеланіі былі ў маёнтках, жаночых кляштарах, шпіталях (спецыялізаваных), войску, турмах, сярод сасланых і іншых месцах. Місіі ўяўлялі сабой звычайна кароткачасовыя (разлічаныя на некалькі дзён ці тыдняў) пункты дадатковага пастырскага абслугоўвання вернікаў у парафіі. Місіі, якія стала абслугоўваліся, маглі з цягам часу атрымаць статус парафій. Арганізацыяй капеланій і місій займаліся галоўным чынам кляштары, бо ў дыяцэзіяльнага духавенства не хапала на гэта ні кадраў, ні часу. Акрамя таго, пастырскую дапамогу можна было атрымаць у кляштарных непарафіяльных касцёлах.

Пастырская праца ў парафіях прадугледжвала не толькі здзяйсненне набажэнстваў, абрадаў і сакрамантаў, але і асабістую апеку ксяндза над паствай. Парафіяльны ксёндз павінен быў весці метрычны запіс вернікаў, несці адказнасць за іх рэлігійнае выхаванне, наведваць па дамах, а таксама праводзіць катэхізацыю, арганізоўваць рэкалекцыі (духоўныя практыкаванні), дадатковыя набажэнствы, паломніцтвы да санктуарыяў, фэсты (прастольныя святы) і інш.

Пастырская дзейнасць у парафіях рэгламентавалася мясцовай традыцыяй і распараджэннямі дыяцэзіяльнай улады. Набажэнствы вяліся па богаслужбовых кнігах, якія не змяніліся з часоў Рэчы Паспалітай [277]. Галоўны патрон Польшчы св.

Станіслаў быў абвешчаны таксама апякуном Магілёўскай мітраполіі. Касцёльнае права ў выпадках, калі яно не супярэчыла расійскаму заканадаўству, базіравалася на сінадальным праве, якое дзейнічала ў Рэчы Паспалітай. У дадатковых набажэнствах ужывалася польская мова. У літургічны каляндар не было ўнесена значных змен. Усе рэлігійныя святы святкаваліся як і ў папярэднія часы, а найбольш важныя адзначаліся ў вольныя ад працы дні. Прыдарожныя крыжы і капліцы яшчэ не выклікалі незадавальнення расійскіх улад [219, s.402-404, 444-446, 686-698].

У касцёлах адбываліся розныя віды дадатковых набажэнстваў: прасіцельныя, удзячныя, жалобныя і іншыя. Практыкаваліся набажэнствы за біскупаў і пап, за перамогу рускай зброі над туркамі і французамі, за падаўленне паўстання дзекабрыстаў у 1825 г., за здароўе цара, за вяртанне рымскага папы ў Рым, за добры ўраджай і пазбаўленне ад пагрозы голаду і іншыя. У буйных гарадах праходзілі набажэнствы з удзелам рамесных цэхаў і манаскіх ордэнаў. Працэсіі адбываліся ў адпаведнасці з літургічным календаром і ў выпадках, прадугледжаных працэсіяналам. Пад час набажэнстваў прамаўляліся казанні, а ў канцы службы рабіліся абвесткі на зразумелай для парафіянаў мове [98, ф.486, воп.1, спр.1, арк.67-68; ф.886, воп.1, спр. 3, арк. 26; спр. 6, арк. 16; спр.11, арк. 83 (адв.); спр.7, арк.74 (адв.), 86; спр.10, арк.80; спр.24, арк.12; 99, ф.937, воп.2, спр.51, арк.36-37].

Пастырская праца духавенства знаходзіла адлюстраванне ў арганізацыі рэлігійных брацтваў, члены якіх паглыблялі веру і дапамагалі ў абслугоўванні касцёла. Звычайна ў касцёле братчыкі мелі свой алтар ці капліцу, якія яны даглядалі за свой кошт. Пад кіраўніцтвам ксяндза яны ўдзельнічалі ў дадатковых набажэнствах і маленнях, спецыяльна рыхтаваліся да працэсій і г.д. Брацтвы маглі мець ганаровых членаў, якія валодалі ўплывам у грамадстве і дапамагалі матэрыяльна.

Брацтвы існавалі як пры парафіяльных, так і пры ордэнскіх касцёлах, якія не абслугоўвалі парафіі. Найбольш іх налічвалася ў бернардзінцаў і кармелітаў. У бернардзінскіх касцёлах у Гродне і Слоніме – 4, у Іўе –3, у кармеліцкіх касцёлах у Мядзелі –5, у Глыбокім – 3. Некаторыя брацтвы мелі асобны

дом [238,s.81,94,334; 326,s.464,557]. У доме братчыкаў пінскага касцёла камуністаў жыло 9 убогіх, якія спявалі ў касцёле. У многіх брацтваў не было сваіх фундушаў і яны існавалі за кошт ахвяраванняў.

Кляштары культывавалі брацтвы сваіх святых ці пэўных культаў Маці Божай. Так, дамініканцы, якія пашыралі культ Маці Божай Ружанцовай, практычна пры кожным касцёле мелі Ружанцовае брацтва. Францысканцы пашыралі брацтвы святога Антонія Падуанскага. Ва ўсіх езуіцкіх калегіях існавалі школьныя марыйныя брацтвы (кангрэгацыі), а таксама брацтвы святой Варвары, Сэрца Хрыста, Сэрца Марыі і іншыя. У полацкіх езуітаў дзейнічала 6 брацтваў. Кармеліты абутыя мелі брацтвы ў гонар Маці Божай Шкаплернай, а кармеліты босыя, акрамя таго, брацтвы святога Язэпа. У бернардзінцаў асабліва папулярнымі былі брацтвы Маці Божай Беззаганнай і святой Ганны, а таксама святога Францыска Асізскага, святога Арханёла Міхаіла і іншыя [181, s.196,434,445,524; 238,s.24-442; 207,s.11-391; 206,s.95-314; 316,s.93-97].

Роля брацтваў у пашырэнні і замацаванні каталіцкай веры вялікая. Яны спрыялі распаўсюджванню ў краіне пэўных рэлігійных культаў. Гэта адбывалася ў форме дадатковай рэлігійнай практыкі, арганізацыі розных касцёльных мерапрыемстваў, у тым ліку святаў і паломніцтваў.

Многія касцёлы Беларусі былі цэнтрамі асаблівага ўшанавання Ісуса Хрыста, Маці Божай і святых (санктуарыі). Асабліва распаўсюджаны былі марыйныя асяродкі, якіх налічвалася 80 [329, s.282-313]. Паводле В. Навакоўскага на тэрыторыі Беларусі было 90 цудатворных абразоў Маці Божай. А. Фрыдрых узгадаў 27 абразоў, а С. Баронч – 25 [153, 188,282]. Хутчэй за ўсё, сапраўдная колькасць марыйных цудатворных абразоў была меншай, чым прыведзена ў В. Навакоўскага і большай, чым у А. Фрыдрыха [247,s.102]. І. Ходзька ў Мінскай дыяцэзіі адзначыў 6 цудатворных абразоў і 3 цудатворных скульптуры Хрыста [170, t.1, s.37-176]. Пераважная колькасць касцёлаў з цудатворнымі абразамі знаходзілася ў ордэнскага духавенства, асабліва ў дамініканцаў і бернардзінцаў.

Найбольшай папулярнасцю на Беларусі карысталіся санктуарыі, у якіх знаходзіліся каранаваныя абразы Маці Божай

– у Жыровічах (базыльянаў, каранацыя ў 1730 г.) і Бялынічах (кармелітаў абутых, каранацыя ў 1761г.). Перад абразом Маці Божай Жыровіцкай маліліся амаль усе каралі Рэчы Паспалітай XVII-XVIII ст., а таксама Радзівілы, Сапегі, Войны і іншыя прадстаўнікі магнацкіх родаў Вялікага Княства Літоўскага. Абраз Маці Божай Бялыніцкай называлі Беларускай Чэнстаховай. Святыні ў Жыровічах і Бялынічах мелі агульнабеларускі характар. Папулярным у вернікаў быў таксама касцёл бернардзінцаў у Будславе, абраз Маці Божай з якога быў каранаваны ў 1998 г.

Ролю лакальных санктуарыяў выконвалі ў той ці іншай ступені ўсе касцёлы, якія мелі цудатворныя абразы ці скульптуры. Яны мелі розны тэрытарыяльны ўплыў і значэнне. Усе санктуарыі падзяляліся на тры групы – марыйныя, якіх было больш за астатнія, пакуты Хрыстовай і асобных святых. Сярод другой групы святынь вылучаліся кальварыі – ансамблі станцый (капліц, крыжоў, касцёлаў), якія сімвалізавалі этапы крыжовай дарогі Хрыста. Яны набывалі асаблівае значэнне ў час пасійных набажэнстваў і былі значнымі паломніцкімі месцамі. Кальварыя кармелітаў босых у Мядзелі была заснавана ў 1772 г. У яе склад уваходзіла 21 капліца і 8 брам, пастаўленых у аколіцах касцёла. У кляштары жыло 6 манахаў, якія абслугоўвалі касцёл з цудатворным абразом Маці Божай і кальварыю. Для католікаў Беларусі мела значэнне і кальварыя дамініканцаў у Верках каля Вільні [194, s.308].

Сярод санктуарыяў у гонар святых вылучаліся святыні з ушанаваннем св. Антонія Падуанскага (касцёлы францысканцаў у Нясвіжы, бернардзінцаў у Оршы і Магілёве), іншых санктуарыяў налічваліся адзінкі. У касцёле бернардзінцаў у Нясвіжы ўшаноўваліся рэліквіі св. Праспера, у касцёле кармелітаў босых у Старым Мядзелі – рэліквіі святых Юстына, Юстыны і Плацыды. У аршанскім касцёле бернардзінцаў акрамя абразоў Маці Божай і св. Антонія ўшаноўваўся цудатворны абраз св. Ганны. Цудатворныя абразы Маці Божай мелі і некаторыя касцёлы жаночых кляштараў (бенедыкцінак у Мінску і Нясвіжы, бернардзінак у Мінску і Брэсце і інш. ) [194, s.256].

Санктуарыі ўзмацнялі рэлігійныя пачуцці вернікаў, а ў XIX ст. пачалі адыгрываць важную ролю ў кансалідацыі

католікаў. Невыпадкова сярод першых скасаваных у 1833 г. кляштараў былі асяродкі кармелітаў босых у Мядзелі і кармелітаў абутых у Бялынічах. У першай трэці XIX ст. яшчэ большае значэнне для ўсіх беларуска-літоўскіх зямель пачала набываць Вострая Брама ў Вільні з цудатворным абразом Маці Божай.

Важным бокам пастырскай працы была арганізацыя місій, пад час якіх духавенства дасягала такіх вынікаў, якіх у іншых умовах, з прычыны недахопу часу, яно дасягнуць не магло. Асабліва карыснымі місіі былі ў тых мясцовасцях, звычайна ў вёсках, дзе не было касцёлаў. Місіянеры навучалі і катэхізавалі вернікаў, праводзілі набажэнствы і здзяйснялі таінствы (споведзь, еўхарыстыю, хрост і шлюб). У выніку неабходнасці ў зносінах з вернікамі выкарыстоўвалася беларуская мова. Місіі маглі ахопліваць і уніяцкія прыходы. Асабліва актывізавалася праца місій пад час святкаваннняў Юбілейных гадоў, якія пачынаючы з 1470 г. адзначаліся кожныя 25 гадоў. У даследуемы перыяд Святыя гады святкаваліся ў 1776 г. і ў 1826 г. (у 1800 г. Юбілей не праводзіўся).

У 1772-1793 гг. місіі на ўсходзе і поўначы Беларусі праводзілі езуіты. У кожную нядзелю і свята яны адпраўляліся ў вёскі і на мясцовых мовах (беларускай, латышскай) навучалі асновам веры [194, s.234]. Для адукаваных слаёў насельніцтва езуіты праводзілі рэкалекцыі, якія павінны былі падрыхтаваць вернікаў да велікоднай споведзі. На пачатку XIX ст. вернікі прыступалі да споведзі адзін раз у год – на Вялікдзень [214, s.444,340, s.366].

Новы ўздым місіянерскай дзейнасці манаскіх ордэнаў назіраўся ў сувязі з 700-годдзем ордэна дамінканцаў, якое адзначалася ў 1817 г., і святкаваннем у 1826 г. Юбілейнага года. Найбольш актыўнымі былі езуіты і дамініканцы. Езуіты абышлі з місіямі ўсю ўсходнюю Беларусь. Асабліва вылучаліся місіянеры з Хальчы, Чачэрска, Лазавіцы, Віцебска, Магілёва, Мсціслава. У віцебскім касцёле езуітаў споведзь выслухоўвалі на васьмі мовах, а рэкалекцыі здзяйсняліся на чатырох мовах [340, s.372].

Дамініканцы стварылі некалькі місіянерскіх груп, якія дзейнічалі на тэрыторыі Віленскай дыяцэзіі і Магілёўскай

архідыяцэзі ў 1817-1821 гг. Гэтыя групы ўзніклі са згоды свецкіх улад і ў паразуменні з мітрапалітам С. Сестранцэвічам. Місіі праводзіліся ў Гродне, Ашмянах, Васілішках, Валеўцы, Друі, Полацку, Забелах, Дзярновічах, Лідзе, Наваградку, Магілёве, Кублічах, Ушачы, Астроўне, Оршы, Чашніках, Бабінавічах, Мсціславе, Княжычах, Віцебску і іншых мясцовасцях.

У 1826 г. дамініканцы арганізавалі новыя місіі, якія прайшлі не толькі ва ўсіх дамініканскіх касцёлах, але і ў касцёлах некаторых іншых манаскіх ордэнаў, у дыяцэзіяльных касцёлах, у вёсках, дзе не было касцёлаў і ў некаторых уніяцкіх храмах. Місійная група К. Рыпчынскага за 1826 г. правяла ва ўсходніх губернях Беларусі 17 місій, з іх 7 - ва уніяцкіх прыходах, у якіх катэхізацыя праводзілася па-беларуску. У касцёлах навучанне рэлігіі адбывалася на польскай і беларускай мовах (у Халопенічах, Забелах, Полацку). На юбілейныя набажэнствы прыходзілі праваслаўныя [182, s.171,174,176]. Да арганізацыі місій прычыніліся таксама бернардзінцы, місіянеры і кармеліты босыя ў Глыбокім, але ў параўнанні з езуітамі і дамініканцамі маштабы іх працы былі больш сціплыя.

Тэрыторыя Беларусі была абшарам, з якога рэкрутаваліся кандыдаты для далёкіх місій. Езуіты працавалі ў Пецярбургу, Саратаве, Адэсе, Астрахані, Маздоку, Іркуцку, Томску, Раманаве. У 1820 г. амаль усе яны былі перапраўлены з Расіі ў Аўстрыю, некаторыя з іх былі накіраваны на працу ў розныя краіны, у тым ліку і ЗША [214, s.269-275]. Пасля выгнання езуітаў з Расійскай імперыі іх месцы занялі дамініканцы і бернардзінцы. Яны пасылаліся на працу ў глыб расійскіх зямель. Ксяндзы з іншых манаскіх ордэнаў выкарыстоўваліся ў асобных выпадках. Напрыклад, у 1820 г. на месцы, якія займалі езуіты, былі накіраваны ў Адэсу два кананіка рэгулярных латэранскіх з кляштара ў Слоніме, і ў Саратаў адзін дамініканец з Наваградка [98, ф.1, воп.1, спр.2060, арк.12,15].

Пастырскай працай у капеланіях таксама пераважна займаліся прадстаўнікі ордэнскага духавенства. Капеланамі маглі быць манахі, якія мелі багаты досвед у пастырстве і якія маглі здзяйсняць таінствы. Працяглая адсутнасць манахаў па-за кляштарам адмоўна ўплывала на іх манаскі стыль жыцця, таму правінцыялы не ахвотна пагаджаліся на іх доўгатэрміновую

адлучку. Часам з гэтай прычыны ўзнікалі канфліктныя сітуацыі з мітрапалітам С. Сестранцэвічам. Так, у 1822 г. правінцыял бернардзінцаў не пагаджаўся пакінуць свайго манаха ў адным з касцёлаў Гродзенскага павета [98, ф.886, воп.1, спр.7, арк.64 (адв.)]. Аднак у цэлым правінцыяльнае кіраўніцтва глядзела на працяглую дзейнасць манахаў па-за кляштарам як на вымушаную неабходнасць. Тут улічвалася імкненне захаваць добрыя адносіны з фундатарамі, эканамічна-фінансавыя выгады, значная адлегласць суполкі вернікаў ад касцёла, грамадскае запатрабаванне і патрабаванні дыяцэзіяльнай ці свецкай улады.

Вялікая колькасць капеланій знаходзілася пры панскіх маёнтках. Часам яны маглі атрымліваць статус філіяльных касцёлаў і абслугоўваць не толькі ўладальнікаў маёнткаў і іх прыслугу, але і вернікаў з вёскі. Найбольш дворскіх капеланій мелі дамініканцы, францысканцы і бернардзінцы. Асаблівую актыўнасць у арганізацыі капеланій праяўлялі канвенты бернардзінцаў у Іўі, Мінску, Будславе, Магілёве, Валожыне [194, s.209].

Ордэнскія ксяндзы выконвалі функцыі капеланаў у жаночых кляштарах, дзе яны праводзілі набажэнствы. Часцей капеланамі ў жаночых кляштарах былі манахі з таго ж самага ордэна, што і манашкі. Калі паблізу такіх кляштараў не існавала, манашкі мелі для сабе права выбару капеланаў з іншых ордэнаў.

Звычайна ордэнскія капеланы абслугоўвалі зняволеных у турмах, у якіх рэгулярна праводзіліся набажэнствы. Часта апека над зняволенымі даручалася адразу некалькім кляштарам па чарзе. Рашэнне аб гэтым прымалася дыяцэзіяльным і ордэнскім кіраўніцтвамі у паразуменні з губернскімі ўладамі. Напрыклад, у Гродне мясцовая турма ў 1825 г. была аддадзена пад духоўную апеку кляштарам бернардзінцаў, францысканцаў, кармелітаў босых і дамініканцаў [98, ф.886, воп.1, спр.7, арк.82]. З іх толькі францысканцы мелі сваю парафію ў горадзе.

Як у ваенны час, так і ў мірны прадстаўнікі духавенства выконвалі пастырскія паслугі ў войску. Вайсковыя капеланы былі ў паўстанцкіх атрадах, у арміі Напалеона, у войску Царства Польскага, у Літоўскім корпусе. На вайсковых капеланах ляжала адказнасць за маральны і баявы дух салдатаў і афіцэраў. У іх абавязкі ўваходзіла асвячэнне харугваў, прыняцце прысягі,

прамаўленне казанняў, здзяйсненне таінстваў. У 1825 г. сам Вялікі князь Канстанцін Паўлавіч хадатайнічаў, каб капелану 47 егарскага палка Літоўскага корпуса Віктару Войнічу за яго сумленную працу ў войску дана была ў адміністрацыю гродзенская плябанія. Віленская духоўная кансісторыя ўлічыла просьбу і станоўча вырашыла пытанне [98, ф.886, воп.1, спр.13, арк.81].

Такім чынам, ў 1772-1830 гг. царскія ўлады не чынілі прамых перашкод пастырскай працы каталіцкага духавенства. Яны не ўмешваліся ў сферу рэлігійнага культа, у якім захоўвалася традыцыя і пераемнасць з часоў Рэчы Паспалітай. На беларускіх землях дзейнічалі шматлікія місіі і капеланіі. Праблемы, якія маглі ўзнікаць у пастырскай дзейнасці тлумачыліся наступствамі царскай палітыкі ў іншых пытаннях. Так, напрыклад, выгнанне езуітаў у 1820 г. паставіла пытанне аб іх замяшчэнні іншымі кадрамі. Непажаданым для царскіх улад было таксама правядзенне агульнагарадскіх працэсій, якія не забараняліся, але і не заахвочваліся [98, ф.886, воп.1, спр.15, арк.21].

## 4.2 Пазакультавая дзейнасць

Каталіцкі Касцёл імкнуўся да сацыяльна актыўнай ролі ў грамадстве. Акрамя непасрэднага ўздзеяння на вернікаў праз пастырскія паслугі гэтаму павінна была спрыяць дабрачынная дзейнасць духавенства, а таксама актыўны ўдзел яго прадстаўнікоў у грамадска-палітычным жыцці краіны. Дапамога бліжнім, бедным і хворым заўсёды лічылася найвышэйшай хрысціянскай каштоўнасцю. Уяўлялася, што паколькі Бог так стварыў свет, што ў ім існуюць як бедныя, так і багатыя, то адны патрэбныя для другіх. Віленскі біскуп Я.Н. Касакоўскі ў сваім пастырскім лісце ад 16 ліпеня 1799 г. павучаў, што тыя, хто церпяць галечу знаходзяць сваё выратаванне ў любові бліжніх і міласэрнасці мацнейшшых, а апошнія выратоўваюцца дзякуючы дапамозе бедным і хворым [98, ф.486, воп.1, спр.1, арк.16].

У 1804 г. віленскі біскуп звярнуўся з пастырскім лістом да святарства сваёй дыяцэзіі, якое заклікаў наладзіць кантроль над вакцынацыяй дзяцей ад воспы і даваць рэгулярныя справаздачы аб колькасці прышчэпленых разам з метрыкамі аб хросце [98, ф.886, воп.1, спр.6, арк.6]. Трэба заўважыць, што на пачатку XIX ст. такая вакцынацыя яшчэ шырока не практыкавалася ў Еўропе [273, s.123]. Пад час голаду ў 1823 г. віленская Рымска-Каталіцкая духоўная кансісторыя выдала ўказ аб неабходнасці дапамогі сялянам касцёльных маёнткаў [98, ф.886, воп.1, спр.10, арк.33].

Найбольш распаўсюджанай формай арганізаванай дабрачыннай дзейнасці былі шпіталі, якімі апекавалася духавенства. За выключэннем некаторых, у асноўным гэта былі ўстановы, якія мелі характар прытулкаў для бяздомных і ўбогіх. Сярод іх фундатараў былі біскупы і ксяндзы, многія ўтрымліваліся за кошт вернікаў.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай нагляд за дзейнасцю шпіталяў перайшоў да губернскіх прыказаў грамадскай апекі. У Вільні ў 1797-1808 гг. дзейнічала Шпітальная Камісія на чале з віленскім біскупам Я.Н. Касакоўскім. У яе склад уваходзілі вышэйшыя духоўныя і свецкія саноўнікі. Мэтай камісіі было наладжванне дзейнасці шпіталяў і ўпарадкаванне іх фундушаў. Вынікам яе працы было заснаванне ў Вільні ў 1799 г.

генеральнага шпіталя, як узорнага для астатніх. У 1799 г. віленскі біскуп у пастырскім лісце заклікаў, каб у кожнай парафіі былі арганізаваны шпіталі. Для лепшага над імі нагляду ён прапанаваў арганізоўваць брацтвы міласэрнасці, якія заснаваў у XVI ст. Пётр Скарга [98, ф. 486, воп.1, спр.1, арк.16].

Паводле дакументаў канцылярыі гродзенскага губернатара ў 1823 г. на тэрыторыі Гродзенскай губерні існаваў 71 шпіталь. Большасць з іх не мела фундушаў і ўтрымлівалася за кошт ахвяраванняў вернікаў і ксяндзоў, 5 шпіталяў знаходзілася пры кляштарах. У шпіталях налічвалася ад 1 да 25 убогіх [98, ф.1, воп.2, спр.103, арк.182-197]. Калі ўлічыць, што ў Гродзенскай губерні налічвалася некалькі больш за 100 парафій, то бачна, што шпіталі знаходзіліся ў большасці парафій. Па звестках І.Б. Ходзькі ў Мінскай дыяцэзіі каля 1830 г. дзейнічала 46 парафіяльных шпіталяў, што складала амаль палову ад існуючых у дыяцэзіі 95 парафій [170, t.1, s.211-223; t.2, s.161-167]. Пяць шпіталяў знаходзілася пры кляштарах. Колькасць убогіх у шпіталях была ад 2 да 14 чалавек. Рост колькасці дабрачынных установ у парафіях стрымлівала абмежаванасць на іх фундушаў.

Акрамя шпіталяў існавалі іншыя дабрачынныя ўстановы, у якіх прымалі ўдзел прадстаўнікі каталіцкага духавенства. Асаблівую ўвагу ў гэтай сувязі заслугоўвае Віленскае таварыства дабрачыннасці, якое было створана ў 1807 г. Праект яго арганізацыі належыць віленскаму біскупу Я.Н. Касакоўскаму і доктару Я. Франку, які выкладаў у Віленскім універсітэце. Члены таварыства павінны былі ўносіць грашовыя ўзносы. Біскуп Я.Н. Касакоўскі першым ахвяраваў тысячу польскіх злотых і ў далейшым працягваў матэрыяльна падтрымліваць дзейнасць таварыства. Для бяздомных быў арганізаваны прытулак. Тыя, хто быў у стане працаваць зараблялі грошы на спецыяльна арганізаваных прадпрыемствах. У 1819 г. таварыства заснавала адну з першых у Еўропе ланкастэрскіх школ. Дзякуючы доктару Я. Франку была створана ўстанова, якая пачала займацца паўсямеснай вакцынацыяй дзяцей ад воспы. Па ўзору Віленскага таварыства дабрачыннасці былі створаны аналагічныя ўстановы ў Мінску, Слуцку, Гродне, Брэсце, Навагрудку.

Таварыства дабрачыннасці ў Мінску ўзнікла пры падтрымцы біскупа Я. Дэдэркі, які афіцыйна абвясціў аб яго функцыях і мэтах ў пастырскіх лістах ад 6 студзеня 1810 г. Сам біскуп ахвяраваў на арганізацыю гэтай установы 10 тыс. злотых, такую ж суму ахвяравалі кляштары. Афіцыйнае адкрыццё таварыства адбылося ў 1811 г., але наладзіць сваю дзейнасць яно здолела толькі ў 1820 г. У 1822 г. пры таварыстве быў адкрыты шпіталь.

Слуцкі камітэт таварыства дабрачыннасці, статут якога быў падрыхтаваны ў 1817 г., узначальваў прэлат С. Шантыр. Грашовыя сумы таварыства выкарыстоўваліся на падтрымку бедных вучняў, арганізацыю пачатковых школ і шпіталяў. У 1818 г. С. Шантыр заснаваў на землях прыходскага касцёла ў Слуцку пасяленні для дробнаместачковай шляхты, выдаткаваўшы на рэалізацыю гэтага праекта ўласныя грошы [67].

У сферы дабрачыннасці працавалі шарыткі (сёстры міласэрнасці), якія галоўнай мэтай сваёй дзейнасці лічылі дапамогу хворым, акрамя таго яны займаліся выхаваннем дзяўчынак. У Асвеі Магілёўскай архідыяцэзіі сёстры мелі аптэку і шпіталь, у якім наглядалі за 25 хворымі. На працягу 1819 г. у шпіталі лекавалася 253 хворых, акрамя таго 63 хворым былі аказаны розныя медыцынскія паслугі. За свой кошт манашкі навучалі 19-29 дзяўчынак. У шчучынскім шпіталі Гродзенскай губерні манашкі ўтрымлівалі 6 хворых і выхоўвалі 6-7 сіротаў дзяўчынак [302, s.164,177,188]. Паводле распараджэнняў мітрапаліта С. Сестранцэвіча апекавацца хворымі ў шпіталях павінны былі марыявіткі. Аднак апошнія аддавалі перавагу выхаванню дзяўчынак. У 1820-х гадах марыявіткі даглядалі хворых у слуцкім і мінскім шпіталях.

Побач з цалкам легальнымі формамі сацыяльнай дзейнасці Касцёла, асобныя яго прадстаўнікі прымалі ўдзел у апазіцыйнай царскаму ўраду дзейнасці. Яны выступалі супраць расійскага панавання і за аднаўленне Рэчы Паспалітай.

Ужо ў 1794 г. частка духавенства аказала падтрымку паўстанцам, некаторыя асобы прынялі непасрэдны ўдзел у паўстанні. Гэта спрыяла ўзнікненню рэлігійных форм выяўлення патрыятычных пачуццяў, такіх як патрыятычныя набажэнствы і

казанні, выкарыстанне рэлігійна-патрыятычнай сімволікі і інш. Бліжэйшымі паплечнікамі Т. Касцюшкі былі члены Нацыянальнай найвышэйшай рады ксяндзы Гуга Калантай і Францішак Дмахоўскі. Крайнім радыкалізмам поглядаў адрозніваліся ксяндзы Меер і Фларыян Ельскі, які навучаўся ў наваградскай езуіцкай калегіі. Сярод актыўных палітычных дзеячоў на землях былога Вялікага Княства Літоўскага былі канонік Віленскай кафедры кзёндз Міхаіл Длускі, Міхаіл Карповіч, вядомы прапаведнік і член паўстанцкага ўрада, а таксама віленскі прэлат Францішак Ксаверый Богуш і піяр Філіп Галінскі, які быў рэдактарам "Віленскай народнай газеты". Вялікую дапамогу аказалі параненым паўстанцам віленскія кляштары [196, s.161].

Шэраг ксяндзоў у 1794-1797 гг. выказалі пратэст расійскім уладам у форме адмовы ад прысягі, у напісанні і прамаўленні антыцарскіх казанняў і лістоў, а таксама сваімі дэманстрацыйнымі паводзінамі. У іх ліку былі дамініканцы Леанід Булгак і Тамаш Сіліч, сасланыя ў 1795 г. у Сібір [114, с.33]. Ксяндзы Грабніцкі і Ядкоўскі з Гродна атрымалі вымову. Першы з іх быў высланы за мяжу, а другі зняволены на некалькі месяцаў у кляштары. За мяжу таксама былі высланы ксяндзы Заянчкоўскі і Церпішэўскі [344, s.267]. Царскія ўлады імкнуліся пазбавіцца ад тых асоб, якія выклікалі ў іх падазрэнне. Ксяндзы Аленскі і Крупоўскі былі высланы ў войска за чытанне і распаўсюджванне замежных газет [278, s.16]. Пад спецыяльны нагляд былі ўзяты ксяндзы Віленскай дыяцэзіі Карповіч, Дмухоўскі, піяр Тамашэўскі і кармеліт айцец Гаўрыіл [117, с.241].

Апазіцыйныя настроі супраць захопу зямель Рэчы Паспалітай выказалі піяры. Не выпадкова Кацярына ІІ ва ўказе ад 8 снежня 1792 г. прадпісала генералу Крачэтнікаву зрабіць перапіс піяраў і учыніць над імі нагляд "по причине вредного их учения, основанного на буйственных началах новейшего французского суемудрия" [102, т.XXIII, с.388]. У 1795 г. піярам Віленскай губерні было прадпісана сабрацца ў сваіх кляштарах і без спецыяльнага дазволу не пакідаць іх [114, с.284]. У 1795 г. піяры Лапацінскі і Адамовіч з Ліды былі арыштаваны, высланы ў кармеліцкі кляштар у Чавусах, а потым у Пецярбург і далейшы

іх лёс невядомы. У 1796 г. за “дёрзскія словы” супраць Кацярыны II быў высланы за мяжу піяр Снарскі. У тым жа годзе за “дёрзскія ўчынкі”, лаянне ўрада і неўчыненне прысягі быў асуджаны на зняволенне ў гродзенскім кармеліцкім кляштары, а потым высланы за мяжу піяр Жыдзейка [114,с.270,306]. Гэта былі выпадкі асабістага непадпарадкавання духавенства. Іх акцыі не мелі характару змовы, за іх плячыма не было выяўлена асоб, якія б складалі пэўную арганізацыю.

Найбольш гучнай антырасійскай справай канца XVIII ст., па якой праходзілі прадстаўнікі каталіцкага духавенства, была справа так званай Віленскай асацыяцыі – тайнай арганізацыі, галоўнай мэтай якой было адраджэнне ў межах 1772 г. Рэчы Паспалітай. Асацыяцыя існавала з вясны 1796 г. да восені 1797 г. і за такі непрацяглы час не паспела развіць актыўную дзейнасць. Арышт удзельнікаў асацыяцыі адбыўся на стадыі яе фарміравання, калі распрацоўваліся статутныя дакументы, наладжваліся сувязі з іншымі тайнымі арганізацыямі і вёўся пошук новых членаў. У спісах Віленскай асацыяцыі былі тры духоўныя асобы – прыёр віленскага дамініканскага кляштара Фаустын Цяцерскі, спаведнік у віленскім кляштары бенедыкцінак бенедыкцінскі манах ксёндз Вацлаў Зюлкоўскі і прыёр трынітарскага кляштара ў Берасцечку Валынскай губерні Аўрэлій Дамброўскі. З імі падтрымліваў сувязі місіянер, выкладчык Галоўнай Віленскай школы ксёндз Тамаш Гусажэўскі [219, s.203]. Гэтыя ксяндзы прымалі актыўны ўдзел у стварэнні арганізацыі і распрацоўцы асноўных накірункаў яе дзейнасці. Адным з духоўных натхняльнікаў асацыяцыі з’яўляўся ксёндз Фаўстын Цяцерскі, які яшчэ пад час паўстання 1794 г. меў тайныя сувязі з паўстанцамі. Яму належыць заслуга ў арганізацыі адгалінавання таварыства ў Мінску і наладжванні кантактаў з суполкамі Львова і Варшавы; ён быў ініцыятарам прызначэння кіраўніком асацыяцыі ксяндза А. Дамброўскага.

Ксяндзы, якія ўваходзілі ў склад тайнай арганізацыі, мелі прамое дачыненне да напісання Статута асацыяцыі (“Акта Віленскага паўстання”) і “Артыкулаў членаў асацыяцыі”. Віленская асацыяцыя мела свае адгалінаванні ў Гродне, Кобрыне, Брэсце, Ашмянах і іншых месцах. Члены асацыяцыі былі асуджаны і сасланы ў Сібір. У 1801 г. яны атрымалі

амністыю. Ксёндз Фаўстын Цяцерскі ў ссылцы працаваў настаўнікам на мяжы з Кітаем [253, s.133-134]. У 1806 г. ён напісаў дзённік успамінаў, які ў 1865 г. быў надрукаваны ў Львове. Пасля вяртання на радзіму Ф. Цяцерскі займаўся справамі свайго ордэна, у якім ён займаў адказныя пасады прыёра Забельскага кляштара (1804-1810 гг.), правінцыяла Літоўскай правінцыі (1817-1824 гг.) і візітатара дамініканскіх кляштараў (з 1824 г.).

У цэлым каталіцкае духавенства ў канцы XVIII ст. не аказала выразнай апазіцыі расійскім уладам. У адпаведнасці з патрабаваннямі ксяндзы прыводзілі да прысягі вернікаў, а ў касцёлах, паводле прынятай формы, маліліся за Кацярыну II і яе пануючы дом [14, кп 957]. Адміністратар Віленскай дыяцэзіі ксёндз Пільхоўскі ў 1795-1796 гг. у пастырскіх лістах заклікаў да паслушэнства ўладам нават у звычайных штодзённых размовах [344, s.271].

На стаўленне каталіцкага духавенста да царскіх улад уплывалі розныя, часам супярэчлівыя акалічнасці. З аднаго боку, яно было напалохана наступствамі французскай рэвалюцыі, ахвярамі паўстання 1794 г., сярод якіх былі віленскі біскуп І. Масальскі і інфлянцкі біскуп Я.Н. Касакоўскі, рэквізіцыяй паўстанцамі касцёльных каштоўнасцей. У той жа час адносіны Касцёла да свецкіх улад не могуць быць вычарпаны фармалізаванымі выразамі пакоры (прыняцце вернападданніцкай прысягі, малітвы за пануючы дом Раманавых і інш.). У канцы XVIII ст. не быў зразумелы да канца далейшы спосаб жыцця ў новых палітычных умовах, існавала надзея захавання асаблівага палітычнага статусу зямель былой Рэчы Паспалітай, у тым ліку Вялікага Княства Літоўскага. На пазіцыю каталіцкага духавенства моцна ўплывалі настроі шляхты, імкненне захаваць уплыў на сваіх вернікаў, канкурэнцыя з боку дзяржаўнай праваслаўнай царквы і іншыя фактары.

У большасці сваю стрыманую пазіцыю каталіцкае духавенства працягвала захоўваць і ў час французскай інтэрвенцыі. Як і раней, у 1812 г. некаторыя прадстаўнікі духавенства выказвалі свае апазіцыйныя настроі, а астатняя частка працягвала захоўваць нейтралітэт. Істотным фактарам, які ўплываў на пазіцыю духавенства, было тое, што магілёўскі

арцыбіскуп мітрапаліт С. Сестранцэвіч і кіруючы справамі Віленскай дыяцэзіі знаходзіліся ў расійскім стане, а таксама канфлікт Напалеона з папам, ліквідацыя папскай дзяржавы. Акрамя таго, у адрозненне ад польскіх зямель, беларуская шляхта аднеслася стрымана ў стасунку да патрыятычных заклікаў новых органаў кіравання. На ўсходзе Беларусі непрыхільнымі да Напалеона заставаліся езуіты [220, s.264]. Усе езуіцкія калегіі былі заняты французамі пад вайсковыя шпіталі і казармы, пацярпелі кляштары іншых манаскіх ордэнаў і асобныя касцёлы [340, s.344,353,361,368,372; 207, s.282; 170, t.1, s.55,64,121,128].

Створаны французскімі ўладамі Камітэт асветы і рэлігіі, у які ўваходзілі адзін рымска-каталіцкі і адзін уніяцкі біскупы, нагадваў расійскія дзяржаўныя ўстановы, якія кантралявалі дзейнасць Касцёла. У функцыі Камітэта ўваходзіў нагляд над кляштарамі, парафіямі і парафіяльнымі школамі, кантроль прызначэнняў на касцёльныя пасады, збор статыстычных звестак. Апошняе выклікала асаблівае незадавальненне мясцовага духавенства, у сувязі з чым Камітэт вымушаны быў выступіць з адмысловым зваротам [220, s.265-266].

Сярод вышэйшага духавенства справу аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага адкрыта падтрымалі некалькі асоб. Віленскі прэлат М. Длускі вылучаўся прамаўленнем патрыятычных казанняў. Мінскі біскуп Якуб Дэдэрка прымаў актыўны ўдзел ва ўсіх урачыстасцях, якія праводзілі ў Мінску новыя ўлады, заняў рэзідэнцыю праваслаўнага епіскапа. Ён прыняў прысягу на вернасць Напалеону ў Глыбокім, далучыўся да "Мінскай канфедэрацыі", якую абвясціў у кафедральным касцёле 19 ліпеня 1812 г. [177, s.65,68]. Паводле ўказа Напалеона і распараджэння мінскага біскупа ва ўсіх касцёлах Мінскай дыяцэзіі адбываліся ўрачыстыя набажэнствы ў гонар французскіх перамог і захопу Масквы [99,ф.937,воп.2,спр.51,арк.114-115]. 14 ліпеня 1812 г. падчас урачыстага падпісання ў Вільні акта Генеральнай канфедэрацыі набажэнства праводзіў біскуп Адам Касакоўскі. Ён жа ўваходзіў у склад Камітэта асветы і рэлігіі часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага.

У парафіяльных касцёлах чыталіся звароты французскіх улад і мясцовых органаў кіравання. Некаторыя з іх утрымлівалі заклікі ў падтрымку польскай нацыянальнай ідэі. У адным з такіх зваротаў сцвярджалася наступнае: "Польская духоўнасць заўсёды паказвала сведчанні сапраўднай любові да Айчыны і зараз у нашай краіне, якая аднаўляецца, мы бачым стараннасць духавенства ў справе на карысць Айчыны, як гэта духавенства імкнецца далучыцца да яе быту і не шкадуе на гэту мэту ніякіх ахвяр" [98, ф.886, воп.1, спр.6, арк.28-29].

Падобныя дакументы не выходзілі з касцёльных колаў. Асноўная маса кліра, як адзначаюць польскія даследчыкі [177,s.69; 219, s.204; 220, s.267], не была падрыхтавана да ўсведамлення значнасці польскай патрыятычнай ідэі. У гарадскім асяроддзі з большым спачуваннем ставіліся да патрыятычных заклікаў. У вясковых парафіях, асабліва размешчаных у атачэнні праваслаўных і уніяцкіх прыходаў, ксяндзы маглі быць незразумелымі для сялян.

Новая хваля патрыятычных настрояў на беларускіх землях назіралася ў сувязі са смерцю 15 кастрычніка 1817 г. Тадэвуша Касцюшкі. Жалобныя набажэнствы з гэтай нагоды працягваліся з лістапада 1817 г. па сакавік 1818 г. Каталіцкіх вернікаў, прынамсі ў Вільні, падтрымалі пратэстанты, іудзеі, мусульмане. Асабліва ўрачыстыя набажэнствы адбыліся ў Наваградку. Мясцовы касцёл францысканцаў быў аздоблены партрэтамі Т. Касцюшкі, Т. Рэйтана, Я. Ясінскага і Я. Корсака, у казанні прысутнічалі патрыятычныя матывы [223, s.179]. Усе мерапрыемствы ў памяць Т. Касцюшкі былі дазволены расійскімі ўладамі і таму не маглі мець выразна апазіцыйны характар.

Некаторыя ксяндзы ўваходзілі ў склад масонскіх ложаў. Масонскі рух пачатку XIX ст. адрозніваўся шырокім характарам. У яго шэрагах былі прадстаўнікі арыстакратыі і шляхты, мясцовай адміністрацыі, а таксама чыноўнікі, мяшчане, выкладчыкі, урачы, аптэкары, дзеячы мастацтваў, вайскоўцы і купцы. Істотную ролю ў дзейнасці літвінскіх масонаў займалі філантрапійныя акцыі і навукова-асветніцкая праца. Пад прыкрыццём легальных дзеянняў масоны абмяркоўвалі такія пытанні, як ліквідацыя прыгонніцтва, неабходнасць палітычных

рэформаў, аднаўленне Рэчы Паспалітай. Сярод масонскіх ложаў не існавала адзінства, метады ажыццяўлення планаў і канкрэтныя формы працы ў асяроддзі розных ложаў істотна адрозніваліся [38, с.78-89; 143, с.64-75].

На тэрыторыі Беларусі актыўны масонскі рух назіраўся ў 1816-1821 гг. Масонскія ложы дзейнічалі ў Мінску (“Паходня Поўначы”, “Гара Табар”), Нясвіжы (“Шчаслівае вызваленне”, “Святыня пакою”), Слуцку (“Уладзіслаў Ягайла”), Гродне (“Сябры чалавецтва“), Наваградку (“Вузел лучнасці”) [98, ф.1, воп.1, спр.2860, арк.3-3 (адв.); 274, s.34-60]. У склад масонскіх ложаў уваходзілі слонімскі дэкан Франц Гадлеўскі, віленскі прэлат Міхаіл Длускі і іншыя ксяндзы [6, с.10; 38, с.96; 292, s.147].

Найбольшая колькасць каталіцкага духавенства была прадстаўлена ў віленскіх ложах. У 1816 г. сярод віленскіх масонаў было 8 ксяндзоў і адзін біскуп. Сярод іх такія вядомыя асобы, як Ф. Нарвойш, А. Доўгірд, біскуп суфраган М. Пузыня і іншыя [274, s.17]. Асабліва вылучаўся ксёндз М. Длускі. У 1817 г. была надрукавана яго брашура “Ліст рабіна Лісабонскага да рабіна Брэсцкага”, у якой сцвярджалася, што Хрыстос быў масонам [99,ф.1781, воп.28, спр.68, арк.1-1(адв.)]. Прапаганда масонскіх ідэй некаторымі ксяндзамі выклікала хвалю пратэсту сярод іншых прадстаўнікоў каталіцкага духавенства. Былі ўзгаданы булы, якія асуджалі масонства (ад 28 сакавіка 1738г., 18 мая 1751 г., 13 сакавіка 1826 г.), акрамя таго ўзнікла палемічная літаратура [292,s.143-159].

Хваля пашыранага масонскага руху выклікала занепакоенасць імператара Аляксандра І, які ўказам ад 1 жніўня 1821 г. абвясціў аб неабходнасці закрыцця масонскіх лож. Канчаткова ложы прыпынілі сваю дзейнасць у 1823 г. Масонскі рух на беларуска-літоўскіх землях спрыяў радыкалізацыі грамадства і ўзнікненню тайных таварыстваў [143, с.75].

Такім чынам, каталіцкае духавенства ў даследуемы перыяд адыгрывала прыкметную ролю ў жыцці грамадства. Яно мела магчымасць здзяйсняць розныя віды харытатыўнай дзейнасці, арганізоўваць прытулкі, шпіталі, інтэрнаты, удзельнічаць у дабрачынных таварыствах, ахвяраваць грашовыя сродкі на сацыяльныя патрэбы. Некаторыя прадстаўнікі

духавенства выказвалі апазіцыйныя палітычнаму рэжыму настроі праз асабістыя ўчынкі, удзел у паўстанні Т. Касцюшкі, дзейнасць у тайных таварыствах і масонскіх ложах, праз супрацоўніцтва з французскімі акупацыйнымі ўладамі і інш.

Палітычную дзейнасць асобных прадстаўнікоў каталіцкага духавенства нельга атаясамліваць з пазіцыяй Касцёла, які ў цэлым заставаўся лаяльным да расійскіх улад. У той жа час дзеянні палітычна актыўнай часткі духавенства, адлюстроўвалі настроі ў грамадстве беларуска-літоўскіх зямель і аб’ектыўна аказвалі на яго ўплыў.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Прававы статус Каталіцкага Касцёла на беларускіх землях разглядаўся царскімі ўладамі ў сувязі з пытаннем замацавання гэтых зямель у складзе Расійскай імперыі. Распрацоўка заканадаўчай базы ў дачыненні да Касцёла здзяйснялася ў адпаведнасці з прынцыпам прымата дзяржавы над царквой і ў галоўных рысах была завершана да 1825 г. Яна змяніла папярэдні статус Касцёла і шмат у чым супярэчыла яго традыцыям і канонам. У той жа час, нягледзячы на стварэнне некананнічных для Касцёла інстытутаў, яму ўдалося захаваць сувязі з Рымам і свае адміністрацыйныя структуры. Найбольш важныя пытанні, якія тычыліся дыяцэзіяльнай арганізацыі (заснаванне дыяцэзій і прызначэнне дыяцэзіяльных біскупаў) павінны былі, каб набыць кананічную моц, зацверджаны Апостальскай Сталіцай. Спецыфіка ўнутранага і знешняга палітычнага становішча Расійскай імперыі таксама спрыяла падтрымцы дыпламатычных сувязей Пецярбурга з Рымам. Важную ролю ў захаванні стабільнага становішча Касцёла адыграла асоба мітрапаліта С. Сестранцэвіча.

Царскія ўлады правялі дыяцэзіяльную рэарганізацыю, якая праводзілася без узгаднення з мясцовым духавенствам. Дыяцэзіяльныя адзінкі ствараліся ў адпаведнасці з губернскімі і павятовымі межамі. У выніку адбылося значнае ўзмацненне дыяцэзіяльных структур: павялічылася колькасць дыяцэзій, дэканатаў і парафій. Біскупы атрымалі магчымасць часцей наведваць касцёлы, а дэканы – узмацніць кантроль над парафіяльным духавенствам. Аб'ектыўна гэта спрыяла павышэнню рэлігійнасці і ўзмацненню пазіцый Касцёла.

Фарміраванне прававога поля дзейнасці манаскіх ордэнаў адбывалася пад уплывам супрацьстаяння мітрапаліта С. Сестранцэвіча, які выступаў за поўнае падпарадкаванне кляштараў сваёй уладзе, з езуітамі, якія дамагаліся незалежнасці ад яго ўлады. У выніку манаскія ордэны захавалі сістэму сваёй арганізацыі і атрымалі аўтаномію ад дыяцэзіяльных біскупаў. Ордэнскаму духавенству было забаронена падтрымліваць афіцыйныя сувязі з замежнымі цэнтрамі і займацца пераводам у каталіцтва вернікаў іншых канфесій. Да 1829 г. дзяржава не

ўмешвалася ва ўнутрыманаскае жыццё. Кляштары захавалі магчымасць дзейнічаць у адпаведнасці з ордэнскімі правіламі, іх агульная колькасць, без уліку езуіцкіх асяродкаў, заставалася стабільнай (143 каля 1772 г. і 147 у 1820-х гадах). Асноўным накірункам дзейнасці манаства было пастырства. На ўсходзе Беларусі дамінавалі парафіі, якімі апекавалася манаства. Нармальнае функцыяніраванне каталіцкіх кляштараў сведчыць аб адсутнасці памкненняў з боку ўлад гвалтоўна разбураць арганізацыйную структуру Касцёла. Пытанне, якое тычыцца захавання і выгнання езуітаў мае іншую палітычную падаплёку і таму яго нельга разглядаць у сувязі са становішчам іншых манаскіх ордэнаў. Выгнанне езуітаў не паўплывала на пазіцыю расійскіх улад у адносінах да кляштараў іншых манаскіх груп.

Каталіцкі Касцёл захаваў сістэму сваіх навучальных установ – духоўных і публічных. Школы для духавенства з’яўляліся часткай адукацыйнай прасторы на беларускіх землях. Духавенства працягвала адыгрываць вядучую ролю ў развіцці сярэдняй і пачатковай адукацыі на беларускіх землях. Такое становішча тлумачылася шэрагам абставін. Каталіцкае духавенства мела высокі інтэлектуальны патэнцыял. Сістэма навучання духавенства захавала пераемнасць з часоў Рэчы Паспалітай. Школы пры навіцыятах, студыі, полацкая Акадэмія і духоўныя семінарыі рыхтавалі высокаадукаваныя кадры. Арганізаваныя каталіцкім духавенствам школы падтрымлівала шляхта, царскі ж урад не меў магчымасцей замяніць мясцовыя школы сваімі навучальнымі ўстановамі. Да 1825 г. дзяржава заахвочвала Касцёл да школьнай дзейнасці. Аднак праца ў сферы публічнай адукацыі супярэчыла манаскім правілам. Толькі ў езуітаў і піяраў, а з 1809 г. у дамініканцаў яна ўваходзіла ў лік манаскіх заслуг. Школы, якімі апекавалася манаства складалі больш за 40% ад агульнай колькасці сярэдніх школ. Акрамя сярэдніх школ, пад апекай каталіцкага духавенства, пераважна дыяцэзіяльнага, знаходзілася каля 90% усіх пачатковых школ.

Касцёл захаваў свабоду ў арганізацыі рэлігійнага жыцця. Царскія ўлады прытрымліваліся абавязацельстваў, якія тычыліся свабоды адпраўлення каталіцкага культу. Яны не парушалі ў гэтай галіне грамадзянскіх правоў вернікаў, галоўным

выразнікам якіх была шляхта. На беларускіх землях працягвалася living рознабаковая пастырская праца каталіцкага духавенства ў парафіях, капеланіях, місіях. Дыяцэзіяльнае і ордэнскае духавенства здзяйсняла разнастайныя набажэнствы, абрады і сакраманты паводле мясцовай традыцыі і польскага сінадальнага права XVIII ст.

Каталіцкае духавенства імкнулася да сацыяльна-актыўнай ролі ў грамадстве і ўдзелу ў грамадска-палітычным жыцці, аднак у палітычных умовах расійскай дзяржавы гэта сфера дзейнасці для яго значна звузілася. З гэтай прычыны асаблівае значэнне для духавенства набыла дабрачынная дзейнасць, якая адпавядала хрысціянскім дабрадзейнасцям і не толькі не забаранялася, але нават заахвочвалася расійскім заканадаўствам. Каталіцкае духавенства беларускіх зямель фарміравалася пераважна з ліку мясцовага насельніцтва і таму адлюстроўвала яго настроі. Прадстаўнікі духавенства ўваходзілі ў склад масонскіх арганізацый, некаторыя прымалі ўдзел у апазіцыйных ураду акцыях. У розных формах яны выказвалі акты асабістага непадпарадкавання расійскім уладам, удзельнічалі ў вызваленчым руху. Аднак апазіцыйная дзейнасць духоўных асоб не адлюстроўвала афіцыйную пазіцыю Касцёла, які ў цэлым заставаўся лаяльным да царскіх улад.

# ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

**Біскуп дыяцэзіяльны (ардынарый)** – паводле касцёльнага права, біскуп, які ўзначальвае дыяцэзію (біскупства).

**Біскуп суфраган -** памочнік біскупа ардынарыя.

**Вікарый** – ксёндз, які дапамагае пробашчу (настаяцелю касцёла).

**Дыяцэзія -** эквівалент біскупства.

**Дэкан** – пробашч, ксёндз, які ўзначальвае дэканат.

**Дэканат** – адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка дыяцэзіі, якая аб’ядноўвае пэўную колькасць парафій.

**Зарок манаскі** – абавязацельства кандыдата ў манаскі стан выконваць усе кляштарныя правілы і жыць паводле евангелічных запаветаў убоства, паслухмянасці і цнатлівасці.

**Калегіята** - касцёл без кафедральнага статусу з капітулай.

**Кальварыя -** месца культу, ансамбль станцый (капліц, крыжоў, касцёлаў), якія сімвалізуюць этапы крыжовай дарогі Хрыста.

**Канвікт -** інтэрнат для вучняў шляхецкага паходжання пры публічных сярэдніх школах, якімі апекавалася каталіцкае духавенства.

**Кангрэгацыя -** у даследуемы перыяд адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў некаторых манаскіх ордэнах, эквівалент правінцыі. У бенедыкцінцаў адрозніваецца аўтаноміяй і мае выбранае кіраўніцтва з абмежаванымі правамі. Таксама назва рэлігійнага брацтва ў езуіцкіх калегіях.

**Канонік** – член капітулы.

**Кансісторыя** – калегіяльны кіраўніцкі апарат духоўных асоб пры дыяцэзіяльным біскупе.

**Канстытуцыя** – дадатковы да Статута збор правілаў, які рэгламентуе штодзённае жыццё манаскай абшчыны.

**Капелан** – ксёндз, які выконвае святарскія паслугі ў касцёлах і капліцах закрытага тыпу (напрыклад, у кляштарах) ці дэлегаваны для абслугі асобнай рэлігійнай групы.

**Капітула** – рада канонікаў пры кафедральным касцёле. Таксама калегіяльнае кіраўніцтва ў структуры манаскіх ордэнаў.

**Капліца** – памяшканне для літургічных мэтаў, асобнае ці ў касцёле. Таксама прыдарожны крыж з выявай ці фігурай Хрыста, Маці Божай, альбо святога.

**Клаўзура** – права, якое забараняе ці абмяжоўвае ўваход у кляштар чужым і тэрыторыя, якая падлягае гэтаму праву.

**Клерык** – вучань духоўнай семінарыі.

**Клір** – агульная назва дыяцэзіяльнага духавенства.

**Конверс** - манах, які не мае святарскага сану.

**Курыя дыяцэзіяльная** – управа пры дыяцэзіяльным біскупе.

**Навіцый** – член манаскай суполкі, які не прыняў зарокі.

**Навіцыят** – перыяд іспытаў і падрыхтоўкі да манаскага жыцця, а таксама месца знаходжання ў кляштары.

**Ордэн манаскі** – кананічна зацверджанае аб'яднанне рэлігійнай абшчыны, члены якой жывуць разам паводле аднолькавых правілаў (Статута, Канстытуцыі і інш.) і, найчасцей, пад агульнай уладай. Знаходзіцца на папскім ці дыяцэзіяльным праве. Мае ўласную арганізацыйную структуру.

**Правінцыял** – кіраўнік правінцыі манаскага ордэна.

**Правінцыя касцёльная** – адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка дыяцэзіяльнай структуры Касцёла. Аб'ядноўвае пэўную колькасць дыяцэзій у мітраполію. Узначальваецца мітрапалітам, які з'яўляецца арцыбіскупам сваёй дыяцэзіі (архідыяцэзіі).

**Правінцыя ордэна** манаскага – адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ордэнскай структуры касцёла. Аб'ядноўвае пэўную колькасць кляштараў. Узначальваецца правінцыялам.

**Пробашч**, **плябан** – настаяцель парафіяльнага касцёла. Да XIX ст. тытул пробашча мелі толькі некаторыя кіраўнікі парафій.

**Пробства** – парафія (прыход) на чале з пробашчам.

**Рэкалекцыі** – духоўныя практыкаванні і разважанні і перыяд, пад час якога яны адбываюцца.

**Санктуарый** – месца культу асаблівага ўшанавання Хрыста, Маці Божай і асобных святых.

**Статут манаскі** – найстаршы пісаны збор правілаў манаскага жыцця. Мае агульны характар і прыстасоўваецца для мясцовых умоў праз Канстытуцыю.

**Студыя манаская** – навучальная ўстанова закрытага тыпу для манахаў.

**Фармацыйны дом** – частка кляштарных памяшканняў, у якіх адбываецца падрыхтоўка кандыдатаў у манаскі стан (навіцыят і студыя).

**Фармацыя манаская** – перыяд выхавання адэптаў манаскага жыцця, які павінен ім дапагчы ў асваенні духоўнасці ордэна, яго звычаяў і практыкі.

**Юбілейны год** – перыядычнае святкаванне на працягу года (звычайна адзін раз у 25 гадоў), пад час якога вернікі атрымліваюць дадатковыя магчымасці для адпушчэння грахоў і атрымання Божай ласкі.

# СПІС ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ

1. Адамовіч С. Занядбаная святыня. З гісторыі касцёла Зембінскага дамініканскага кляштара // Наша вера. – 1999. - № 1. – С. 60-63.

2. Адамовіч С. Комплекс пінскага езуіцкага кляштара // Наша вера. – 1999. - № 3. – С. 32-36.

3. Адамовіч С. Пінскія камуністы // Беларуская мінуўшчына. – 1997. - № 3. – С. 57-59.

4. Акты и грамоты об устройстве и управлении Римско-Католической церкви в империи Российской и Царстве Польском. – СПб.: тип.2 отд.соб.Е.И.В.канц., 1849. - 240 с., 25 с.

5. Андреев А.Р. История ордена иезуитов. Иезуиты в Российской империи. XVI - начало XIX века. – М.: "Русская панорама", 1988. – 281 с.

6. Анішчанка Я. Вольныя муляры // Беларуская мінуўшчына. – 1996. - № 3. – С. 8-10.

7. Анішчанка Я.К. Беларусь у часы Кацярыны II (1772-1796 гады) / Пад. Рэд.У.А.Сосны. – Мн.: ЗАО "Веды", 1998. – 212 с.

8. Анішчанка Я.К. Канфесійнае становішча ў Магілёўскай і Полацкай губернях (70-80-я гады XVIIIст.) // Весці Акад. навук Беларусі. Сер. гуманітар навук. – 1994. - № 4. – С. 51-60.

9. Арлоў У.А. Таямніцы полацкай гісторыі. – Мн.: Беларусь, 1994. – 463 с.

10. Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. – Вильна: тип. А.Г.Сыркина, 1904. – Т.14. – 229 с.

11. Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: Са старажытных часоў да 1917г. / Ткачоў А.М., Пасэ У.С., Сянькевіч Г.Р. і інш.; Пад рэд. М.А.Лазарука і інш. – Мн.: Нар.асвета, 1985. – 464 с.

12. Барыс С. Адраджэнне рэлігійнага жыцця ў Беларусі // Беларускі гістарычны часопіс. – 2004. – № 5. – С.16-27.

13.Батюшков П.Н. Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края. – Спб.: изд. Батюшков П.Н., 1890. - 351 с.

14.Беларускі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі (сучасная назва Гродзенскі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі), кп 957, 3600, 12147, 15758.

15.Белецкий А. Исторический обзор деятельности Виленского учебного округа за первый период его существования. 1803-1832 г. Отд.3. Учебные заведения Витебской и Могилёвской губерний в 1803-1832 г. – Вильна: тип. А.Г.Сыркина, 1908. – 147 с.

16.Белецкий А.В. Краткий исторический обзор деятельности управления Виленского учебного округа (1803-1869 г.) – Вильна: тип. А.Г.Сыркина, 1903. - 70 с.

17.Белоголов И. Акты и документы, относящиеся к устройству и управлению римско-католической церкви в России: В 2 т.- Петроград, 1915. – Т.1.- 482 с.

18.Блинова Т.Б. Иезуиты в Белоруссии. – Мн.: Беларусь,1990. – 110 с.

19.Блинова Т.Б. Иезуиты в Беларуси. Роль иезуитов в организации образования и просвещения. – Гродно: ГрГУ, 2002. – 427 с.

20.Винтер Э. Папство и царизм. – М.: Прогресс, 1964. – 536 с.

21.Внешняя политика России начала XX века: Документы Российского министерства иностранных дел. Серия первая. 1801-1815 г. – М.: Госполитиздат, 1960. – Т. 1. – 800 с.; 1961. – Т. 2. – 744 с.; 1965. – Т. 4. – 783 с.; Серия вторая.1815-1830 г. – М.: Госполитиздат, 1974. – Т. 1(9). – 822 с.; 1976. – Т. 2.(10). – 904 с.; М.: Политиздат, 1979. – Т. 3 (11). – 878 с.; М.: Наука, 1982. – Т. 5. – 832 с.

22.Габрусь Т.В. Зруйнаваныя святыні // Страчаная спадчына./ Т.В.Габрусь, А.М.Кулагін, Ю.У.Чантурыя і інш. Уклад. Габрусь Т.В. – Мн.: Полымя, 1998. – С. 55-156.

23.Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока. / Т.В.Габрусь. – Мн.: Ураджай, 2001. – 287 с.

24.Ганчарук І. Да пытання аб ролі каталіцкай царквы ў вызваленчым руху Беларусі ў Х ІХ ст. // Наш радавод. – Гродна, 1992. – Кн.4., ч.3.- С. 633-642.

25.Ганчарук І. Структура, становішча і дзейнасць рымска-каталіцкай царквы на тэрыторыі Гродзенскага павета ў 1795-1830 гадах // Весці Нацыянальнай АН Беларусі. Сер. гум. навук. – 1999. - № 4. – С. 13-19.

26.Ганчарук І. Навучальныя ўстановы рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі: канец XIV-XX ст. // Беларусіка=Albaruthenica 6. Беларусь паміж Усходам і Захадам: Праблемы міжнацыян.,міжрэлігійн. І міжкультур. узаемадзеяння, дыялогу і сінтэзу. Ч.1. / Рэд. Ул. Конан і інш. – Мн.: ННАЦ імя Ф.Скарыны, 1997. – С. 180-187.

27.Ганчарук І. Рымска-каталіцкая царква на Беларусі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. – Мн., 2001. – Т.6. Кн.1.- С. 154-155.

28.Ганчарук І. Правінцыя ордэна // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. – Мн., 1999. – Т. 5. - С. 557.

29.Ганчарук І. Правінцыя царкоўная // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. – Мн., 1999. – Т. 5. – С. 557-558.

30.Ганчарук І. Пробашч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі.- Мн., 1999. – Т. 5. – С. 573-574

31.Ганчарук І. Палітыка царызму ў адносінах да каталіцкай царквы (1772-1830 гг.) // Беларускі гістарычны часопіс. – 2002. - № 1. – С. 39-46.

32.Ганчарук І. Становішча і арганізацыйная структура Рымска-Каталіцкага Касцёла на беларускіх землях у складзе Расейскай імперыі // Гістарычны альманах. – Гародня, 2002. – Т. 6. – С. 97-116.

33.Ганчарук І.Г. Касцёл і гістарычная свядомасць каталіцкага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі ў канцы XVIII-першай трэці ХІХ ст. (спосабы ўплыву) // Наш радавод. – Гродна, 1996. – Кн. 7. – С. 259-263.

34.Ганчарук І.Г. Фарміраванне парафіяльнай сеткі Слонімскага дэканата ў XVII-XX стагоддзях // Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў: Матэрыялы гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі, прысвечанай 750-годдзю горада Слоніма і 70-годдзю заснавання Слонімскага раённага

краязнаўчага музея ім.І.І.Стаброўскага. / Складальнікі Д.С.Аляшкевіч, І.П.Крэнь; Пад рэд. І.П.Крэня. – Слонім друк., 2002. – С. 219-224.

35.Ганчарук І. Фарміраванне парафіяльнай сеткі Радунскага дэканата // З гісторыі краю і лёсаў людзей Воранаўшчыны: матэрыялы навук. гіст.-краязн. канф. (г.п. Радунь, 11 снежня 2004) – Ліда, 2006. – С. 61-68.

36.Ганчарук І. Рымска-Каталіцкі Касцёл на беларускіх землях у 1772-1830 гг. // Studia Theologika Grodnensia. – Гродна,2009. – Т. ІІІ. – С. 165-178.

37.Ганчарук І. Каталіцкія манаскія ордэны на Беларусі ў 1770-х - 1820-х гг. (спецыфіка духоўнасці і фармацыйныя дамы) // Гістарычны альманах. – Гародня, 2003. – Т.9.- С.185-196.

38.Гардзееў Ю. З гісторыі гарадзенскіх масонаў // Гістарычны альманах. – Гародня, 2001. – Т. 5. – С. 78-104.

39.Гончарук И. Римско-католическая церковь и религиозная жизнь в Беларуси в конце XVIII-первой половине XIX вв. (по материалам белорусских архивов) // Proceedings of the commission internationale d’histoire ecclesiastiqe comparee, Lublin 1996. Part 4. Churches – States – Nations. In the enlight enment and in the nineteenth century. – Lublin: In-t Europy Środkowo – Wschodniej, 2000. – S.187-200.

40.Горизонтов Л.Е. Польский вопрос и конфессиональная политика самодержавия (30-е годы XIX – начало XX вв.) // Katolicyzm w Rosji i prawosławie w Polsce ( XI - XX w.). Pod red. J.Bardacha. – Warszawa: Upowszechnianie nauki - Oświata “UN – O“, 1997. – S. – 270-276.

41.Горючко П. Из истории воссоединения униатов в Белоруссии 1795-1805 годов. – К.: тип. И.И.Горбунова, 1902. – 76 с.

42.Григорьева В.В.,Филатова Е.Н. Католическая церковь в Белоруссии: историография проблемы (конец XVIII- начало XX в.) // Наш радавод. – Гродна, 1994. – Кн. 6, ч. 2. – С. 652-661.

43.Грыгор’ева, Філатава В. З гісторыі канфесіянальнага жыцця Віцебскай губерні (канец XVIII – пачатак XIX ст.) // Беларускі гістарычны часопіс. – 1995. – № 2. – С. 45-56.

